


Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

2 САКАВІКА 2001г. № 9/4093 КОШТ 121 РУБ.







# Няміга — нябачная рака

Гэта, мабыць, самая славутая рака Беларусі — хоць яе і няма на мапе. Ёсць гарадская вуліца, што носіць імя ракі. Вілася рэчка і вілася вузкая вуліца ўздоўж яе берагоў. Цяпер Няміга — прамая і шырокая. Рака — пад ёю, загнаная ў калектар. Жылі на вуліцы гандляры і рамеснікі. Цяпер тут з аднаго боку стаіць велізарны "Гандлёвы дом на Нямізе", другі пакуль не забудаваны. Але падобна на тое, што тут з часам з'явіцца аўтастаянка ў некалькі паверхаў. Тады ад старой Нямігі ўвогуле нічога не застанецца, акрамя Петрапаўлаўскай царквы — колішняй архітэктурнай дамінанты вуліцы. Цяпер царква заціснута гмахамі і здаецца маленькай.

Шкада старой Нямігі, шкада ракі, схаванай пад асфальтам. Але і ў сённяшнім Мінску вуліца адыгрывае тую ж ролю, што і ў Мінску колішнім, і па-ранейшаму застаецца адной з галоўных. Найперш — у свядомасці мінчукоў. Калі ведаеш гісторыю, калі любіш свой горад, дык пачуеш раку пад асфальтам.

**П. В.**

*Фота М. ПРУПАСА*







# КОЛА ДЗЁН

***Вось і дажылі да сакавіка. Праўда, хоць на вуліцы сонечна, але марозна, як калісьці зімой... І ўсё ж на вуліцы вясна. Якой яна будзе для нашай краіны? Якой яна будзе для кожнага з нас? Як гаворыцца, пажывём — пабачым. Тым больш, што Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь прыняў пастанову "Аб удасканаленні аплаты працы работнікаў арганізацый, якія фінансуюцца з бюджэту і карыстаюцца дзяржаўнымі датацыямі". У мэтах далейшага ўдасканалення аплаты працы гэтай катэгорыі работнікаў урад устанавіў з 1 сакавіка 2001 года мінімальную заработную плату ў памеры 5700 рублёў.Сума не такая ўжо і вялікая, але ў наш час і гэта прыемна. Тым больш перад святам 8 Сакавіка. Са святам, шаноўныя жанчыны!***

## ПОСПЕХ ТЫДНЯ

У немалой ступені дабрабыт кожнага з нас залежыць не толькі ад таго, як мы працуем на сваіх працоўных месцах, але і ад таго, як, калі можна так сказаць, працуе наша краіна, а дакладней, якая ў яе знешнегандлёвая дзейнасць. Летась аб'ём знешнегандлёвага абароту Беларусі склаў 15856,5 млн. долараў. У фактычных цэнах ён павялічыўся ў параўнанні з 1999 годам на 26 працэнтаў. А дакладней, гандаль з краінамі СНД павялічыўся на 32,2 працэнта, а з далёкім замежжам — на 15,6 працэнта. Словам, не так ужо і ўсё дрэнна. Але...

## ДАМОЎЛЕНАСЦЬ ТЫДНЯ

Паміж урадам Беларусі і Міжнародным валютным фондам дасягнута папярэдняя дамоўленасць аб ажыццяўленні праграмы эканамічнай рэформы тэрмінам на 6 месяцаў, маніторынг якой будуць ажыццяўляць супрацоўнікі. Праграма не прадугледжвае якой-небудзь фінансавай падтрымкі. Аднак калі яе ажыццяўленне будзе паспяховым, гэта дапаможа прывесці да больш шырокага супрацоўніцтва паміж Беларуссю і МВФ і, магчыма, да выдзялення крэдытных рэсурсаў стэнд-бай. Пагадненне падлягае зацвярджэнню ў кіраўніцтве МВФ і будзе ажыццяўляцца пры ўмове выканання беларускімі ўладамі трох "абавязковых папярэдніх умоў". На жаль, умовы не вельмі прыемныя для нас...

## ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

На сённяшні дзень чалавеку застацца без працы — гэта не толькі катастрофа для самога беспрацоўнага, але і для ўсёй сям'і, дзе ён жыве. І не дзіўна, бо, гледзячы на цэны ў крамах, і ў працуючага не заўсёды добры настрой. Мяркуецца, што ў нашай сталіцы колькасць беспрацоўных не перавышае 14 тысяч, або 1,3 працэнта ад усяго працаздольнага насельніцтва. Аднак скрытае беспрацоўе ў Мінску значна большае — каля 8-10 працэнтаў. І асноўная маса беспрацоўных, на жаль, — моладзь ва ўзросце да 30 гадоў (60,6 працэнта). Кожны пяты з іх — выпускнік. Толькі ў мінулым годзе ў якасці беспрацоўных зарэгістраваліся 572 выпускнікі, з іх 125 чалавек — юрысты і эканамісты. Няўжо нам не патрэбны спецыялісты?

## ПРЭМ'ЕРА ТЫДНЯ

27 лютага ў тэатральнай зале Купалаўскага тэатра адбылася прэм'ера спектакля "Вечар", які паставіў тэатр-студыя пры Саюзе тэатральных дзеячаў "Вольная сцэна" пад кіраўніцтвам лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Валерыя Мазынскага. П'еса "Вечар" напісана Аляксеем Дударавым 20 гадоў назад і ставілася ўжо шмат разоў, але, на думку рэжысёра, не згубіла сваю актуальнасць і сёння.

## ВЕСТКА ТЫДНЯ

З далёкага замежжа прыйшла вестка — пісьменніца Святлана Алексіевіч стала лаўрэатам прэміі імя Эрых-Марыя Рэмарка. Гэтай прэміяй былі адзначаны яе творы "У вайны не жаночае аблічча", "Цынкавыя хлопчыкі", "Зачараваныя смерцю" і апошняя кніга "Чарнобыльская малітва". Узнагарода імя Рэмарка заснавана мэрыяй нямецкага горада Оснабрука, дзе нарадзіўся пісьменнік.

## СПІС ТЫДНЯ

Здавалася б, такое слова, як піраты, засталося далёка ў мінулым, але — не... Піраты раней былі на моры, а цяпер іх хапае на сушы. Паводле звестак Міжнароднага альянсу аховы інтэлектуальнай уласнасці (ЗША), за мінулы год урон ад музычнага пірацтва ў Беларусі склаў 28 мільёнаў долараў. Гэты паказчык на 3 мільёны большы за вынікі аналагічнага даследавання 1999 года. Дзякуючы гэтым лічбам Беларусь уключана ў спіс 70 краін, у якіх, на думку амерыканскіх спецыялістаў, сітуацыя з аховай аўтарскіх правоў пакідае жадаць лепшага. Узначальвае спіс наша суседка — Украіна. Па ацэнках экспертаў, штогадовыя страты ад украінскага пірацтва толькі ў сферы гуказапісу перавышаюць 200 мільёнаў долараў. У спісе піратаў мы недзе пад самы канец. І ўсё ж піраты — гэта піраты...

## КЛОПАТ ТЫДНЯ

Нягледзячы ні на што, прагнозы, што ў лютым нашу краіну наведае страшная эпідэмія грыпу, не спраўдзіліся. І гэта добра. А не спраўдзіліся, відаць, усё-ткі таму, што нам на гэты раз пашанцавала — проста эпідэмія грыпу ў гэтым годзе насіць слабавыяўлены характар практычна ва ўсіх еўрапейскіх і азіяцкіх краінах з-за таго, што да цяперашняга вірусу ў большасці насельніцтва выпрацаваўся імунітэт. І ўсё ж за апошнія тры тыдні лютага было зарэгістравана больш за 200 тысяч выпадкаў захворвання на грып і вострыя рэспіраторныя інфекцыі. Самым хворым горадам на сённяшні дзень з'яўляецца Ліда. А вось Маладзечну, Баранавічам, Наваполацку і Салігорску сёлета амаль не давялося хварэць. І дзякуй Богу!

## ВЫСТАВА ТЫДНЯ

З 27 лютага па 2 сакавіка ў Мінску праходзіла міжнародная выстава "Ахова здароўя Беларусі". Сваю прадукцыю на ёй прадставілі каля 200 фірмаў з двух дзесяткаў краін. Сярод экспанатаў — лекі, стаматалагічнае, аптычнае і самае разнастайнае лабараторнае і дыягнастычнае абсталяванне. Было на што пагладзець і што купіць. Аднак большасць — глядзела...

## ПЕРАСЦЯРОГА ТЫДНЯ

У гэтым годзе як ніколі на рэках і азёрах вельмі нетрывалы лёд. Ад гэтага і беды. З пачатку года ў нашай краіне праваліліся пад лёд і патанула 30 чалавек. З іх 10 дзяцей (летась за ўсю зіму толькі 7). І хоць на вуліцы сакавік, але яшчэ наперадзе дастаткова часу для маразоў і завей, таму будзьце асцярожнымі на рэках і азёрах — лёд вельмі нетрывалы. Памятайце пра гэта!

# Калегія Дзяржкамдруку

28 лютага адбылося пашыранае пасяджэнне калегіі Дзяржкамдруку РБ. Са справаздачным дакладам "Аб выніках работы галіны ў 2000 г. і асноўных задачах Дзяржкамдруку на 2001 г." выступіў яго старшыня Міхаіл Падгайны. Ён грунтоўна разгледзеў сённяшняе становішча ў выдавецкай справе, акрэсліў шляхі пераадолення цяжкасцяў у выданні і распаўсюджанні беларускіх кніг і перыёдыкі. У спрэчках пра гэтыя праблемы шчыра і зацікаўлена гаварылі дырэктар Паліграфічнага камбіната імя Я. Коласа Валеры Германаў, дырэктар Фабрыкі каляровага друку Аляксандр Аксёненка, дырэктар выдавецтва "Юнацтва" Алесь Камароўскі, старшыня Беларускага саюза журналістаў Леанід Екель і інш. Падводзячы вынікі пасяджэння калегіі, Міхаіл Падгайны запэўніў прысутных, што Дзяржкамдрук будзе хадайнічаць перад урадам аб пралангацыі пастановы, якая давала значныя льготы на выдавецкую дзейнасць.

**Н. К.**

ВЫСТАВЫ

# "Чытаю, пішу — жыву"

У Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры адкрылася выстава "І. Шамякін. Час. Людзі. Кнігі", прысвечаная 80-годдзю з дня нараджэння народнага пісьменніка Беларусі. Дарэчы, гэта другая выстава, якую робіць музей. Першая была пяць гадоў таму, калі святкавалі 75-годдзе празаіка. Шмат матэрыялаў Іван Пятровіч пакінуў музею, і таму сённяшняя выстава зроблена практычна з уласных фондаў. Шамякін вельмі прыязна ставіцца да музеяў, сведчаннем таму з'яўляюцца новыя прадметы з сямейнага архіва, што прадстаўлены на экспазіцыі. Тут жа змешчаны і ілюстрацыі Арлена Кашкурэвіча, Анатоля Александровіча, Канстанціна Ракіцкага да твораў пісьменніка.



Галоўная ідэя выставы заключаецца ў яе назве — паказаць самае важнае ў жыцці кожнага пісьменніка — яго кнігі. Сам Іван Пятровіч адзначае, што для яго жыць — значыць пісаць. Ён піша для нас з вамі, піша пра нас. Як хутка разыходзяцца кнігі Шамякіна з бібліятэчных паліц, кніжных крам, гаворыць пра тое, што пісьменніка заўсёды з вялікай цікавасцю чыталі і чытаюць.

На выставе дэманструюцца часопісы, кнігі з творамі Івана Шамякіна, якія ідуць як бы ад падножжа гары ўверх — ад першай публікацыі ў часопісе "Полымя" N 11-12, 1945 г. аповесці "Помста" да твораў, надрукаваных у 2000 годзе. На самым версе гэтай умоўнай "пірамідьі" — кнігі "Роздум на апошнім перагоне" (дзённікі пісьменніка 1980—1995 гадоў) пра свой жыццёвы і творчы шлях. На святочнай вечарыне ў Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы Іван Шамякін адзначыў, што зараз ён чытае больш мемуары, дзённікі пісьменнікаў. Відаць, сэрцу цяпер бліжэй пачуцці і роздумы сваіх аднагодкаў.

Калі пісьменнік знаёміўся з юбілейнай выставай, то шчыра быў уражаны колькасцю сваіх кніг, сабраных у адным месцы — як многа напісана за гады жыцця!.. Цёплыя словы на вечарыне, якая адбылася падчас адкрыцця выставы, сказаў сябар Алесь Савіцкі. Выступілі таксама Мікола Мятліцкі, Алесь Пісьмянкоў, Анатоль Бутэвіч. Віншавалі юбіляра і музейшчыкі Аб'яднання дзяржаўных літаратурных музеяў Рэспублікі Беларусь. Вельмі сімвалічным быў адзін з падарункаў — стос чыстай паперы для будучых апавяданняў, аповесцяў, раманаў...

**Вольга ГУЛЕВА**

*Фота Валерыя СІБРЫКАВА*

ПРЭЗЕНТАЦЫІ

# Суд сумлення — самы галоўны

Дзве кнігі Таісы Бондар пабачылі свет апошнім часам. Адна — "Імёны айца і сына" — з'явілася ў выдавецтве "Мастацкая літаратура", другая — "Бог зусім побач". "Старонкі з дзённіка", пра якую "ЛіМ" пісаў некалькі нумароў назад, выйшла ў недзяржаўнай выдавецкай структуры. І абедзве выклікалі да сябе павышаны чытацкі інтарэс. Невыпадкова, што на прэзентацыю іх, якая адбылася ў Грамадскім прэс-цэнтры Дома прэсы ў Мінску, прыйшлі пісьменнікі, прадстаўнікі вядучых сродкаў масавай інфармацыі.

У зацікаўленай гаворцы прынялі ўдзел Георгій Марчук, Эдуард Скобелеў, Генрых Далідовіч, Раіса Баравікова, Алесь Савіцкі, Уладзімір Карызна... Адзначалася, што ў наш час, калі размываюцца маральныя крытэрыі, а грамадства знаходзіцца перад пагрозай поўнай дэградацыі, якраз і неабходны кнігі, падобна тым, якія напісала Т. Бондар, бо ў іх не проста ўзнімаюцца вострыя надзённыя праблемы, а гучыць голас нашай сучасніцы жанчыны, якая, перш чым патрабаваць духоўнага ўдасканалення ад іншых, сама імкнецца да яго, ніколі не забываючы, што ёсць на зямлі суд самай высокай і вечнай інстанцыі — суд сумлення. Прыйсці да яго можна годна тады, калі не проста жыць годна, а і пастаянна пераацэньваць свой шлях і шлях, пройдзены народам. Гэтым жаданнем і прасякнуты творы Т. Бондар.

Як адзначалі выступоўцы, сімпатычна назва другой кнігі з тых, што абмяркоўваліся на прэзентацыі. Сапраўды, Бог побач з намі, але трэба, каб ён быў і ў нас, а дзеля гэтага неабходна жыць па самым высокім рахунку сумлення. Паступова гаворка перарасла ў дыскусію аб духоўнасці і бездухоўнасці сучаснага чалавека, грамадства, свету. Актыўна ўключалася ў яе і сама вінаўніца прэзентацыі, калі пасля кожнага выступоўца, у чымсьці дапаўняла яго, у нечым не пагаджалася. А ў выніку атрымалася размова, якая нікога не пакінула абыякавым.

Дарэчы, Грамадскі прэс-цэнтр мае намер у далейшым прэзентацыі найбольш цікавых кніг, што выйшлі апошнім часам, зрабіць традыцыйнымі.

**Н. К.**

АДГАЛОСКІ

# Адсутнасць логікі

На Беларускім тэлебачанні нядаўна прайшоў фільм "Душэхваты" ў серыі фільмаў Ю. Азаронка. Аўтар узяўся за тэму пра дзейнасць Каталіцкага Касцёла ў свеце і на Беларусі, відаць, не ведаючы ні гісторыі Касцёла, ні яго душпастарскай дзейнасці. Гледачам адразу кідаецца ў вочы непрафесійнасць мантажу фільма і поўная адсутнасць логікі сюжэта.

Фільм уяўляе сабою мазаіку асобных эпізодаў з розных гістарычных кінастужак, калі за некалькі секунд змяняюцца кадры з фільмаў пра падзеі трынаццатага, шаснаццатага і дваццатага стагоддзяў. Напрыклад, аповед пра езуітаў (ордэн створаны ў 16 ст.) ілюструецца кадрамі з фільма "Александр Невский" (паказвае падзеі 13 ст.). Прымітыўныя ўстаўкі пра Рымскага Папу і каралёў, што, паводле пададзенага тэксту, цалуюць туфель, прымушаюць задумвацца, ці ведае аўтар фільма, што калісьці, вельмі даўно, цалавалі крыж на туфлі, а не сам туфель.

У фільм пра Каталіцкі Касцёл уведзены кадры пра Я. Гайдара, Б. Ельцына, М. Гарбачова, якія да Каталіцкага Касцёла не маюць ніякага дачынення. Далей чамусьці сцвярджаецца, што згаданыя асобы, а таксама кароль Ягайла, знаходзіліся пад моцным уплывам сваіх жонак, таму выконвалі волю Захаду. Зусім недарэчы раптам пачынаецца гаворка пра НАТА (без якога, відаць, фільм не меў бы сваёй паўнаты), а затым магутнасць нашых Узброеных Сіл ілюструецца вайсковым парадам.

Пагардлівае стаўленне не толькі да Каталіцкага Касцёла, але і да яго іерархаў — Рымскага Папы, кардыналаў, біскупаў — прымушае нас выступіць з пратэстам супраць безгустоўнага, антыгістарычнага фільма, які прыніжае і зневажае наш народ, частка якога з'яўляецца католікамі, і вядзе да распальвання міжканфесійнай варожасці. Шкадуем, што беларускае тэлебачанне паказвае такога кшталту нізкапробныя прапагандысцкія фільмы, якія штурхаюць гледачоў у бездань невуцтва, цемрашальства, сляпой агрэсіі і нянавісці. Лічым недапушчальным паказ на БТ фільмаў, якія носяць антыдзяржаўны, антыграмадскі, антыбеларускі, антычалавечы характар.

**Анатоль ГРЫЦКЕВІЧ**
**Уладзімір КОНАН**
**Адам МАЛЬДЗІС**
**Генадзь САГАНОВІЧ**
**Любоў УЛАДЫКОЎСКАЯ-КАНАПЛЯНІК**

# Для развіцця культуры і мастацтва

***Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр ЛУКАШЭНКА падпісаў пратакол даручэнняў, дадзеных на нарадзе “Аб мерах па вырашэнні праблем развіцця культуры і мастацтва”, у якім гаворыцца:***

**1. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь у першым паўгоддзі 2001 г.:**

1.1. падрыхтаваць праекты ўказаў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па наступных пытаннях:

аб вызваленні дзяржаўных арганізацый культуры і мастацтва, што фінансуюцца з бюджэту і карыстаюцца дзяржаўнымі датацыямі, ад налічэння і выплаты падаткаў і іншых абавязковых плацяжоў у бюджэт, акрамя ўзносаў па дзяржаўным сацыяльным страхаванні ў Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва Міністэрства сацыяльнай абароны і плацяжоў у Дзяржаўны фонд садзеяння занятасці, у частцы сродкаў, атрыманых ад аказання паслуг у сферы культуры і мастацтваў;

аб прадастаўленні арганізацыям культуры і мастацтва права ўстанаўліваць свабодныя цэны на паслугі культуры без абмежавання іх павелічэння гранічнымі індэксамі змены адпускных цэн (тарыфаў) і з улікам попыту насельніцтва;

аб вызваленні асацыяцыі грамадскіх аб'яднанняў “Беларуская канфедэрацыя творчых саюзаў і культурных фондаў” і творчых саюзаў Рэспублікі Беларусь ад выплаты падатку на прыбытак, які атрымліваецца ад рэалізацыі тавараў (работ, паслуг), што ажыццяўляецца ўказанымі асацыяцыяй і творчымі саюзамі, ад выплаты падатку на дададковую вартасць;

аб вызваленні дзяржаўных прадпрыемстваў па кінавідэавытворчасці ад выплаты падатку на прыбытак у частцы грашовых сродкаў, што паступаюць ад інвестараў, пры ўмове накіравання вызваленых у выніку прадастаўлення падатковай ільготы грашовых сум на кінавідэавытворчасць;

аб устанаўленні пачынаючы з 2001 года вядучым творчым работнікам за выдатны ўклад у развіццё беларускай культуры, мастацтва і літаратуры 100 персанальных надбавак у памеры да 30 тарыфных ставак першага разраду тэрмінам на адзін год;

1.2. унесці ў пастанову Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 13 лістапада 1998 г. N 1746 “Аб спагнанні платы за выдачу ліцэнзій на ажыццяўленне гастрольна-канцэртнай дзейнасці” дапаўненне аб вызваленні творчых саюзаў і дзяржаўных культурна-асветных устаноў ад платы за выдачу ім ліцэнзій;

1.3. падрыхтаваць праект распараджэння Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь аб выдаткаванні бюджэтных сродкаў на ажыццяўленне кінапраекта “Анастасія Слуцкая”;

1.4. унесці дапаўненне ў пастанову Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 30 лістапада 1998 г. N 1842, прадугледзеўшы для работнікаў культуры і мастацтва ўвядзенне кантрактнай формы найму на працу ў раёнах радыёактыўнага забруджання;

1.5. унесці прапанову аб выдаткаванні з рэзервнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь сродкаў на капітальны рамонт Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Максіма Горкага;

1.6. разгледзець пытанне аб перайменаванні Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа ў Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя Якуба Коласа;

1.7. з мэтай павышэння эфектыўнасці работы ў галіне захавання, аднаўлення і выкарыстання помнікаў культуры рэарганізаваць Камітэт па ахове гісторыка-культурнай спадчыны і Камітэт па рэстаўрацыі і кансервацыі помнікаў у адзіны Камітэт пры Міністэрстве культуры;

1.8. унесці прапанову аб стварэнні на базе Дома літаратара (вул. Фрунзе, 5) Рэспубліканскага Дома творчых работнікаў.

**2. Міністэрству працы па прадастаўленні Міністэрства культуры да 1 чэрвеня 2001 г. разгледзець:**

2.1. пытанні аплаты працы работнікаў творчых арганізацый і калектываў, якія маюць найменне “нацыянальны”, званні “акадэмічны” і “заслужаны”;

2.2. праекты тарыфна-кваліфікацыйных характарыстык па пасадах работнікаў культуры і мастацтва і пры неабходнасці ўключыць іх у кваліфікацыйны даведнік пасад работнікаў культуры і мастацтва.

**3. Міністэрству фінансаў пры фарміраванні бюджэту на чарговы год улічваць выдаткі на:**

стварэнне новых пастановак і канцэртных праграм, правядзенне гастроляў тэатральна-відовішчнымі арганізацыямі пры захаванні аб'ёму субсідый, што выдаткоўваюцца на заработную плату з налічэннямі і камунальныя выдаткі;

умацаванне матэрыяльна-тэхнічнай базы Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства “Белвідэацэнтр”;

набыццё музычных інструментаў і сучасных тэхнічных сродкаў навучання для навучальных устаноў культуры і мастацтвао;

камплектаванне бібліятэчных фондаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі для забеспячэння навуковага патэнцыялу рэспублікі;

мэтавае набыццё кінавідэафільмаў для дзяцей і юнацтва.

**4. Міністэрству эканомікі:**

4.1. прадугледзець у Дзяржаўнай інвестыцыйнай праграме на 2002 год сродкі на будаўніцтва інтэрната Мінскага мастацкага вучылішча імя А. К. Глебава і распрацоўку праектна-каштарыснай дакументацыі для Мінскага музычнага вучылішча імя М. І. Глінкі;

4.2. запланаваць выдаткоўванне сродкаў на:

рэстаўрацыю будынка творчага аб'яднання “Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Рэспублікі Беларусь”, Нацыянальнага гісторыка-культурнага запаведніка “Нясвіж”, замка ў г. п. Мір Карэліцкага раёна Гродзенскай вобласці;

будаўніцтва прыбудовы да Нацыянальнага мастацкага музея, праектаванне і будаўніцтва Музея сучаснага выяўленчага мастацтва, Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, культурна-аздараўленчага комплексу Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры, нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі;

4.3. забяспечыць выдаткаванне сродкаў для заканчэння работ па рэканструкцыі мемарыяльнага комплексу “Брэсцкая крэпасць-герой”, правядзенні поўнага аб'ёму работ па рэканструкцыі мемарыяльнага комплексу “Хатынь” і Кургана Славы;

4.4. прадугледзець павелічэнне прыёму на 2002 год у вышэйшыя навучальныя ўстановы культуры і мастацтва па дзённай і завочнай формах навучання на 50 чалавек.

**5. Міністэрству культуры:**

5.1. сумесна з Міністэрствам працы, Міністэрствам юстыцыі і Міністэрствам фінансаў унесці ў першым паўгоддзі 2001 г. у Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь прапанову аб прадастаўленні права кіраўнікам тэатраў і канцэртных арганізацый пры заключэнні кантрактаў з вядучымі творчымі работнікамі ўстанаўліваць памер заработнай платы з узгадненні бакоў у межах зацверджанага фонду заработнай платы;

5.2. сумесна з аблвыканкамамі і Мінскім гарвыканкамам, Дзяржаўным камітэтам па справах моладзі, грамадскімі аб'яднаннямі арганізаваць пачынаючы з 2001 года спаборніцтва за лепшую пастаноўку работы ўстаноў культуры па канцэртным і тэатральным абслугоўванні сельскага насельніцтва рэспублікі;

5.3. сумесна з Міністэрствам працы і Міністэрствам фінансаў распрацаваць у 2001 годзе палажэнне аб заслужаным аматарскім калектыве Рэспублікі Беларусь, а таксама перагледзець тыпавыя штаты і ўмовы аднясення да груп па аплаце працы метадычных цэнтраў, дамоў рамёстваў;

5.4. правесці ў першым паўгоддзі 2001 г. рэарганізацыйныя мерапрыемствы ў галіне канцэртнага абслугоўвання насельніцтва рэспублікі, накіраваныя на ўвядзенне адзінай рэспубліканскай сістэмы рэгулявання канцэртнай дзейнасці і павышэнне эфектыўнасці работы галаўных канцэртных арганізацый;

5.5. сумесна з Міністэрствам абароны ўнесці адпаведныя прапановы аб прадастаўленні артыстам балета адтэрміноўкі ад прызыву на вайсковую службу.

**6. Міністэрству адукацыі па прапанове Міністэрства культуры да 1 верасня 2001 г. вырашыць пытанне аб увядзенні ў вучэбныя планы сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў культуры і мастацтва з улікам іх спецыфікі інтэграванага прыродазнаўча-матэматычнага курсу ў аб'ёме да 70 гадзін.**

**7. Дзяржаўнаму камітэту па навуцы і тэхналогіях:**

7.1. разгледзець пытанне аб уключэнні ў пералік навуковых праграм стварэнне навукова-творчай лабараторыі па камп'ютэрным дызайнерскім праектаванні Беларускай акадэміі мастацтваў, навукова-вытворчай лабараторыі “Беларускія народныя музычныя інструменты” Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры;

7.2. уключыць у Дзяржаўную праграму інфарматызацыі Рэспублікі Беларусь на 2001—2005 гады праекты па аўтаматызацыі бібліятэк.

**8. Дзяржаўнаму камітэту па друку:**

8.1. разгледзець пытанне аб пашырэнні пераліку сацыяльна значнай літаратуры для камплектавання бібліятэчных фондаў;

8.2. прадугледзець размяшчэнне дзяржаўнага заказу на выданне сацыяльна значнай літаратуры ў дзяржаўных выдавецтвах і друкарнях на тэндарнай аснове.

**9. Мінскаму гарвыканкаму:**

9.1. вырашыць пытанне аб вылучэнні дадатковых памяшканняў для фондасховішча нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі, паляпшэння ўмоў вытворча-творчай дзейнасці Дзяржаўнага тэатра лялек, Мінскага драматычнага тэатра “Дзе-Я?”, Тэатра-студыі кінаакцёра;

9.2. прыняць рашэнне аб прапісцы артыстаў тэатраў, кіно і канцэртных арганізацый у г. Мінску па заяўцы Міністэрства культуры без платы за прапіску і сумесна з указаным міністэрствам ажыццявіць у 2002 годзе будаўніцтва інтэрната сямейнага тыпу для творчых работнікаў.

**10. Аблвыканкамам, Мінскаму гарвыканкаму сумесна з зацікаўленымі арганізацыямі:**

10.1. запланаваць у першым паўгоддзі 2001 г. будаўніцтва жылля для работнікаў культуры і мастацтва з выдаткаваннем ільготных крэдытаў: у г. Мінску — не менш за два жылыя дамы па 150 кватэр, у абласных гарадах — па адным жылым доме, у раённых цэнтрах — кватэр адпаведна з заданнем аблвыканкамаў;

10.2. забяспечваць штогадовае вылучэнне для маладых спецыялістаў і творчых работнікаў культуры і мастацтва пяці службовых кватэр.

**11. Аблвыканкамам распрацаваць доўгатэрміновую праграму матэрыяльна-тэхнічнага абсталявання сельскіх устаноў культуры з мэтай карэннага паляпшэння арганізацыі культурнага жыцця на сяле.**

**12. Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі сумесна з Міністэрствам культуры, Міністэрствам адукацыі і Дзяржаўным камітэтам па друку прадугледзець у 2001 годзе і наступныя гады выпуск праграм, якія адлюстроўваюць багацце культурнай спадчыны Беларусі, сучаснай беларускай культуры і беларускай мовы, дасягненні творчай моладзі, а таксама прысвечаных дзеячам культуры і мастацтва.**

**13. Кантроль за выкананнем даручэнняў, дадзеных у гэтым пратаколе, ускласці на Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь (М. І. Дзямчук) і Адміністрацыю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь (В. П. Замяталін).**

**Прэзідэнт
Рэспублікі Беларусь
А. ЛУКАШЭНКА**

*21.02.2001*

АБСЯГІ

## ВІЦЕБШЧЫНА...

### Майстры партрэта

У абласным краязнаўчым музеі адкрылася выстава сучаснага партрэта, якая стала яркай падзеяй у культурным жыцці Віцебска. Мясцовыя мастакі гэтым вернісажам яшчэ раз пацвердзілі свой высокі прафесійны ўзровень. На выставе прадстаўлены самыя розныя мастацкія плыні. Гэта работы рэалістаў партрэтнага жывапісу Пятра Явіча, Ісака Бароўскага, а таксама творы майстроў-авангардыстаў Леаніда Мядзведскага, Аляксандра Салаўёва, Мікалая Дундзіна. Адкрылі для сябе гледачы творчасць Ірыны Магучай, Генадзя Шутава, Вікенція Ральцэвіча, Віктара Шылкі.

### Першая кніга

У Віцебскім літаратурным музеі прайшла прэзентацыя кнігі Мікалая Намеснікава “Забытые небеса”. Гэта першая кніга віцебскага паэта. У прэзентацыі бралі ўдзел пісьменнікі Франц Сіўко, Давід Сімановіч, Анатоль Канапелька, Сяргей Рублеўскі, былыя выпускнікі філфака мясцовага дзяржуніверсітэта, настаўнікі.

### Узнагарода — пісьменніцы

Днямі полацкая пісьменніца Ірына Жарнасек атрымала Памятны знак “2000 год хрысціянству”. Узнагароды пісьменніца ўдастоена па рашэнні Нацыянальнага аргкамітэта па падрыхтоўцы да сустрэчы трэцяга тысячагоддзя і святкавання двухтысячагоддзя хрысціянства. Такім чынам, адзначаны шматлікія публікацыі Жарнасек пра жыццё каталіцкага касцёла ў часопісах “Дыялог”, “Наша вера”, “Ave Maria”.

**Святлана ГУК**

## ГОМЕЛЬШЧЫНА

### Адзначана таленавітая моладзь

У мастацкім аддзеле абласнога краязнаўчага музея пад мелодыі беларускай народнай музыкі адбылося ўручэнне спецыяльных прэмій аблвыканкама за творчыя дасягненні. Адзначаны васемнаццаць юнакоў і дзяўчат. Гэта навучэнцы школ мастацтваў, сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў культуры, маладыя артысты тэатральна-відовішчных устаноў. Прэміі ўручыў старшыня аблвыканкама Мікалай Вайцянкоў.

### Дакументы мужнасці

У Ельскім раёне ў гады Вялікай Айчыннай вайны быў шырока разгорнуты партызанскі рух. Разам з беларускімі мсціўцамі змагаліся і прадстаўнікі іншых народаў. А славак Ян Налепка нават стаў Героем Савецкага Саюза. Па Ельшчыне праходзіў рэйд з Украіны да Карпат партызанскага злучэння С. Каўпака. Былы юны партызан-каўпакавец, а цяпер пенсіянер Сяргей Цітавіч Новік перадаў у дар мясцоваму краязнаўчаму музею шматлікія дакументы пра мужнасць братоў-славян.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

## ГРОДЗЕНШЧЫНА...

### Ад Афгана — да Бога

Лідскі фотамайстар Ігар Пешахонаў у свой час прайшоў школу воіна-інтэрнацыяналіста ў Афганістане. Мо таму жыццёвыя шляхі прывялі яго да Бога. “Час збіраць камяні” — так называлася першая частка яганага праекта “Лідчына мінулага стагоддзя”, на якой былі прадстаўлены мастацкія здымкі ўсіх хрысціянскіх храмаў Ліды і раёна. На выставе — каля ста выяў цэркваў, касцёлаў, капліц, малельных дамоў праваслаўнага, каталіцкага, пратэстанцкага веравызнанняў. Побач — нямыя сведчанні людскога вандалізму і паганства: разламаныя крыжы, непатрэбныя надпісы на святых сценах, стаптаныя магілы, пабітыя выявы Хрыста...

Сёлета Ігар Пешахонаў плануе падрыхтаваць другую частку свайго праекта — фотавыставу “Стваральнікі”. Мастак хоча адлюстраваць асоб, імёнамі якіх ганарыцца лідская зямля.

### Жыццё крылатае, як песня...

Сярод Ганаровых грамадзян Гродна — заслужаны дзеяч культуры Беларусі, кампазітар, педагог Аляксандр Шыдлоўскі. 35 ягоных песень выдадзены асобным зборнікам. Ён удзельнічаў у рэвалюцыйным руху Заходняй Беларусі. Неаднаразова ў той час пераследаваўся і трапляў пад арышт. Пасля 39-га быў артыстам Беларускага ансамбля песні і танца. Закончыў Белдзяржуніверсітэт, настаўнічаў. Узначальваў абласны Дом народнай творчасці. 18 чэрвеня 2001 года Аляксандр Канстанцінавіч адзначыць сваё 90-годдзе...

Усяго званне Ганаровага грамадзяніна Гродна нададзена больш як 20 асобам, у пераважнай большасці ўдзельнікам Вялікай Айчыннай вайны.

### Раіліся краязнаўцы

Беларуская краязнаўчая асацыяцыя (БКА) імя Тодара Нарбута з цэнтрам у Гродне правяла адукацыйны семінар у Лідзе. Удзел у семінары бралі 76 актывістаў пошукавай работы амаль з усіх раёнаў — настаўнікаў, пенсіянераў, школьнікаў, гісторыкаў, інжынераў, прадстаўнікоў маладзёвых грамадскіх арганізацый і суполак нацыянальных меншасцяў, фотамайстроў, рэдактараў мясцовых газет і бюлетэняў краязнаўчага кірунку.

Намеснік дырэктара Скарынаўскага цэнтра Віталь Скалабан адзначыў, што за апошнія дзесяць гадоў назіраецца сапраўдны ўздым краязнаўчай работы. Свае думкі аб развіцці краязнаўства на Гродзеншчыне выказалі старшыня абласной краязнаўчай асацыяцыі, член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук, прафесар Андрэй Майсяёнак, прафесары Гродзенскага універсітэта Сяргей Габрусевіч і Аляксей Пяткевіч...

Удзельнікі семінара з Лідчыны правялі ўстаноўчы сход па стварэнні Лідскага краязнаўчага таварыства як паўнапраўнага сябра БКА. Старшынёй абраны кандыдат гістарычных навук Валерый Сліўкін.

**Антон ЛАБОВІЧ**

## МІНШЧЫНА...

### Памяць гісторыі

Больш чым 15 гадоў дзейнічае ў Дзяржынску Беларускі дзяржаўны архіў кінафотафонадакументаў. Тут сабраны унікальныя аўдыёвізуальныя звесткі аб палітычнай, сацыяльна-эканамічнай і культурнай гісторыі беларускага народа. Архіўныя дакументы карыстаюцца попытам не толькі ў нашай рэспубліцы. Заўжды шмат тут замежных даследчыкаў з Канады, Англіі, Германіі, Польшчы, Літвы. Адна з асноўных тэм, якая цікавіць замежных гасцей, — гісторыя другой сусветнай вайны. Мэта іх даследаванняў — стварэнне хранікальна-дакументальных фільмаў і тэлепраграм, напісанне навуковых прац, арганізацыя фотавыстаў.

**Тамара ШАЎЧЭНКА**

## *"Я свой тут людзям"*

**Пад такой назвай у Маладзечанскай раённай цэнтральнай бібліятэцы прайшла вечарына памяці, прымеркаваная да гадавіны з дня смерці пісьменніка Міколы Капыловіча. Ініцыятарамі яе правядзення выступілі работнікі бібліятэкі і сябры літаратурна-краязнаўчага аб'яднання "Жывіца", якое працуе пры гэтай установе.**

**Мікола Капыловіч нарадзіўся 10 ліпеня 1937 года ў вёсцы Астражанка Лельчыцкага раёна Гомельскай вобласці ў сялянскай сям'і. Скончыў мясцовую сярэднюю школу і філфак БДУ. Працаваў настаўнікам роднай мовы і літаратуры на Ашмяншчыне, рэдактарам у выдавецтвах "Беларусь" і "Мастацкая літаратура", літаратурным сакратаром газеты "Звязда". У 1983 г. пераехаў жыць у Маладзечна. Член СП Беларусі з 1968 года.**

**Першыя публікацыі з'явіліся ў 1960 г. Аўтар кніг прозы: "Скрозь жывуць людзі" (1968), "Засада" (1979), "Дні ціхай восені" (1981), "Чужы сваяк" (1987) ды інш. Асноўная тэматыка твораў — жыццё сучаснай вёскі, праблемы чалавечых узаемаадносін, стан акаляючай прыроды.**

**Творчы шлях пісьменніка на працягу апошніх 17 гадоў жыцця быў звязаны з Маладзечнам. Тут засталіся яго сябры, знаёмыя аднадумцы, якія памятаюць Капыловіча і шануюць лепшыя ягоныя празаічныя творы. З уступным словам на вечарыне памяці выступіў супрацоўнік бібліятэкі Міхась Казлоўскі, які расказаў прысутным пра жыццёвы і творчы шлях пісьменніка, складанасці яго чалавечага лёсу, падзяліўся ўласнымі ўспамінамі. Затым слова ўзяў член Саюза мастакоў Беларусі Васіль Лазоўскі, які згадаў пра свае сустрэчы з творцам, аб ягонай бескарыснасці і дабрыні, а паэт Вячаслаў Шнуркевіч прачытаў новыя вершы, прысвечаныя славутым землякам Маладзечаншчыны. У заключэнне вядучы імпрэзы выступіў з прапановай аб адпаведным ушанаванні памяці пісьменніка ў горадзе. У прыватнасці, ён прапанаваў: да 65-годдзя празаіка прысвяціць яму чарговы нумар гісторыка-краязнаўчага часопіса "Куфэрак Віленшчыны", паспрабаваць выдаць зборнік яго лепшых апавяданняў. Бо, як ні гавары, а быў ён "свой тут людзям".**

**Наталля ПЛОТАВА**

## *Мерапрыемствы працягваюцца...*

**Сёлета на Гомельшчыне шырока адзначаны юбілеі двух народных пісьменнікаў-землякоў — спярша Івана Шамякіна, а потым і Івана Мележа. Але мерапрыемствы, прысвечаныя жыццю і творчасці песняроў зямлі роднай, працягваюцца.**

**У абласной універсальнай бібліятэцы адбыўся "круглы стол" "Упоравень з часам ідучы", прысвечаны І. Шамякіну. Агляд ягонай творчасці зрабіла супрацоўніца бібліятэкі Іна Качубей. Студэнткі-пяцікурсніцы ГДУ імя Ф. Скарыны Святлана Каган, Ганна Чакмарова і Наталля Паддубная асвяцілі ў сваіх выступах такія пытанні, як "Маральная праблематыка ў творах апошніх гадоў Івана Шамякіна", "Гістарычны раман "Вялікая княгіня", "Чарнобыльская трагедыя ў творчасці Івана Шамякіна".**

**Былі падведзены і вынікі віктарыны, прысвечанай творчасці І. Шамякіна, надрукаванай на старонках "Гомельскай праўды". Аглядальнік газеты і паэтэса Тамара Кручэнка ўручыла пераможцам каштоўныя падарункі, шчаслівымі ўладальнікамі якіх сталі жыхар вёскі Даўгалессе Гомельскага раёна Уладзімір Бышык, настаўніца сярэдняй школы N 3 Гомеля Юлія Ярмоленка і жыхарка г. п. Капаткевічы Петрыкаўскага раёна Вольга Зубар.**

**Вёў "круглы стол" сакратар абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў Васіль Ткачоў.**

**На другі дзень у мастацкім аддзеле абласнога музея сабраліся пераможцы літаратурнага конкурсу "Памяці Івана Мележа", які на працягу года праводзілі абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў і калектыў абласной газеты "Гомельская праўда". Фінансаваў конкурс аблвыканкам. Вучням СШ N 44 г. Гомеля расказалі пра сябе, пазнаёмілі з новымі творамі лаўрэаты конкурсу паэты Таіса Мельчанка, Ніна Шклярава, Мікола Ждановіч, Генадзь Говар, Алена Кобзева, Людміла Мароз, Тамара Кручэнка, празаік і публіцыст Васіль Ткачоў.**

**Самадзейныя спявачкі Наталля Расошка і Валянціна Таянкова выконвалі не толькі беларускія народныя песні, але і створаныя на словы некаторых лаўрэатаў мележаўскага конкурсу.**

**Старшыня абласнога Фонду міру Ц. Глушакоў уручыў лаўрэатам сціплыя сувеніры, а тыя, у сваю чаргу, павіншавалі прыхільніка творчасці Івана Мележа з днём нараджэння.**

**Васіль БАРХАНАЎ**

*САМ-НАСАМ З РАДЗІМАЙ І З ЧАСАМ*

Ніл ГІЛЕВІЧ

# Калі "гэта" — тваё жыццё, твой лёс, і калі "гэта" — дзеля прыліку

Зусім нядаўна ў Беларусь прыязджаў знакаміты ўкраінскі паэт і вядомы дзяржаўны дзеяч, старшыня Камітэта інфармацыйнай палітыкі і тэлерадыё ва ўрадзе Украіны Іван Драч. Ён падарыў сябрам па некалькі новых, толькі што выдадзеных кніг — і як аўтар, і як сааўтар. Адна з іх, "Голас і ўлада", развярэдзіла мне душу, як старую рану — настолькі моцна адгукнулася ў ёй жывым рэхам. Гэта кніга ўяўляе сабой інтэрв'ю з вялікім спеваком Украіны Дзмітром Гнацюком — адным з самых знаных у ХХ стагоддзі барытонаў (на шчасце, ён перанёс свой дар і ў ХХІ стагоддзе, і ў свае поўныя 75 па-ранейшаму чаруе ім цэлы свет). Усхвалявала мяне ў ягонай душэўнай споведзі перш за ўсё тое, чаго я заўсёды шукаў і шукаю ў творчых біяграфіях волатаў духу — геніяльных музыкаў, паэтаў, жывапісцаў і скульптараў, артыстаў, дойлідаў... А менавіта — яго стаўленне да родных каранёў, да мовы, культуры і гістарычнага лёсу свайго народа. Пра гэта і хочацца трохі паразважаць.

Але спачатку — некалькі красамоўных цытат з названае кнігі. Настаўнікамі Дз. М. Гнацюка былі славутыя спевакі Іван Патаржынскі і Барыс Гмыра, абодва народныя артысты СССР. Вось што пра іх гаворыць удзячны вучань і сябра, ужо даўно сам і народны артыст СССР, і Герой Сацыялістычнай Працы, і лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР, і на сёння — мастацкі кіраўнік Кіеўскага опернага тэатра. Пра Патаржынскага, які "вёў" Гнацюка ў кансерваторыі: "Гэта вялікі спявак наш, украінец і вялікі патрыёт. Хоць там былі розныя размовы пра яго, але ён нас выхоўваў у патрыятычным духу". Звернем увагу: настаўнік не толькі вучыў высокаму прафесійнаму рамяству, майстэрству, але і выхоўваў вучняў патрыётамі, родалюбцамі. Пра Гмыру: "У той цяжкі час пасляваенны, я, малады спявак, адчуваў, што ён — вялікі патрыёт Украіны. (...) У яго песнях адчувалася заўсёды любоў да роднай зямлі. (...) Я бачыў, што гэты чалавек — не толькі вялікі артыст і спявак, ён яшчэ мае сваю пазіцыю што датычыць сваёй бацькаўшчыны — Украіны. Гэта я адчуваў у яго. І дзесь, так бы мовіць, браў з яго прыклад, хацелася мне быць такім, як ён..." Якім — такім? Гарачым і непахісным патрыётам Украіны. Так і сталася. Усё наступнае жыццё Дзмітра Гнацюка, аж да сёння, пацвярджае гэта. Вось што гаворыць пра сябе і сваю пазіцыю, пра сваю любоў да Украіны, пра сыноўскую вернасць свайму народу, роднай мове і роднай песні — ён сам: "Яшчэ я не ўмеў чытаць, а ўжо спяваў "Реве та стогне Дніпр широкий", "Думи мої" і "Заповіт". Спявалі іх у нас часта, яны былі настолькі сваімі, блізкімі, што здаваліся адвечнымі, народнымі... Што памагло мне стаць артыстам? Напэўна, вялікая любоў да мастацтва і да Украіны". Прыпынімся на секунду і паўторым: да Украіны! Вось адкуль усё яно пачалося! "Я нямала ездзіў па свеце. (...) Ездзіць за мяжу пачаў таму, што **марыў такім чынам прапагандаваць украінскую мову, пазнаёміць свет з украінскай культурай**" (Падкр. мною. — **Н. Г.**). У праграме ў мяне заўсёды была ўкраінская музыка, але **на "біс" я спяваў толькі ўкраінскія песні. І гэта выклікала такое захапленне, так прымалі! Гэта тое, чым я жыў, разумееце?** (Падкр. мною. — **Н. Г.**). Я ўкраінскую песню дужа люблю. Як бы не яна, я нічога не змог бы ў жыцці зрабіць".

Можа, шаноўны чытам, вы помніце, каб такое казаў пра беларускую песню нехта са спевакоў — народных артыстаў СССР і БССР у нас? Можа, і помніце, можа, вам і пашанцавала, а я такіх прызнанняў не чуў. Але хай гаворыць вялікі артыст Дз. Гнацюк далей: "Я так эмацыянальна ўсё расказваю, таму што палітыка і мастацтва — яны так моцна між сабою павязаныя... Як мы маглі апынуцца ў такім становішчы? Парламент — украінскі, а ў ім дзесь чацвёртая частка, а то і палавіна, хто не вызнае ўкраінскай еднасці? Як так? Як можна не вызнаваць украінскую ідэю?.. Бывае, што па два разы на дзень выступае адзін і той жа дэпутат і цвердзіць, што ён выступае ад Камітэта за адраджэнне Савецкага Саюза. Як так можна?" Як так можна?! — крычыць душа артыста, які ў тым Саюзе атрымаў ці не ўсё, што льга было. І аднак жа — крычыць. І не папракайце ўзнагародамі — яны зароблены сумленнай працай. Паслухаем сапраўднага народнага артыста трохі яшчэ: "Я вось ужо гаварыў, што ў парламенце шмат ворагаў Украіны. Мы павінны тварыць палітыку, зыходзячы з нацыянальных патрыятычных пераканванняў. Зразумела, што мне неспакойна ў нашым парламенце, дзе так многа дэпутатаў-антыўкраінцаў. Ёсць шмат рэчаў, якія мне страшэнна не падабаюцца. Выступаюць з трыбуны штодзённа тыя ж самыя дэпутаты, праводзяць жахлівую палітычную лінію і ўсё супраць Украіны. Мне гэта балюча. Я нервуюся. (...) Вядома, мне бліжэй свет маёй прафесіі, мастацтва. Але трэба і гэта рабіць, тварыць украінскую палітыку". І далей: "Я перакананы, што і дэпутатам нашым трэба спяваць, можа, і штодня. Асабліва ўкраінскі гімн. Як патрыятычную песню пра нашу Украіну, пра наш народ. (...) Мне падабаецца, як амерыканцы спяваюць свой гімн — паклаўшы правую руку на сэрца. Так і мы павінны спяваць. А ў нас нават у парламенце мала хто знае словы гімна "Ще не вмерла Україна". І яшчэ: "Я, напрыклад, ніколі не стаяў убаку ад тых падзей, што адбываліся ў Украіне. (...) Мастак, на маю думку, не можа не мець сваёй пазіцыі. Калі ён грэбуе нацыянальнай культурай, ставіцца да яе зняважліва — гэта ўжо пазіцыя, а не апалітычнасць. Мне неабыякава, калі прыніжаюць маю мову, нацыянальныя каштоўнасці, нашу гісторыю і культуру".

Вось такое яно — грамадзянскае і мастакоўскае крэда вялікага артыста, нашага славутага сучасніка Дзмітра Гнацюка. Вось грунт, на якім ён як творца стаіць непахісна і дзякуючы чаму стаў тым, кім ёсць. І чаму назаўсёды застанецца любоўю Маці Украіны.

Перабіраю ў думках імёны нашых народных СССР, БССР, заслужаных... Успамінаю: сёй-той хваліўся: "А мы з Гнацюком знаёмыя, неаднойчы бачыліся, разам выступалі на сцэнах Масквы, Кіева і іншых сталічных гарадоў". Успамінаю — і вось што хачу ў сувязі з гэтым сказаць. Так, нашы народныя — знаёмыя з Гнацюком, але яны яго не ведаюць, а ён, напэўна, не ведае іх. Наўрад, ці яны могуць быць яго сябрамі. З такімі ён пасябраваць не зможа — калі даведаецца, што яны глыбока раўнадушныя да лёсу беларускай мовы, а значыць — і да лёсу беларускага народа наогул, што іх не хвалюе, будзе ці не будзе суверэнная, незалежная дзяржава Беларусь. На такіх "нацыянальна бясполых" дзеячаў мастацтва, літаратуры, культуры вялікі спявак эпохі Дзмітро Гнацюк глядзіць са шкадаваннем, а можа, і з пагардай, і ўжо ж пэўна — без павагі. Зрэшты не толькі Гнацюк іх успрымае гэтак, але і кожны вялікі артыст кожнай краіны, кожнага народа. Бо вялікі мастак не можа не быць вялікім патрыётам роднай зямлі, роднае мовы, роднае песні. Дохлае халуйскае шчасце прыстасаванцаў у тым, што яны гэтага не разумеюць. Так, можна пачувацца шчаслівым і з гэтага.

Вядомы, папулярны беларускі спявак, з тытулам "заслужаны" або нават "народны"... Ну і з якой беларускай песняй ён увайшоў у музычна-песеннае мастацтва Беларусі? Якія беларускія песні сталі яго візітнымі картачкамі, як для Гнацюка "Дивлюсь я на небо", "Рідна мати моя" ("Рушничок"), "Два кольори"? Так, сёе-тое выконваў (выконвала), але зусім не ў якасці творчай візіткі, а — дзеля прыліку, дзеля адчэпнага, бо трэба ж мець у рэпертуары хоць нешта беларускае (для гастроляў, для "нацыянальнай палітыкі", як яе разумелі бальшавікі, гэта значыць для паказухі, каб там, за мяжою, бачылі: вось, калі ласка, беларуская песня жыве і падтрымліваецца ўрадам... О, гэта ўсеахопна-татальная, усемагутна-непераможная партыйна-савецкая хлусня!). Тут важна зразумець самае галоўнае, дзеля чаго я стаўлю ў прыклад Гнацюка. Гнацюк без гэтых украінскіх песень уявіць сваё жыццё ў музыцы (і на сцэне і па-за сцэнай) не мог і не можа, яны для яго былі, ёсць і будуць да канца агменем душы, крыніцай жыццёвых і творчых сіл. А для нашых беларускіх тытулаваных сёе-тое беларускае ў іх рэпертуары было.. Чым яно для іх было? Нечым змушаным, навязаным сілай: трэба! Хоць адну-дзве трэба, бо... А калі б не гэта "бо" — не было б ніводнай. Сэрца не просіць, сэрцу яны непатрэбныя. Палітыка вымагае...

Хто падняў беларускую песню на такі ўзровень, як украінскую паднялі Гмыра, Патаржынскі, Гнацюк? Вышэй за ўсіх і па-сапраўднаму — Міхась Забэйда-Суміцкі. Але ж гэта ў замежжы, у беларускай дыяспары. А тут, на Радзіме? У 20—30-х гадах — Ларыса Александроўская. А пасля? Хто з тытулаваных за 50 пасляваенных гадоў так жыў беларускай песняй, як Гнацюк украінскай? Ніхто. Нават і блізка. Каб жыць беларускай песняй і маліцца на яе — трэба жыць Беларуссю і маліцца на яе, трэба да апошняй крывінкі ў целе, да апошняй фібры душы быць беларусам, пачувацца беларусам, і дзень і ноч помніць, што ты належыш беларускай культуры, і скрозь і ўсюды, і дома і на свеце ганарыцца гэтым (Гнацюк: "...паслужыць Бацькаўшчыне, якою я заўсёды ганарыўся"). Вось у чым рэч. У гэтым і толькі ў гэтым. На шчасце, у нас былі і ёсць кіраўнікі пеўчых калектываў, якія на высокім ці нават на самым высокім узроўні, і дома і ў свеце, прапагандавалі або і зараз прапагандуюць беларускі песенны фальклор. Рыгор Шырма, Генадзь Цітовіч, Міхась Дрынеўскі, Уладзімір Мулявін, Васіль Купрыяненка... Ёсць апантаны дзеяч музычнай беларускай культуры, кіраўнік "Беларускай капэлы" Віктар Скорабагатаў... Але гэта ўжо штосьці іншае. Мы гаворым пра салістаў, а не пра хормайстраў і мастацкіх кіраўнікоў ансамбляў, капэл.

У святле сказанага — ці выпадкова, што Гнацюк даражыць асабістым сяброўствам з самымі выдатнымі паэтамі сучаснай Украіны, такімі, як Дзмітро Паўлычка, Іван Драч ды іншыя? Канечне ж, невыпадкова. А з якімі выдатнымі беларускімі паэтамі былі і ёсць у блізкім сяброўстве нашы народныя? А як жа ім быць у такім сяброўстве, калі яны нават і гаварыць па-беларуску на ўмеюць?! Сыдуцца ў сяброўскім застоллі і будуць гаманіць на розных мовах?.. Можна, вядома, і так, можна. Але, але!.. Але ж хіба не ясна, што гэта нешта "зусім не тое"? Нават тлумачыць сорамна, чаму гэта "зусім не тое"... "Тое" гэта тады "тое", калі яно ёсць зместам, сэнсам і мэтай твайго жыцця, а не тады, калі яно толькі дзеля прыліку. Мова, як і Радзіма, для сапраўднага мастака-творцы — гэта лёс, а лёсу дзеля прыліку не бывае.

*Прысвячаецца Міхаілу ПТАШУКУ*

***Узяцца за пяро мяне вымусіў фрагмент з гутаркі Аляксандра Дамарацкага з Міхаілам Пташуком (тэлевізійная перадача "Сустрэчы ў Траецкім"), у якім апошні выклаў канцэпцыю свайго будучага кінафільма пра Вітаўта Вялікага. Ва ўяўленні М. Пташука, вялікі князь літоўскі Вітаўт — гэта палітычны дзеяч, які імкнуўся захаваць незалежнасць сваёй дзяржавы і падтрымліваць добрыя адносіны як з Усходам, так і з Захадам. Не навязваючы нічога аўтару таленавітых і глыбокіх кінастужак "Знак бяды", "Наш бронецягнік", "Палітбюро", хачу папярэдзіць яго аб небяспецы мадэрнізацыі вобраза Вітаўта, які ў рэальным, гістарычным жыцці быў фігурай складанай і неадназначнай. Я ўлічваю розніцу паміж навуковым і мастацкім падыходам, разумею правы мастака на ўласную інтэрпрэтацыю, але ж лічу, што ў сваіх асноўных параметрах гэты падыход, гэта інтэрпрэтацыя ўсё ж такі павінны адпавядаць гістарычнай праўдзе. Магчыма, дэкларуемы М. Пташуком падыход быў бы правамерны ў адносінах да героя, створанага аўтарскай фантазіяй. Але ж ён, мяркую, непрымальны ў адносінах да гістарычнай асобы, рэальная дзейнасць якой, постаць якой зафіксаваны ў летапісах і хроніках. Прапаную ва ўласнай інтэрпрэтацыі адзін з рэальных і трагічных эпізодаў з гісторыі ВКЛ, у якім даволі яскрава выявіўся характар Вітаўта як чалавека і палітычнага дзеяча.***

# Барацьба за ўладу

## ЭПІЗОД З ГІСТОРЫІ ВКЛ ЧАСОЎ КЕЙСТУТА, ЯГАЙЛЫ І ВІТАЎТА

Вітаўт Вялікі нарадзіўся каля 1350 года. Яго бацькам быў вялікі князь Кейстут, родны брат і суправіцель вялікага князя Альгерда, а маці — Бірута, былая жамойцкая жрыца, якую Кейстут прымусіў стаць сваёй жонкай пры даволі рамантычных абставінах. Шанцаў легітымна ўсталявацца на гаспадарскім пасадзе, г. зн. зрабіцца кіраўніком усёй дзяржавы, у Вітаўта не было, таму што па ўсталяванай традыцыі спадчыннікам вялікакняжацкага стала павінен быў стаць адзін з сыноў Альгерда. І апошні прызначыў на гэтую ролю свайго сына ад другой жонкі, былой цверскай князёўны Уляны — вялікага князя Ягайлу. Як паведамляе аўтар "Хронікі Быхаўца", Кейстут безагаворачна пагадзіўся з Альгердавым выбарам. Па логіцы рэчаў Вітаўт павінен быў адыгрываць пры Ягайле тую ж ролю, якую адыгрываў яго бацька, вялікі князь Кейстут, пры Альгердзе. Роля гэта была вельмі ганаровай, але другой.

Трэба прызнаць, што Кейстут увесь час, калі быў жывы вялікі князь Альгерд, выконваў гэтую ролю паспяхова і добрасумленна. У сусветнай палітычнай гісторыі цяжка нагадаць такі адданы і згодны тандэм, або дуумвірат, якім быў дуумвірат "Альгерд—Кейстут". І дуумвірат гэты даў вялікі плён. Менавіта пры Альгердзе і Кейстуце ў асноўным была створана новая і магутная еўрапейская дзяржава, якой з'яўлялася Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае. У яе склад уваходзілі амаль што ўсе сучасныя беларускія, украінскія і летувіскія землі, пад пратэктаратам або ўплывам вялікага князя літоўскага знаходзіліся Ноўгарад Вялікі, Пскоў, Цвер, Смаленск і некаторыя іншыя незалежныя землі і княствы. Альгерд з Кейстутам наладзілі эфектыўную абарону ВКЛ ад крыжацкай агрэсіі. Менавіта Кейстут адказваў за "заходні напрамак", у той час як Альгерд у асноўным дзейнічаў на напрамку ўсходнім і паўднёва-ўсходнім. Пад кіраўніцтвам Альгерда літоўскае войска атрымала грандыёзную перамогу над мангола-татарамі пад Сінімі Водамі (1363). Быў дасягнуты палітычны кампраміс з Польшчай (1377), які з'явіўся пралогам Крэўскай уніі 1385 г.

У часы Альгерда і Кейстута абвастрылася барацьба паміж ВКЛ і Маскоўскім княствам за лідэрства ва ўсходне-еўрапейскім рэгіёне. У гэтай барацьбе кожны з бакоў выступаў з прэтэнзіяй на выключнае права "збірання рускіх земель" у адзіную дзяржаву. Альгерд і дыпламатычна, і збройна падтрымліваў свайго шваграа, цверскага князя Міхаіла Аляксандравіча ў барацьбе з маскоўскім князем Дзмітрыем Іванавічам за вялікае княжанне. Апошні ўжо абвяшчаў сябе не толькі ўладаром усіх земель і княстваў Паўночна-Усходняй Русі, але і Кіева, Віцебска, Полацка. Альгерд з Кейстутам тройчы хадзілі паходам супраць Масквы (1368, 1370, 1372), і паходы гэтыя былі даволі паспяховымі, хоць да буйных ваенных сутыкненняў справа не даходзіла. У часы Альгерда і Кейстута ў адносінах ВКЛ з Маскоўскім княствам перавага была ў асноўным на баку ВКЛ.

Менавіта ў такой палітычнай атмасферы праходзіла маладосць вялікіх князёў Вітаўта, Ягайлы і іх шматлікіх братоў, якія прымалі ўдзел у паходах сваіх бацькоў, набывалі ваенны, палітычны, дыпламатычны, адміністрацыйны вопыт. Згодна Стрыйкоўскаму, у пачатку 70-х гг. XIV ст. адбыўся ваенны дэбют Вітаўта, "юнака адмысловага, з мужным сэрцам і рукою, які прагнуў ваеннай славы". Ён з боем прайшоў усю Прусію, узяў Істэнбург (сучасны Чарняхоўск) і з вялікай здабычай вярнуўся дадому.

Выбар Альгерда не быў выпадковы. Ён быў свядомы і грунтоўна прадуманы. Часта ў літаратуры можна сустрэць з пераважна адмоўнай характарыстыкай асобы Ягайлы — у адрозненне ад Вітаўта. Але ж гэта не адпавядае гістарычнай праўдзе. Як правільна, на наш погляд, адзначае Мікола Ермаловіч, "Ягайла не быў такой безаблічнай фігурай, як яго імкнуцца паказаць, а, наадварот, валодаў якасцямі, патрэбнымі для дзяржаўнага дзеяча. Трэба думаць, што такія якасці бачыў у ім Альгерд". Мяркую, што такімі якасцямі былі: у першую чаргу, разуменне значэння дзяржаўнага адзінства ВКЛ (на жаль, такога разумення не было ў выдатнага палкаводца Андрэя Полацкага, які свае ўладныя амбіцыі ставіў вышэй агульнадзяржаўных інтарэсаў); здольнасць прымаць лёсавызначальныя рашэнні (унія з Польшчай); ісці на палітычныя кампрамісы (хаўрус з Вітаўтам) і г. д.

Спачатку здавалася, што палітычная сітуацыя ў беларуска-украінска-літоўскай дзяржаве складваецца тая ж, што і пры Альгердзе. Кейстут прыязджаў з Трок у Вільню радзіцца з Ягайлам, стрыечныя браты — Вітаўт, уладальнік Гарадзеншчыны і Берасцейшчыны, і Ягайла — па-ранейшаму сябравалі. Але ж улада, згодна Ніцшэ, пачуццё больш моцнае, чым каханне! Як масквічоў, паводле Міхаіла Булгакава сапсавала "кватэрнае пытанне", так і гедымінавічаў сапсавала "прага да ўлады". Менавіта выпрабаванне ўладай не вытрымаў Кейстут. Слова, дадзенае Альгерду, было забыта і састарэлы вялікі князь вырашыў хоць пры канцы жыцця заняць першае месца ў дзяржаве.

Аднак каб распачаць барацьбу за ўладу, "спіхнуць" Ягайлу з вялікакняжацкага трону, патрэбна была сур'ёзная фармальная зачэпка. І гэтую зачэпку, як нам здаецца, Кейстут стварыў усімі праўдамі і няпраўдамі. Такой зачэпкай былі абвінавачванні Ягайлы ў тым, што ён, па-першае, "узняў вельмі высока" Вайдылу, былога Альгердава слугу, і аддаў за яго сваю родную сястру князігню Мар'ю, "і тым князю вялікаму Кейстуту надта вялікую крыўду і прыкрасць учыніў"; па-другое, што Ягайла ўступіў у змову з крыжакамі супраць Кейстута і Вітаўта. Першая зачэпка не з'яўлялася сур'ёзнай падставай для дзяржаўнага перавароту. Што тычыцца другой, то няма ніякіх іншых сведчанняў, што Кейстуту і Вітаўту з боку Ягайлы ў той час зыходзіла рэальная пагроза. І нават калі і былі ў Ягайлы нейкія дыпламатычныя адносіны з крыжакамі, то гэта ўжо была шырока практыкуемая справа, такая ж самая, як і барацьба з імі.

Характэрна, што Вітаўт не жадаў верыць пра змову Ягайлы з немцамі супраць яго, Вітаўта, і бацькі, і не згаджаўся на дзяржаўны пераварот. Тады Кейстут (адбылося гэта дзесьці ў пачатку 80-х гг. XIV ст.), якому цяжка было адмовіць у рашучасці, намерыўся дзейнічаць самастойна. На чале адданай яму дружыны Кейстут, як сведчыць хроніка, "уварваўся ў горад Вільню, паланіў вялікага князя Ягайлу разам з братамі і маці яго ю". Паланіўшы Ягайлу, Кейстут, як адзначае храніст, "і граматы тыя знайшоў, што Ягайла з немцамі падпісаў". Узнікае пытанне: ці былі на самай справе такія граматы? Калі былі, то ці не сфабрыкаваў іх сам Кейстут з дапамогай сваіх пісарчукоў, ці гэта была звычайная "дэза", на якую нямецкія спецслужбы ва ўсе часы былі вялікія майстры? І нават калі такія граматы былі сапраўднымі, то ці адпавядаў іх змест абвінавачванням Кейстута? Чаму Ягайла ў апошні момант іх не знішчыў? Ён жа меў такую магчымасць.

Вітаўт на той час знаходзіўся ў Гародні. Атрымаўшы паведамленне пра дзяржаўны пераварот, ён "за адзін дзень" прымчаўся ў Вільню. Кейстут пераказаў яму граматы, якія быццам бы Ягайла падпісаў з крыжакамі, але, ведаючы пра даўняе сяброўства свайго сына з Ягайлам, дадаў, што нічога дрэннага апошняму не ўчыніў, не рушыў яго ўласнасці і аддаў яму ягоную бацькаўшчыну — Віцебск ды Крэва. Сам жа Ягайла, супакоіўшы свайго сына Кейстут, знаходзіцца "пад слабай вартай". Ён быццам бы апраўдваўся перад Вітаўтам, адчуваючы палітычную беспадстаўнасць і маральную несправядлівасць свайго ўчынку. Відаць, тыя граматы, якія паказваў ён Вітаўту, не змяшчалі пераканаўчых доказаў "змовы Ягайлы з немцамі".

Такім чынам, Кейстут быццам бы праявіў "высакароднасць", пазбавіўшы свайго пляменніка вялікакняжацкай улады, але захаваўшы яму жыццё і "ўсё астатняе". Гэтая "высакароднасць" і загубіла Кейстута. Ён быў выдатны палкаводзец, але пасрэдны палітык (магчыма, ён і сам гэта ўсведамляў, аддаўшы ў свой час пальму першынства Альгерду). Калі б ён быў палітыкам "у стылі Макіявелі", то ведаў бы, што такога палітычнага канкурэнта, як Ягайла, трэба "дацiскаць" да канца, што потым і зрабіў з ім сам Ягайла. Тое, што Ягайла ўцалеў у выніку дзяржаўнага перавароту, адбылося, відаць, не столькі за кошт "высакароднасці" Кейстута, колькі за кошт несумненнага ўплыву на апошняга Вітаўта. Хроніка паведамляе, што Ягайла "вельмі ўзрадаваўся прыезду вялікага князя Вітаўта. І яны разам прысягнулі князю Кейстуту, што ніколі супраць яго не стануць, але заўжды ў ягонай волі будуць". І князь Кейстут адпусціў Ягайлу з "маці і братам і з усім скарбам". Вітаўт правёў свайго стрыечнага брата да Крэва, "а затым Ягайла паехаў з Крэва ў Віцебск".

Цікава, пра што думалі ў дарозе Ягайла, у якога Кейстут адабраў вялікакняжацкую ўладу, і Вітаўт, які ўсведамляў несправядлівасць гэтай акцыі, але вымушаны быў падтрымліваць свайго бацьку?

На думку Міколы Ермаловіча, Кейстут з'яўляўся выразнікам палітычных інтарэсаў Жамойцкай язычніцкай арыстакратыі, у той час як Ягайла прадстаўляў інтарэсы ўсходняй беларускай часткі ВКЛ. Менавіта з Кейстута, мяркуе даследчык, бярэ пачатак барацьба паміж літоўска-жамойцкай і беларускай часткамі ВКЛ. Меркаванне гэта, на наш погляд, патрабуе істотнага ўдакладнення. І Кейстут, і Ягайла з'яўляліся выразнікамі перш за ўсё агульнадзяржаўных інтарэсаў. Справа толькі ў тым, што першы ў барацьбе за вялікакняжацкую ўладу абапіраўся на свае ўладанні ў Жамойці, а другі — на землі, якія належалі яго бацьку Альгерду, і ў першую чаргу Віцебшчыну. Першага падтрымлівалі сыны і сярод іх Вітаўт, якому належала Гарадзеншчына і Берасцейшчына, другога — галоўным чынам яго родныя браты па матцы Скіргайла, ноўгарад-северскі князь Карыбут і інш. Паміж Кейстутам і Ягайлам ішла не міжусобная, не міжрэгіянальная, не міжэтнічная барацьба, а барацьба за вялікакняжацкую ўладу. Ідэя адзінай беларуска-украінска-літоўскай дзяржавы, якая з'яўлялася падставай дзейнасці і Міндоўга, і Гедыміна, і Альгерда, была кіруючай як для Кейстута, так і для Ягайлы.

Гэтай жа ідэяй кіраваўся ў сваёй палітычнай, ваеннай, гаспадарчай, адміністрацыйнай дзейнасці і Вітаўт Вялікі, чаго, на жаль, нельга сказаць пра Андрэя Полацкага, Свідрыгайлу і некаторых іншых гедымінавічаў. Палітычная гульня Вітаўта з крыжакамі — гэта часовая, вымушаная тактыка, а не стратэгія. Іншая справа, што барацьба за вялікакняжацкую ўладу правакавала, распальвала міжусобную барацьбу, разбурала дзяржаўнае адзінства, давала магчымасць умешвацца ва ўнутранае жыццё ВКЛ іншым дзяржавам. І Кейстут у значнай ступені вінаваты ў той міжусобнай барацьбе, якая пачалася пасля яго смерці ў сувязі з нелегітымным захопам вялікакняжацкай улады.

Цалкам лагічна, што, сеўшы ў Вільні ў вялікакняжацкае крэсла, Кейстут перш за ўсё імкнуўся замацаваць сваю ўладу. Як паведамляе аўтар "Хронікі Быхаўца", ён паслаў двух чалавек у Полацк — аднаго ў войска, якое ўзначальваў Ягайлаў брат Скіргайла, а другога ў горад. Гэта быў вельмі правільны ход. Кейстут, як выдатны палкаводзец, карыстаўся ў войску, з якім ён здзейсніў не адзін пераможны рэйд на тэрыторыю крыжакоў, вялікім аўтарытэтам. Што тычыцца полацкіх гараджан, то яны непрыязна адносіліся да Ягайлавага стаўленіка ў Полацку князя Скіргайлы, і таму не дзіўна, што "палачане ўзрадаваліся, клікнулі раці, і людзі ратныя адступіліся ад Скіргайлы і пайшлі ў Вільню да вялікага князя Кейстута". Забяспечыўшы падтрымку Полацка, Кейстут з войскам накіраваўся да Ноўгарада-Северскага, каб усмірыць Дзмітрыя Карыбута, роднага Ягайлавага брата. Ягайлу, які знаходзіўся ў Віцебску, Кейстут загадаў ісці разам з ім.

Аднак Ягайла замест гэтага рушыў са сваім войскам на Вільню. Прыязна сустрэты "месцічамі віленскімі", ён заняў сталіцу. На дапамогу Ягайлу прыйшлі прускія крыжакі. Ягайла і крыжацкае войска намагаліся злучыцца ў Троках, дзе ў гэты час знаходзіўся Вітаўт са сваёй маці. Вітаўт, прадбачачы гэта, зрабіў тое, што ў дадзены момант было неабходна: паслаў ганца ў Ноўгарад-Северскі да бацькі, каб папярэдзіць, што адбылося, а сам з усёй сваёй світай накіраваўся ў Гародню. Трокі здаліся Ягайлу без бою, і наогул, уся Віленшчына падтрымала яго, лічачы законным гаспадаром. Атрымаўшы вестку пра Ягайлаў дэмарш, Кейстут прыйшоў у Гародню да сына. Было вырашана звярнуцца па ваенную дапамогу да мазавецкага князя Януша, Кейстутавага зяця. Аднак Януш не толькі не дапамог свайму цесцю, але, скарыстаўшы сітуацыю, уварваўся на тэрыторыю ВКЛ, узяў Драгічын, Сураж, Камянец, аблажыў Берасце. Такім чынам, дзяржава ўжо пачала пажынаць першыя вынікі Кейстутавага мяцяжу. Вітаўт застаўся абараняць Гародню, а Кейстут рушыў у Жамойць. Сабраўшы "са свае Жамойцкае зямлі ўсё войска", Кейстут пайшоў да ракі Вяллі, дзе разлічваў злучыцца з Вітаўтам, які таксама, сабраўшы раць са сваёй бацькаўшчыны, падаўся з Гародні насустрач бацьку. Аб'яднанае войска аблажыла Трокі. Між тым, на дапамогу Ягайлу прыйшлі прускія і лівонскія крыжакі, а таксама яго браты — апрача Андрэя Полацкага. Праціўнікі "сталі на адлегласці трох ці чатырох стрэлаў" адзін ад аднаго, але ні той, ні гэты бок не рашаўся пачаць першым. Як вопытны палкаводзец, Кейстут разумеў, што перавага не на яго баку. У сваю чаргу вялікі князь Ягайла не жадаў кровапраліцця. Даючы магчымасць Кейстуту "захаваць твар", ён накіраваў дзілегацыю да Вітаўта з прапановай мірнага вырашэння справы — аднаўлення "статуса кво": Кейстут адмаўляецца ад сваіх палітычных прэтэнзій, прызнае Ягайлу вялікім князем пры ўмове, што за ім і Вітаўтам захоўваецца ўсё тое, чым яны валодалі да мяцяжу. Вітаўту прапанавалася прыехаць "да брата свайго", г. зн. да Ягайлы, пры гэтым яму гарантавалася поўная бяспека.

Ведаючы норавы свайго часу, Вітаўт не задаволіўся славеснай гарантыяй, запатрабаваў, каб у якасці заложніка ў кейстутаў табар прыехаў вялікі князь Скіргайла. Атрымаўшы згоду, Вітаўт паехаў да Ягайлы. Ягайла прысягнуў, "што бацьку ягонаму Кейстуту дасць бяспечна ад'ехаць". Пасля гэтага Вітаўт разам са Скіргайлам прыбыў у Кейстутаў табар, дзе апошні даў прысягу, што Ягайла нічога дрэннага ні бацьку, ні сыну не зробіць. Пасля чаго Кейстут з Вітаўтам з'явіліся да Ягайлы. Ягайла прапанаваў усім траім адпусціць войска, паехаць у Вільню і там канчаткова дамовіцца. "І як у Вільню прыехалі, — піша храніст, — князь вялікі Ягайла дзядзьку свайго, князя вялікага Кейстута, у ланцугі закаваўшы, да Крэва паслаў і пасадзіў у вежу, а Вітаўта яшчэ пакінуў у Вільні. Там, у Крэве, на пятую ноч князя Кейстута задушылі каморнікі Ягайлавы".

Так скончыў сваё жыццё выдатны палкаводзец, які праславіў сваё імя гучнымі перамогамі над крыжакамі, чалавек, які не адзін раз глядзеў смерці ў твар, тройчы пабываў у крыжацкім палоне і тройчы адтуль уцякаў, дзяржаўны дзеяч, які добраахвотна саступіў вялікакняжацкую карону свайму брату, але паспрабаваў яе адабраць у яго сына. Ягайла перайграў Кейстута ва ўсім: як палітык, як дыпламат і — нават у тым, у чым Кейстут быў найбольш здольны — як вайсковец. Ягайла не праявіў той высакароднасці, якую ў адносінах да яго праявіў Кейстут. Больш таго, ён парушыў прысягу, якую даў, цалуючы святы крыж. І несумненна, на ім ляжыць вялікая віна за забойства свайго дзядзькі. Але ж гэта было не простае забойства, а забойства палітычнае. Гэта была барацьба за ўладу. Кейстут першы кінуў выклік Ягайлу, адабраў у Ягайлы вялікакняжацкую карону, якой той валодаў легітымна, па спадчынным праве, па волі вялікага князя Альгерда. Кейстут ініцыяваў канфлікт, ён жа стаў і яго ахвярай. Перад Ягайлам, як і перад Гамлетам, рубам паўстала пытанне: быць ці не быць? Па ўсіх правілах тагачаснага палітычнага этыкету Ягайла павінен быў вярнуць уладу. Калі б ён гэтага не зрабіў, ён бы назаўсёды страціў павагу не толькі сваіх братоў, войска, родных, але і ўсяго феадальнага грамадства.

Як бы там ні было, але ж гістарычная праўда была на баку Ягайлы. Ён з'яўляўся ўвасабленнем адзінства і цэласнасці дзяржавы, Кейстут жа выступаў як мяцежнік, які не толькі парушыў волю свайго старэйшага брата, але і паставіў пад пагрозу гэтыя адзінства і цэласнасць і ў рэшце рэшт дзяржаўную незалежнасць, суверэнітэт. Што тычыцца Вітаўта, то ён быў уцягнуты бацькам у гэтую палітычную авантуру, якая ледзь не каштавала яму жыцця. Гэтая трагічная гісторыя шмат чаму навучыла і Ягайлу, і Вітаўта, істотна паўплывала на іх далейшыя палітычныя адносіны, дзяржаўную дзейнасць.

**Сямён ПАДОКШЫН,**
**доктар філасофскіх навук**

## "Вырай пачуццяў"




Часам бывае і так: набудзеш якую-небудзь кніжку, але ніяк не можаш сабрацца прачытаць яе. Так атрымалася ў мяне і са зборнікам імпрэсій і апавяданняў Паўла Гаспадыніча "Вырай пачуццяў", што з'явіўся ў "Бібліятэцы часопіса "Маладосць" яшчэ ў сярэдзіне мінулага года. Адразу прабег вачыма грунтоўную прадмову, напісаную Анатолем Казловым, пагадзіўся з той высокай ацэнкай, якую ён даў творам П. Гаспадыніча, а мастакоўскаму густу А. Казлова нельга не давяраць, і адклаў кніжку ўбок. Як кажуць, да лепшых часін. Нарэшце, прыйшла чарга пазнаёміцца і з "Выраем пачуццяў". Сапраўды, уражанне прыемнае. А яшчэ, як слушна піша А. Казлоў, "імпрэсіі Гаспадыніча не для агрубелых сэрцаў з натуралістычным светаўспрыманнем, а для чуйных і рамантычных душ. Апавяданні Паўла Гаспадыніча — гэта своеасаблівы працяг імпрэсій".

Дарэчы, колькі слоў пра самога аўтара "Выраю пачуццяў". Біяграфія П. Гаспадыніча пакуль "уціскаецца" ў некалькі радкоў: нарадзіўся ў 1980 годзе ў Кіеве. Калі споўнілася год, з бацькамі пераехаў на пастаяннае жыхарства ў Мінск. Пасля заканчэння сталічнай СШ N 194 паступіў на філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта, дзе вучыцца па сённяшні дзень. У творах маладога аўтара шмат таго,што ідзе ад жадання разабрацца ў самім сабе: "Думкі. Думкі. Думкі! Вы, нібы тыя птушкі, прагнеце ў вырай, заўсёды цягнецеся да невядомага, яшчэ неадкрытага, нязведанага. Вы — лінія электраперадач, што паціху канае ў вечнай яме таямніцы. Свабодныя дзеці часу, месца, прасторы. А зараз прывялі вы мяне да жахлівага выніку з усяго гэтага роздуму: я — напалову анёл, нячысцік, д'ябал і бог (хоць бог — задужа ганарыста ды самаўхвальна гучыць). Я — адзінасуцэльнае супрацьпастаўленне. Процістаянне самому сабе... Хочацца закрычаць на ўсё горла: "НЕ ПАМІРАЦЬ! АЛЕ І ЖЫЦЬ НЕ ЎСМАК..." Але калі ў імпрэсіях — плынь настрою, дык у апавяданнях, а яны таксама невялікія памерам і надзіва лаканічныя, выхаплены такія імгненні з паўсядзённага жыцця, за якімі драматычнасць нашага быцця, што нярэдка прыводзіць і да трагічнай развязкі. А менавіта падобныя сітуацыі пакладзены ў аснову двух, як мне здаецца, найлепшых апавяданняў П. Гаспадыніча. Адно з іх — "Дзівак" — ужо сваёй назвай падкрэслівае, што гаворка пойдзе пра аднаго з тых, хто, як не ўсе:

"Пакінуты ў адзіноце, чалавек смяяўся, бы шалёны. Калі пачаўся дождж, ён пачаў падскокваць і бегаць па слоце. Нешматлікія прахожыя адзначалі на адзін лад: "Напіўся".

Але ён быў цвярозы. Чалавека проста з'ядала самота..."

А калі ты белая варона сярод іншых, гэта можа кончыцца блага:

"...Усё ж нехта выклікаў міліцыю. Пара хвілін, і дзівака чалавека тут не было ўжо. Яны, такія ж, як і ён, людзі, уздыхнулі з палёгкаю. Хоць ён і не перашкаджаў. Мінула пару хвілін, і ўсё! Людзі забыліся на яго, быццам тут ніколі нікога і не бачылі.

А там, у міліцыі, здзекаваліся з чалавека. Называлі бамжом і п'янтосам, абражалі, лаялі і смяяліся..." А пасля, пасля чалавек памёр.

Трагічная развязка і ў апавяданні "Прадчуванне ночы". Двое закаханых выйшлі прагуляцца. Іх напаткала кампанія падонкаў. Традыцыйная зачэпка: "Дай закурыць!" А калі ў адказ пачулася, што няма...

"Пасля некалькіх udараў яна зразумела, чаму гэта ноч шукала іхняй згубы. Апошні раз ён чуў ейны голас. Яна толькі сёння ўпершыню прапанавала выйсці прагуляцца ўноч. Ён яшчэ паспеў падумаць, што з ёй можа здарыцца далей, кім яна стане пасля гэтага, калі апошні раз да яго слыху данесліся словы:

— Перш я!

— Другі я!

— Ну, добра, я апошні.

І слабы, безнадзейна дзявочы галасок: "Не трэба..."

Слёзы, кроў і ноч. Ноч, кроў, слёзы. Праз гадзіну надыдзе світанак двухтысячнага года".

Міхась ГЕНЬКА

ЮБІЛЕІ

# Цэлая эпоха ў літаратуры

### ДА 105-годдзя Кандрата КРАПІВЫ

***Творчасць Кандрата Крапівы — цэлая эпоха ў гісторыі беларускай літаратуры і найперш — у нацыянальнай драматургіі. Жывучы, як і кожны творца ў сваім часе, ён не толькі адлюстроўваў гэты час, а і, дзякуючы таленту вялікай жыццяздольнай сілы, дзякуючы выдатнай мастакоўскай празорлівасці, шмат у чым яго абганяў. А яшчэ, што таксама немалаважна, Кандрат Кандратавіч тонка адчуваў свайго чытача, а таму пісаў так, што дасягаў нязменнага поспеху. А ў выніку і карыстаўся вялікай вядомасцю ў народзе і стаў народным па сутнасці яшчэ задоўга да таго, як быў удастоены гэтага высокага звання ў 1956 годзе. У дваццатыя — пачатку трыццатых гадоў яго імя было на слыху ў кожнай вёсцы, дзе з асаблівай цікавасцю сустракалі гумарыстычна-сатырычныя вершы Кандрата Крапівы, яго байкі. А "Біблію" ведалі на памяць ці не ўсе. Гэткі ж зайздросны лёс напаткаў і паэму "Хвядос — Чырвоны нос".***

***Зразумела, далёка не ўсё з напісанага Кандратам Кандратавічам вытрымала выпрабаванне часам. Гэта тычыцца і яго драматургічных твораў. Адно можна сказаць пэўна: не было б у нас п'ес "Хто смяецца апошнім", "Канец дружбы", "Пяюць жаваранкі", "Брама неўміручасці" і іншых, намнога б збяднела беларуская драматургія.***

***А да ўсяго Кандрат Крапіва выдатнейшы мовазнаўца, перакладчык, які вельмі шмат зрабіў, каб сучасная беларуская мова была больш жывой, сакавітай, каларытнай, адпавядала народнай моўнай стыхіі.***

***Лёс адмераў Кандрату Кандратавічу больш чым шмат — ён пражыў 95 гадоў.***

***Лёс даў Кандрату Кандратавічу права на неўміручасць, таму і адзначаем мы сёння яго 105 годдзе, уяўляючы Кандрата Кандратавіча жывым, нашым сучаснікам.***


*Кандрат Крапіва*

# А яму я ўдзячны...

Шматгранная асоба Кандрата Крапівы ўспрымалася сучаснікамі вельмі неадназначна. Скажам, Уладзімір Дубоўка, як сведчыць верш "Падобны з твару да машчэй" (1976), да канца сваіх дзён не дараваў яму артыкул "Узвышша" на новым шляху", напісаны пад напорам тагачасных афіцыйных пагромшчыкаў беларускай літаратуры, ад якіх Крапіва тым артыкулам ратаваўся. Дзеля гэтага ўчарашні таварыш па літаб'яднанні, намеснік старшыні гэтай унікальнай суполкі перакрэсліваў многае з таго выдатнага, што самаахвярна рабіла "Узвышша", а Дубоўку вінаваціў у прыхаваным антысаветызме і аб'яўляў яго творчасць антыпралетарскай. Абвінавачванне па тых страшных сваёй нялюдскасцю часах жахлівае. І ніяк не выпадае адмаўляць велізарную шкоду такіх спраакаваных бальшавіцкай уладай нагавораў і бясспрэчны грэх Крапівы, які тады праявіў сябе з самага горшага боку.

Але для мяне Крапіва ў стасунках з ім адкрываўся зусім іншымі сваімі гранямі, часам выступаў і як збаўца-выратавальнік. Упершыню я трапіў да яго ў службовы кабінет віцэ-прэзідэнта АН БССР у 1960 годзе. тагачасны дырэктар Інстытута літаратуры імя Я. Купалы Васіль Барысенка, які ўзяў мяне на працу з Мазыра, двойчы з цяжкасцю прабіўшы часовую мінскую прапіску, прывёў да Крапівы, каб тую прапіску за трэцім разам зрабіць пастаяннай. Такое было катэгарычнае патрабаванне дырэктыўных органаў. Кандрат Кандратавіч не стаў хаваць, што гэта і для яго складаная задача, але рашыўся, як сам сказаў, на апошні, у нечым і авантурны крок. Ён пры нас пазваніў начальніку міліцэйскага аддзялення, праз якое я павінен быў прапісвацца, і папрасіў яго не як віцэ-прэзідэнт Атраховіч, а як байкапісец Крапіва, вырашыць нашу праблему. Той начальнік, на маё шчасце, байкі Крапівы ведаў, вучыў іх яшчэ ў школе і таму дазвол на прапіску даў, аформіўшы мяне як маладога спецыяліста, хаця фармальна я такім ужо не лічыўся, бо закончыў аспірантуру пяць гадоў таму назад. Так мы пераканаліся, што аўтарытэт Крапівы-сатырыка рэальную вагу мае.

Крапіва садзейнічаў мне і пры атрыманні кватэры. Спісы на жылплошчу зацвярджаліся "тройкай" — групкамам АН БССР, парткамам і віцэ-прэзідэнтам Крапівою. Дасведчаныя людзі казалі, што і партыйны сакратар, і старшыня групкама на любой стадыі кватэрнай дзяльбы могуць перамяніць ужо ўзгодненае рашэнне, а Крапіва, калі ён лічыў патрэбным некага падтрымаць, свайго рашэння ні пад якім націскам не мяняе. І гэта аказалася праўдай. Кватэру я тады атрымаў.

Потым былі размовы ў сувязі з кнігай пра М. Гарэцкага.Яна выйшла ў выдавецтве "Навука і тэхніка" ў 1968 годзе. Крапіва як віцэ-прэзідэнт курыраваў гэтае выдавецтва. Стаўленне да знішчаных савецкай уладай пісьменнікаў і пасля іх афіцыйнай рэабілітацыі было насцярожанае. Крапіва пры першай спробе ідэю выдання маёй кнігі не падтрымаў. Таму з выдавецкага плана на 1967 год яе выкраслілі. Даведаўшыся пра гэты "накол", я пайшоў да Крапівы з просьбай уключыць маю працу ў план выданняў наступнага года. Кандрат Кандратавіч сказаў, што Гарэцкі другарадны пісьменнік і да таго ж застаўся ў Вільні пры паляках. Фразу пра другараднасць нашага класіка, якога тады класікам яшчэ ніхто не лічыў, я аспрэчваць не стаў, а наконт Вільні зазначыў: бальшавікі так хутка здалі яе, што Гарэцкі проста не паспеў выехаць.

На маё здзіўленне, Крапіва з гэтым пагадзіўся і паабяцаў, што не будзе пярэчыць супраць выдання кнігі пра Гарэцкага.

На 1971 год у тым жа выдавецтве мне запланавалі і кнігу пра Крапіву. Яна рыхтавалася да 75-годдзя пісьменніка. Меркавалася, што яму да гэтага юбілею прысвояць званне Героя Сацпрацы, якое тады было вяршыняй жадання для самых вядомых дзеячаў. Тое званне Крапіва сапраўды атрымаў, але ў 1975-м годзе — яго абагналі Броўка (у 1972-м) і М. Танк (у 1974-м).

Калі кнігу пра Крапіву я завяршыў, у выдавецтве паднеслі нечаканы сюрпрыз — працу павінен прачытаць сам пісьменнік. Як ён адобрыць, яна будзе друкавацца, а не — дык і не... Шчыра скажу, што калі б такую ўмову паставілі адразу, я ўвогуле не стаў бы ўвязвацца ў рызыкоўную справу, бо пісьменніку, ды яшчэ з'едліваму сатырыку, напісанае пра яго можа і не спадабацца. Але праца ўжо была зроблена, надрукавана на машынцы, адрэдагавана. І мне нічога не заставалася, як чакаць прысуду Крапівы. Чаканне было нядоўгім. 8 снежня 1970 года Кандрат Кандратавіч запрасіў на размову. Яе я запісаў па свежых слядах. І цяпер карыстаюся і тымі запісамі, каб нічога не выдумляць.

Пачаўшы з заўваг, Крапіва папракнуў за тое, што я абмінуў такія ягоныя творы, як "Балабонь, да пары балабонь!", "Кат у няміласці" і "З фашыстоўскай падваротні". У іх выкрываліся Антон Луцкевіч і некаторыя іншыя заходнебеларускія дзеячы, якіх тады абвінавачвалі ў буржуазным нацыяналізме. Я да гэткіх абвінавачванняў далучацца не прагнуў ды і пра Луцкевіча ведаў няшмат. А таму палічыў за лепшае не згадваць пра тыя творы. Адкрыта сказаць пра гэта Кандрату Кандратавічу я не адважыўся, а толькі прамямліў нешта адносна таго, што ўсё прааналізаваць у адной кнізе нельга.

Пэўную насцярожанасць выказаў Крапіва і адносна ўпамінання "Тутэйшых" Янкі Купалы, якія тады яшчэ не перавыдаваліся, бо лічыліся творам нацыяналістычным. Больш таго. З цягам часу, ажно да сярэдзіны 80-х гадоў, цэнзура здымала самую назву купалаўскай п'есы, калі ёй давалася станоўчая ацэнка. І тады друкаваўся, напрыклад, такі тэкст: сярод лепшых твораў у Купалы вылучаюцца "юбілейны верш "Шляхам гадоў" (1925) і п'еса [...]". Гэта цытата з артыкула М. Гарэцкага "Беларуская літаратура пасля "Нашае Нівы", змешчанага ў кнізе "Максім Гарэцкі. Успаміны, артыкулы, дакументы", Мн., 1983. Шматкроп'ем у квадратных дужках заменена назва твора "Тутэйшыя", які пасля публікацый у 20-я гады не перадрукоўваўся шэсць дзесяцігоддзяў.

У маёй кнізе "Тутэйшыя" згадваліся двойчы. Крапіва зачапіўся за наступную мясціну: "На пэўныя традыцыі беларускай, у тым ліку савецкай, драматургіі, абапіраўся К. Крапіва і ў сатырычнай камедыі "Хто смяецца апошнім" (1939). Папярэднікамі пісьменніка ў гэтым адгалінаванні сатырычнага жанру былі, у прыватнасці, Янка Купала з п'есай "Тутэйшыя" (1922) і Еўсцігней Міровіч з камедыяй "Кар'ера Брызгаліна" (1925)". Я патлумачыў, што тут гаворка ідзе толькі пра сам жанр сатырычнай камедыі (без ацэнкі канкрэтнага зместу твораў). А па жанры і "Хто смяецца апошнім", і "Тутэйшыя" — творы аднаго раду. Пісьменнік наконт "Тутэйшых" далей спрачацца не стаў, але выказаў шэраг заўваг наконт аналізу п'есы "Канец дружбы".

Я сцвярджаў, што трэба па-новаму паглядзець на герояў гэтага твора, перш за ўсё на цэнтральных — Лютынскага і Карнейчыка. Услед за С. Гусаком і А. Сабалеўскім я даводзіў, што няма дастатковых падстаў разглядаць Лютынскага (па аўтарскай трактоўцы персанажа адмоўнага) як "ворага народа", што яго вінаваціць па сутнасці "за пэўныя праявы чалавечнасці". І аспрэчваў А. Семяновіча, які ў кан'юнктурна-дэмагагічных наскоках Карнейчыка на Лютынскага бачыў "асаблівыя заслугі і нават смеласць" персанажа, які ўвасабляў партыйную непагрэшнасць. Думка гэтая (пра дэмагогію ў Карнейчыка і беспадстаўнасць папрокаў Лютынскаму) выношвалася мною даўно, я праводзіў яе і ў лекцыях на філфаку. Але ў друку раней за мяне выказаліся С. Гусак і А. Сабалеўскі. І таму я спасылаўся на іх. Крапіва на Гусаковай аргументацыі спыняцца не стаў, можа, з той прычыны, што Гусак ужо быў нябожчыкам (памёр у 1969 годзе), а засяродзіў сваю ўвагу на цытаце з кнігі Сабалеўскага "Беларуская савецкая драма" (Мн., 1969), у якой сцвярджалася, што сёння Карнейчык "уяўляецца асабліва прамалінейным і ардынарным. Больш таго, нават няшчырым. Часам пачынае здавацца, што ён імкнецца не так выкрыць Лютынскага, колькі набыць сабе палітычны капітал. Ва ўсякім разе, яго факты супраць былога сябра не такія ўжо важкія і абгрунтаваныя. Самога ж Лютынскага шмат у чым можна апраўдаць, прынамсі, кваліфікаваць яго як "ворага народа" нельга з-за адсутнасці адпаведных аргументаў. Аўтарскае абвінавачанне надзвычай сур'ёзнае, але яно ў драме "Канец дружбы" даволі-такі галаслоўнае... У драме пануе атмасфера падазронасці, недаверу, жаданне паказырацць, а часам і спекульнуць палітычнымі паняццямі, прышыць той ці іншы ярлык. Пазней у камедыі "Хто смяецца апошнім" Кандрат Крапіва папартыйнаму, па-грамадзянску мужна высмее і закляйміць такіх "дзеячоў". Але пакуль што для драматурга гэты час не надышоў".

Вы з Сабалеўскім прыроўніваеце Карнейчыка да Гарлахвацкага. А для мяне гэта непрымальна. Усё астатняе пра п'есу можаце пакінуць, магчыма, яна і сапраўды ўспрымаецца цяпер інакш, чым тады, калі пісалася, разважаў Крапіва. Як кампрамісны варыянт я прапанаваў супастаўленне Карнейчыка з Гарлахвацкім апусціць. І пісьменнік гэтым задаволіўся.

Шмат гаварылі мы пра п'есы "З народам" і "Людзі і д'яблы". У кнізе я напісаў пра іх толькі адзін невялікі абзац, бо з гэтымі творамі было звязана некалькі далікатных акалічнасцяў, якія хацелася ўдакладніць праз сведчанні самога пісьменніка.

Прататыпам здрадніка Шкуранкова ў п'есе "З народам" стаў кампазітар А. Туранкоў. З акупаванага гітлераўцамі Мінска яго збіраліся вывезці ў Маскву. Дзеля гэтага арганізоўваўся пераход да партызан. Туран-

кова пазнаёмілі з сувязной, якая павінна была ў патрэбны час прыйсці за ім. Але прыйшла незнаёмая дзяўчына з іншага партызанскага атрада, якой Туранкоў не паверыў. Ён увогуле асцерагаўся правакацыі, бо за ім сачылі гестапаўцы, якія мелі намер схіліць вядомага кампазітара да супрацоўніцтва.

Адмову пайсці з ёю партызанская пасланніца ўспрыняла як здраду, бо "пры выхадзе з горада сама ледзь не трапіла ў лапы гестапа". Пасля вызвалення здраднікаў шукалі ўсюды. Туранкову таксама паставілі ў віну ўяўнае нежаданне перайсці да партызан, бо сувязная, якой не паверыў з-за зразумелай у яго становішчы асцярожнасці, "паказала ўсё ў найгоршым святле". Гэта сведчанні Алеся Бачылы, які блізка ведаў Туранкова па сумеснай працы над операй "Яснае світанне".

Туранкоў быў асуджаны на 10 гадоў зняволення. У хрушчоўскія часы яго рэабілітавалі "за адсутнасцю злачынства". Гэта адбылося ў 1955 годзе. А п'еса "З народам" пісалася ў 1948-м, калі Туранкоў быў за кратамі.

У гутарцы са мною Крапіва пацвердзіў, што ён у сваім творы выкарыстаў біяграфічны матэрыял, звязаны з Туранковым. І не толькі для абмалёўкі Шкуранкова, але і кампазітара-патрыёта Гудовіча, якога па п'есе вывозяць у Маскву, так, як меркавалася вывозіць Туранкова. Туранкоў, зазначыў пісьменнік, кампазітар таленавіты, але апалітычны, быў рэгентам царкоўнага хору. У Крапівы было пераконанне, што сувязную Туранкоў выдаў гестапаўцам, і невыпадкова, а з-за сваёй апалітычнасці. І яшчэ драматург сказаў, што як пасадзілі Туранкова, яго жонка прыходзіла прасіць заступніцтва. Крапіва нічога ў гэтым сэнсе не зрабіў і зрабіць не мог. Ён падкрэсліў, што ўрэшце ягоная п'еса — твор не дакументальны, а мастацкі. Прозвішча Туранкова ў ёй няма. Таму пісьменнік і не адмаўляецца ад гэтага твора, перадрукоўвае яго, бо тэма вернасці і здрадніцтва, пастаўленая тут, заўсёды актуальная.

Спасылку на недакументальнасць твора выкарыстоўваў Крапіва і ў размове пра п'есу "Людзі і д'яблы". Тут нараканні выклікаў вобраз Скробата ("Нёманскага"). Ён пісаўся з апорай на трагічны лёс І. К. Кавалёва, з якога знялі кляймо правакатара і прызналі кіраўніком мінскага антыфашысцкага падполля толькі ў выніку працяглай барацьбы поглядаў і страсцей, якая расцягнулася на дзесяцігоддзі.

Крапіва казаў, што "Людзі і д'яблы" выклікалі рэзкую незадаволенасць В. І. Казлова, які збіраўся выступаць супраць п'есы публічна, бо лічыў, што ў Мінску антыфашысцкага падполля ўвогуле не было, а ў драме дзейнічаюць і сапраўдныя падпольшчыкі. П'еса, працягваў пісьменнік, абмяркоўвалася з удзелам былых мінскіх падпольшчыкаў, у тым ліку тых, якія вярнуліся ў сталіцу пасля рэабілітацыі. Яны пярэчылі менавіта супраць таго, як паказаны ў творы Скробат з псеўданімам "Нёманскі". Так Крапіва перайначыў падпольны псеўданім І. К. Кавалёва "Неўскі". Пераклічка з біяграфіяй Кавалёва ёсць і ў іншых дэталях п'есы, але толькі ў пачатку твора. Далей Крапіва, як ён сказаў, падаваў логіку здрадніцтва, свядома адступаючы ад таго, што яму было тады вядома пра рэальнага Кавалёва.

У самым канцы нашай гутаркі я спытаўся, што будзем рабіць далей. Пісьменнік прыязна ўсміхнуўся і сказаў: "Будзем здаваць кнігу ў набор". Такое заключэнне мяне, вядома, узрадавала, бо я баяўся, што вывад можа быць зусім іншы. У кнізе ж, хоць яна пісалася з тагачасных ідэалагічных пазіцый і ўклад Крапівы ў беларускую культуру ў ёй ацэньваўся ў цэлым дастаткова высока, зусім не было юбілейнага глянцу. Затое крытычных закідаў назбіралася шмат. Я падкрэслена вылучаў значнасць сатырычных твораў пісьменніка, у тым ліку "Мілага чалавека", які ў свой час разглядаўся як твор ідэйна заганны, а пра п'есу "Пяюць жаваранкі", адзначаную ў 1951 годзе сталінскай прэміяй, напісаў зноў жа толькі адзін абзац са згадкай пра тую прэмію, але завершаны фразай: "Сёння выразна заўважаюцца і недахопы гэтай лірычнай камедыі: пэўны схематызм твора, слабасць канфліктнай асновы і, галоўнае, прыхарошанасць усёй атмасферы калгаснага жыцця пасляваенных гадоў". Гэта гаварылася пра твор, пра які ў тым жа 1971 годзе, калі выйшла мая кніга, Міхась Лынькоў, ужо ў рангу народнага пісьменніка, пісаў з захапленнем, ставіў яго ў адзін шэраг з вяршыннымі дасягненнямі мастака, заяўляючы, што "п'есы... "Хто смяецца апошнім" і "Пяюць жаваранкі" — найлепшыя творы К. Крапівы, якія сталі класікай беларускай драматургіі".

Усё ж сапраўды мудры чалавек быў К. Крапіва, калі ён да маіх шматлікіх крытычных заўваг ды яшчэ пад юбілей, паставіўся спакойна, з разуменнем.

Кнігу (яна выйшла пад загалоўкам "Зброяй сатыры, зброяй праўды") выдалі вельмі аператыўна. У выдавецтве ёй далі зялёную вуліцу, бо яўна імкнуліся не пакрыўдзіць свайго шэфа. Я ж у дадатак да кнігі пачаў друкаваць пра пісьменніка і артыкулы, адзін з якіх удастоіўся публікацыі нават у Канадзе. Некалькі экземпляраў газеты з гэтай публікацыяй даслалі Крапіве. І ён падзяліўся набыткам са мною.

Калі адзначалася ягонае 80-годдзе, Крапіва запрасіў мяне на юбілейную вячэру, зробленую з характэрным для тых часоў размахам, а потым прапанаваў паездку на Уздзеншчыну. У раённым цэнтры быў наладжаны вялікі вечар, на якім я рабіў асноўны даклад. Крапіва выступіў з непрацяглым па часе, але вельмі змястоўным словам, якое земляки сустрэлі з вялікім энтузіязмам. Мне ён шмат расказваў пра свае маладыя гады, паказваў цагляную кладку агароджы ўздзенскай царквы (пры бальшавіках яе, зняўшы крыжы, прыстасавалі пад клуб, у ім была выдатная акустыка). Кладку тую ж малады Атраховіч рабіў разам з бацькам.

Пасля ўздзенскай паездкі (зноў прыемная нечаканасць) я атрымаў ад пісьменніка прысланы па пошце пяцітомны збор яго твораў з аўтографам на першым томе: "Дзмітрыю Якаўлевічу Бугаёву з павагай і добрымі пажаданнямі. Кандрат Крапіва. 15.04.76". Для прэзентацыі Крапіва выбраў падарункавыя экземпляры ў палепшаным у параўнанні з асноўным тыражом афармленні. Такія падарункі рабілі далёка не ўсе пісьменнікі, з якімі мне даводзілася выступаць, пісаць пра іх творчасць. А пра Крапіву ж ішла пагалоска, што ён трохі прыцісклівы, надта ўжо ашчадны, можа, і скупаваты, а ў абыходжанні афіцыйна-сухаваты. Я нічога такога ў ім не заўважыў. А мая жонка Корань Ніна, якая ў час працы ў Інстытуце мовазнаўства імя Я. Коласа сустракалася з Крапівою пры рэдагаванні слоўнікаў, шмат разоў здзіўлялася з яго вялікай памятлівасці і душэўнай далікатнасці. Яна вельмі баялася, каб наш сын Косця ў перыяд сваёй двухгадовай армейскай службы не трапіў на клятую вайну ў Афганістан. Гаварыла пра гэта і Кандрату Кандратавічу. Ён быў ужо ў вельмі паважаным узросце, з многімі хваробамі і амаль невідушчы, але вызначаўся гранічна ясным, вострым розумам. Можа, і таму са спагадай паставіўся да трывог жанчыны, заўсёды супакойваў яе, казаў, што адслужыць ваш сын і вернецца дамоў жывы ды здаровы. І пры кожнай новай сустрэчы (а яны былі з ладнай разбежкай у часе) пытаўся: дык як служыць ваш сын? Пры гэтым заўсёды называў хлопца, якога ён ніколі не бачыў, па імені.

Дробязь, вядома, але прыемная. І пра чалавечнасць Крапівы, яго разуменне людзей таксама гаворыць выразна.

**Дзмітрый БУГАЁЎ.**

*Фота Ул. КРУКА*



*Акадэмікі М. Лынькоў, П. Броўка, П. Глебка, К. Крапіва, 1958 г.*

КНІГАРНЯ

# "Прыгожае ў звычайным"

Кніга Алеся Марціновіча, што выйшла ў выдавецтве "Юнацтва" накладам 3000 асобнікаў у сакавітым каляровым афармленні мастака Анатоля Кажаноўскага, нездарма мае падзагаловак "Якая яна, старажытная Тураўшчына?" Вякі — каменны, жалезны, бронзавы — плывуць у міжрэччы Струмені і Язды, Прыпяці і Случы, увесну віруе вада паводкай, робіцца гісторыяй плямёны неўраў, знікаюць скіфы і сарматы, і вось, нарэшце, з'яўляюцца нашы продкі — дрыгавічы. Аўтар вядзе маленькага чытача ўглыб стагоддзяў па адным з найстаражытнейшых куткоў Беларусі, знаёміць з тагачасным ладам жыцця, завядзёнкамі і звычаямі, адметнымі падзеямі і славутымі людзьмі. А ці існавала сапраўды мора Герадота? А чаму гара называецца Бабруйкавай? І дзе сёння вуліцы Роў і Вал? Шмат цікавага можа расказаць даўніна...

Млынары і карабельшчыкі ў ваўняных каўпаках і пасконі, падпяразаныя вяроўкамі, цягнуць вялізныя мяхі з мукой і цукрам, коцяць бочкі з бурштынавым мёдам і салодкімі напоямі. Лёгкія стругі павольна нясуць па блакітных хвалях белыя ветразі з вышывай чырвонага сонца, кіруючыся ў напышлівую Візантыю ці ў суровую краіну скальдаў, а ў залацістым святле ціхай келлі гартае старажытныя манускрыпты задумлівы чалавек з засяроджанымі вачыма, і шапацяць старонкі, і ціха ўзносіць малітвы анёл.

Кірыла Тураўскі, легендарны светач зямлі беларускай, які "працаваў дзеля росквіту ўсіх усходнеславянскіх народаў", быў "другім Залатавустам", нёс "у людскія душы больш святла, шчодрасці, чысціні". Яго напаткаў дзіўны лёс: мы ведаем пра яго ўсё — і амаль нічога. Час данёс да нашчадкаў веліч і прыгажосць яго слова, а вось факты асабістага жыцця — паходжанне, занятак бацькоў, нават сапраўднае імя — так і засталіся таямніцай. Ці быў ён сынам пасадніка, ці простага воя, ці мо нават самога вялікага князя? Дзе вучыўся, чым захапляўся, што любіў? Здагадкі, здагадкі...

Ён нарадзіўся на Палессі, дзе людзі "ўзводзілі свае гарадзішчы сярод балот", у старажытным Тураве, цэнтры аднаго "з самых магутных для свайго часу" Тураўскага княства, якое спаборнічала з Кіеўскай дзяржавай. Ішлі гады, плялі адмысловае павуціннe хітрай палітыкі спадчынныя князі, на вялікім стале ўладар змяняўся ўладаром, а ён "задумваўся над вечнымі праблемамі... дабра і зла, праўды і няпраўды, дружбы і здрады, любові і нянавісці", настойліва чытаў лепшыя творы візантыйскіх аўтараў, спасцігаў духоўную літаратуру, каб "адысці ад свецкага жыцця... цалкам прысвяціць сябе служэнню Богу". Ён зрабіўся расафорам — паслушнікам у манастыры святога Міколы, дзе "кожны дзень... быў падобны на папярэдні", дзе чакалі яго няспынныя маленні і строгія пасты, але ён жыў "у тым свеце, які заўсёды прыносіць радасць. А радасць прыходзіць тады, калі яе чакаеш. І яна непараўнальна большая, чым зямная". Добра знаёмы з хрысціянскай рэлігіяй і язычніцтвам, Кірыла прайшоў усе ступені манаства, атрымаў пасаду епіскапа, зрабіўся настаяцелем Ні-



кольскага манастыра. На вуліцах скамарохі забаўлялі натоўп, рупіліся гандляры, спяшаліся некуды месцічы, а ў цесным манастырскім пакойчыку з-пад пяра таленавітага пісьменніка, які свядома адасобіўся ад свету, выходзілі неацэннай каштоўнасці і незвычайнай пранікнёнасці творы — казанні і прытчы, павучанні і малітвы, пахвалы святым, якія і дагэтуль уражваюць сваёй мудрасцю і веданнем чалавечай прыроды. "Чытаць Кірылу Тураўскага, — зазначае аўтар, — ачышчаць душу ад друзу выпадковага, неабавязковага. А яшчэ напаўняцца аптымізмам, бачыць прыгожае ў звычайным", атрымаць адказ на пытанні, якія ніколі не перастаюць хваляваць. Выхаваны на выдатных узорах грэчаскай літаратуры, "ён услаўляў і праслаўляў жыццё", пакінуў вялікую спадчыну, якая сугучна думкам нашых сучаснікаў, падаваў прыклад "як жыць", бо "жыццё ніколі не спыняецца. Яно працягваецца бясконца". І, можа, з цягам часу дазнаемся мы нашмат больш пра славутага сына нашай краіны, будзем адкрываць новыя і новыя старонкі ў гісторыі сваёй Айчыны, "бо яна для цябе і мяне — родная. Бо яна — дарагая сэрцу і любая душы".

**Марыя РУДОВІЧ**

ЧАСОПІСЫ

## "Беларускі гістарычны часопіс", N 1

Для прыхільнікаў "Беларускага гістарычнага часопіса" — прыемная навіна: "БГТ" быў штоквартальнікам, а цяпер ён выходзіць часцей — шэсць разоў на год. Апублікаваны артыкулы Г. Дыляна "Інавацыйныя падыходы ў рэфармаванні сістэмы школьнай адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь", К. Рэвякі, В. Фядосіка "Старажытная Грэцыя і Беларусь", Р. Лазько "Ці ўпішацца Польшча ў германскую "жыццёвую прастору"?", В. Мяньkoўскага "Англа-амерыканская гістарыяграфія палітычнай сістэмы СССР 1940—1960-х гадоў", У. Бадрухіна "Украінскія землі ў складзе Беларуска-літоўскай дзяржавы", А. Курака "Станаўленне і развіццё сістэмы кіравання органамі ўнутраных спраў Беларусі (1917—1940 гг.)", І. Царыка "Смаленск паміж Літвой і Масквой", Н. Матусевіч "Прававое і матэрыяльнае становішча настаўнікаў пачатковай школы ў Беларусі ў другой палове XIX—пачатку XX ст.", Г. Карзенкі "Старонкі гісторыі навуковай інтэлігенцыі ў даваенны перыяд", Х. Бейлькіна "Аграрная рэформа 1861 г. у Беларусі і яе асаблівасці". На пытанні галоўнага рэдактара "БГЧ" В. Кушнера адказвае прэзідэнт грамадскага аб'яднання "Грэчаскае нацыянальна-культурнае таварыства "Алкестыда" Ц. Папунідзі ("Грэкі ў Беларусі"). Л. Лыч рэцэнзуе кнігу І. Канапацкага і А. Смоліка "Гісторыя і культура беларускіх татар" ("Татарская культура на Беларусі").

## "Беларуская думка", N 2

Нумар адкрываецца вялікай падборкай чытацкіх лістоў, што прапануюцца пад рубрыкай "Зваротная сувязь". Прадстаўнікі розных прафесій дзеляцца думкамі наконт апублікаваных матэрыялаў, выказваюць "БД" пажаданні і заўвагі. А. Вішнеўскі ("Свеціць нам усмешка Ганны") разважае пра творчасць І. Мележа, матэрыял прапануецца ў раздзеле "Асоба". Раздзел "Літаратура і жыццё" складаюць вершы Ю. Свіркі і эсэ Я. Сіпакова "Свае партызаны". Беларускую народную ганчарную кераміку канца XIX — пачатку XX ст. разглядае ў артыкуле "Так нараджалася прыгажосць" В. Угрыновіч, Г. Шадэўская ("У скарбонку пісьмовай культуры") рэцэнзуе "Арфаграфічны слоўнік для школьнікаў", аўтарам-складальнікам якога з'яўляецца А. Булыка. "Да майстэрства праз узоры майстэрства" — развагі А. Марціновіча, што з'явіліся ў выніку прачытання кнігі "Публіцысты". В. Шырко ("На быстрай плыні Бесядзі") запрашае наведаць Хоцімскі раён, а Г. Булыка ("Адзінокая вандроўніца") "набліжаецца" да баявой машыны 2Т, створанай беларускімі канструктарамі. Прадстаўнік ААН на Беларусі Н. Бунэ выступае з артыкулам "Саміт тысячагоддзя і спадзяванні чалавецтва".

практыка) піхнулі дзяўчынку ў шэрае чэрава УАЗіка. Кінулі туды ж яе сумачку, што была ўпала на асфальт: адарвалася ручка.

Базан гатоў быў зноў учапіцца ў шырокія плечы міліцыянера і не паспеў. Дужая рука згрэбла ў кулак яго чупрыну, балюча рванула назад. Галава закінулася ўгору, у вачах на нейкі момант бліснулі іскаркі, нібы перад самым тварам чырканулі запалкай.

— Вой! Балюча. Пус-сці...

Яго моцна папіхнулі ў спіну, і ў наступны момант Базан апынуўся побач з дзяўчынай.

— Шлында вакзальная. Заступнік с... Ахалодай!

Глуха, здалося, нібы вінавата ляснулі дзверцы, шчоўкнуў замок, і машына, як яе хто пугай сцебануў, рванулася з месца. Ужо, калі далекавата ад'ехаліся ад прыпынку, матор перастаў захліпацца ў абаротах, завуркацеў роўна, размерана: УАЗік, як паспакайнеў, дрогка пагойдаўся па выбоінах на асфальце, прыцішыў хуткасць.

— У мяне дзіця адно дома... — Яна, як хто падштурхнуў, неяк бокам тузанулася наперад, учапілася тонкімі пальцамі ў халодную сетку-рабіцу. — Спыніце машыну! Выпусціце мяне. Дачка адна дома. Малая зусім!

Яны нібы не пачулі. Толькі той, што безуважна драмаў, лена паварушыў плячыма, паправіў на каленях дубінку. Павярнуўся да шафёра, нешта загаварыў. Базан убачыў профіль яго твару. Нізкі, як прылізаны, лоб, гарбаты нос, завостраны, нібы ўругана дзюба, вузкія вусны, што выдавалі зацятасць характару, і падбароддзе крутое, вуглаватае.

— Спыніце!.. Выпусціце... Дачка... — Не стрывала, захліпнулася слязьмі. — Ці вы не людзі зусім? Я ж нічога не зрабіла... Вось, вазьміце, — дрыжачымі пальцамі раскрыла сумачку, дастала кашалёк, выграбла з яго ці не ўсё, што было, скруціла-скомчыла грошы ў трубачку, не патрапляючы ў ячэйку, паспрабавала прасунуць іх праз сетку. — Вось, возьміце. Толькі адпусціце... Дачка адна... Адпусціце!

Міліцыянер няшчыльна прычыніў дзверы, і хоць яны былі, як пазней заўважыў Базан, падвойныя, галасы з кабінета чуліся выразна.

— Заходзь, сяржант. Што?

— Даставілі.

— Так хутка?

— Разведка, таварыш капітан. І грамадскасць дапамагла — кантралёркі.

— Ладна табе, разведка... Давай яе сюды.

Шафёр, які заставаўся з імі, памкнуўся было прычыніць дзверы, выправіць памылку напарніка, ды не паспеў.

— Заходзьце! — загадаў сяржант і прапусціў іх у кабінет.

Стол. Колькі крэслаў. Дзве вялікія са шклянымі дзверцамі шафы. З левага ад стала боку закратаванае акно: першы паверх. На падваконні вазоны з кветкамі. Там жа — невялікая паходная рацыя. Мабыць, уключаная, бо шыпела-шчоўкала, як нагадвала пра сябе. Ды капітан не зважаў на тое, прывык, мусіць.

— А гэта хто? — незадаволена кінуў у бок Базана капітан.

Алесь ЕМЯЛЬЯНАЎ

# KBITOK



АПАВЯДАННЕ

Усё адбылося вельмі хутка. Можа, за хвіліну якую, не больш. Калі б Базан паспеў нешта падумаць, нешта ацаніць, наўрад ці кінуўся б на дапамогу дзяўчыне. Хутчэй за ўсё спалохаўся б. Супраць сілы патрэбна сіла. А ён? Камар растоптча. Ды і ўдарыць чалавека... Навошта? Няўжо нельга вырашыць усё па-іншаму? Ён не лічыў сябе смелым. А вось жа кінуўся. Не мог не кінуцца, не абараніць. Шляхі Гасподнія... Смелы не той, хто не баіцца, а той, хто пераступае страх.

Калі крыху ачомаўся ад нервовай узбуджанасці, што скаланула яго ці не да апошняе клеткі, перавёў дых, схамянуўся: як так можна?! З-за нейкага талончыка? Ды і пры чым тут талончык, калі яна ехала на метро? Ён жа сам бачыў, як падымалася з падземнага пераходу, спяшалася да прыпынку. А хоць і з-за непрабітага талончыка. Дык, можа, чалавек закампасціраваць не паспеў, ці проста забыўся. Урэшце, не меў грошай, каб купіць той кляты талон: сёння і такое — не дзіва. А яны? Дубінкамі махаць, зневажаць. Цягнуць у машыну, як апошняга злодзея-дамушніка.

Не. Ён ніяк не мог паверыць, што такое магчыма. І каб не быў сведкам, не бачыў усяго на ўласныя вочы, каб, зрэшты, сам не апынуўся ўдзельнікам здарэння, ніколі нікому не паверыў бы. І як даць веры такой бязглуздзіцы?! Хамству?! Ці ў міліцыі іншай работы няма? Ці зноў, як у недалёкія аксамітныя часы, давялі план па затрымцы? І не істотна, хто будзе затрыманы: мужык на падпітку, рэцыдывіст, або школьнік з цыгаркай за вуглом.

Базан праз сетку-рабіцу, што аддзяляла іх ад салона вадзіцеля, зірнуў на міліцыянераў. Шафёр адной рукой звыкла трымаў баранку, другую не здымаў з рычага пераключэння хуткасцей. Нібы нешта ціха-ціха насвістваў. Яго напарнік, паклаўшы на калені дубінку, адкінуўся на спінку сядзення, як драмаў. Безуважна, абыякава.

"Дубінка... На што яна падобна? — недарэчнае пытанне замінала засяродзіцца, сабрацца з думкамі, цвяроза ацаніць становішча. — Дубінка... А-а! Яна падобна... Як там пісаў у апошняй аповесці Віктар Казакоў: на тое, што ў жарабца пад жыватом, калі выведуць да маладое жаробкі... А ў вачах — дзікі юр".

Базан нават паспрабаваў зазірнуць у вочы гэтаму, з дубінкай, каб убачыць той юр. Але міліцыянер сядзеў да яго спінай, і, апроч шырокіх плячэй ды паголенага карка, нічога нельга было ўбачыць.

"Цьфу!.. Знайшоў момант пра што думаць... Згадваць лухту розную..."

Дзяўчына ціха плакала. Насоўкаю выцірала вочы, нервова кусала дрыготкія вусны. Яе твар у прыцямненні салона падаўся Базану яшчэ прыгажэйшым. А можа, гэта ад шкадавання, якое поўніла грудзі, ад глухое трывогі і за яе, дзяўчыну, і за сябе: што будзе, як усё абернецца?

— Не плачце. Не трэба. Супакойцеся... — Голас нібы не свой. Словы, як чужыя, халадзілі вусны. І не было ў іх той пяшчоты, той спагады, якую хацеў выказаць. Ледзь не мацюкнуўся з-за гэтай свае нязграбнасці, з-за бяссілля знайсці патрэбнае слова, каб супакоіць дзяўчыну. — Усё будзе добра. Разбяруцца. Я ж бачыў... Я раскажу...

— Супакойся, мілая. Супакойся. — Ён сціснуў яе бездапаможныя плечы. Нібы адчуў увесь боль і страх, што валодаў цяпер гэтай пакрыўджанай душой. — Супакойся. Схавай грошы.

Машына крута ўзяла ўправа, гайданулася на невысокім бардзюры. Паслухмяна спынілася каля высокага ганка. Шчоўкнуў замок, непрыемна зарыпелі на завесах дзверцы.

— Выходзь!

"Рукі за спіну!" — ледзь не дадаў услых Базан, але стрываў. Ведаў, калі трапіў у нерат, лепш не яршыцца. І ўсё ж бязмоўна падпарадкоўвацца гэтай уладзе, бяздзейна апускаць рукі перад сляпой сілай, паслухмяна аддавацца гвалту ён не хацеў. І не мог! Уся яго істота пратэставала. Розум гаварыў адно: змоўчы, не вытыркайся. А сэрца абурана, ледзь не вырвалася з грудзей, тахкала часта-часта: несправядліва, не па-людску! Здаецца, далі б зараз у рукі аўтамат, ураўнялі сілы...

Перасіліў сябе, не азваўся. Даючы хоць якое выйсце ўнутранаму напружанню, моцна рвануў дзверцу. Нібы хацеў адарваць яе. Не даў веры. Нешта, як стрэліла, відаць, перажавелая завеса, і дзверца ўверсе адышла ад кузава, перакасілася.

На ладнай шырокай пляцоўцы перад пяціпавярховым будынкам райаддзела ўгледзеў ці не больш дзесятка машын. УАЗікі, жыгулі, нават колькі іншамарак. Пафарбаваныя ў розныя колеры, рабаціліся на сонцы. Строгімі надпісамі на баках "міліцыя" папярэджвалі: бойся! Хаця, чаму толькі "бойся"? Можа, таму, што ён, Базан, уліп сёння ў гісторыю, што для яго жыццё вось ужо амаль два гады паварочвалася шэрым, непрывабным бокам, і яму сапраўды трэба было сцерагчыся такіх машын з надпісам "міліцыя". Нічога недазволенага не рабіў, закон не пераступаў. Ды ўсё ж...

Раз-пораз грукалі дзверы, прапускаючы людзей у форме. Калі падняліся на ганак, з будынка выкаціўся гурт маладых хлопцаў. Пры ўсёй амуніцыі, у рабых куртках, такой жа расфарбоўкі штанах, высокіх зашнураваных чаравіках. Добрыя тры дзесяткі. А можа, і больш. Развод ці што быў.

"Колькі ж вас?" — прапускаючы хлопцаў, адступіў ад дзвярэй Базан. Колькі? Амаль сто пяцьдзесят тысяч (згадаў, што чытаў пра тое ў газеце). Міліцыянтаў, ахоўнікаў, амапаўцаў, кэдэбістаў... Гэта ж ці не ў два разы больш, чым армія. І кожнаму трэба зарплату даць. І не абы-якую, а каб у вочы аддана зазіраў. Кожнага апрануць: зімовая форма, летняя, парадная. Зброяй забяспечыць, наручнікамі, тымі ж дубінкамі, балончыкамі са слезацечным газам, рацыямі, шчытамі, шлемамі... Вось дзе народныя грошыкі! А яшчэ машыны, абсталяванне, будынкі. Як хаця б вось гэты, у пяць паверхаў, з безліччу кабінетаў. І, мусіць, камер там, у сутарэннях! Ды ўсё мала. Усё не хапае. Ніяк са злачыннасцю не справіцца.

Іх, Базана і дзяўчыну, правялі па шырокім, залітым роўным неонавым святлом калідоры, загадалі спыніцца каля абабітых дэрмацінам дзвярэй. Адзін з міліцыянераў пастукаў, увайшоў у кабінет.

— Дазвольце, таварыш капітан?

— Гэта? — нібы не зразумеў адразу сяржант. — Гэты бараніць кінуўся, калі бралі. Заступаўся. Нават біцца спрабаваў. Давялося...

— Заўсёды вам нешта "даводзіцца", — перапыніў, не даслухаў сяржанта капітан. — Простага загаду без "давялося" не можаце выканаць, — і, узвысіўшы голас, загадаў. — Усё! Ідзіце. Пачакайце ў калідоры. Я сам тут разбяруся...

Дастаў цыгарку, закурыў, пачакаў, пакуль выходзіў сяржант. Устаў з-за стала, прайшоў да дзвярэй, упэўніся, што яны зачынены шчыльна.

— А плакаць, Хацько, не трэба, — капітан зноў сеў за стол. Адкуль ён ведае яе прозвішча? — здзівіўся Базан. — Ваша ж прозвішча Хацько? Я не памыляюся?

— Не... Хацько.

— А працуеце, — кінуў пагляд на паперчыну, — у музеі?

— У музеі.

— Правільна, Антося Яўгенаўна, — зноў паглядзеў ён у паперку. — У музеі...

— Адпусціце мяне. Я нічога не зрабіла. Я з метро толькі выйшла, а тут яны... У мяне дачка малая. Адна дома...

Капітан пачакаў, пакуль яна выгаварыцца. Неяк абыякава, хутчэй зморана спытаў:

— А ўчора? Дачка таксама была адна дома?

— Не-а. Суседку прасіла паглядзець. А што?

— Так. Нічога. А сёння суседкі няма?

— Няма. На працы.

— На працы... Вы ўчора былі на мітынгу? — Капітан пільна глядзеў на Антосю.

— Ах, вунь яно што, — яна вымавіла гэта амаль спакойна. — Маглі б позваю выклікаць. Хавацца б не стала, прыйшла б, — вочы яе сталі сухімі, плечы выпраміліся. — Была! А што, нельга?

— Чаму нельга? У нас вольнае грамадства. — Капітан стараўся гаварыць спакойна. Ды словы гучалі без імпэту, без пераканання. Ці верыў ён сам у тое, пра што казаў? Не вытрымаў пагляду дзяўчыны, апусціў вочы, як шукаў нешта ў паперах на стале. — Кожны вольны рабіць, што хоча. Толькі... у рамках дазволенага... Прыйшлі б... А вось некаторыя не прыходзяць... Былі... І выступалі?

— Выступала! І зноў, калі будзе мажлівасць, выступлю, а калі спатрэбіцца, і... — не дагаварыла, рашуча сцяла вусны.

— Ваша права... Ваша права. Толькі ж выступленне выступленню розніца, — колькі памаўчаў. — Вось, — як падвёў рысу. — Адпусціць я вас не магу. Не маю права. Вашу справу не я вяду, — і праз паўзу — Шкада...

Зняў слухаўку, набраў нумар тэлефона:

— Алё! Васільевіч? Так. Я. Герчык... Даставілі... Ёсць! — павольна паклаў на рычагі апарата слухаўку, правёў рукою па краі сталешніцы.

У той жа момант дзверы расчыніліся, і ў кабінет увайшоў сяржант.

— Слухаю, таварыш капітан.

— Правядзіце грамадзянку ў трыста шосты кабінет. — Сказаў суха, нават здалося, раздражнёна, нібы сяржант добра папсаваў яму нервы.

— А з гэтым што?

— Сяржант! Выконвайце!

Дзяўчына нетаропка ўстала з крэсла, з годнасцю ступіла да расчыненых дзвярэй. На момант знерухомела, як завагалася: ісці далей ці не? Раптам рашуча павярнулася, зрабіла крок да капітанавага стала:

— Паўхвіліны, таварыш начальнік, — і спяшаючыся, можа, баялася, што не дадуць ёй тыя палову хвіліны, хутка-хутка загаварыла да яго, Базана: — Вы добры чалавек. Я сэрцам чую. Вы не пакрыўдзіце, не зманіце... Трымаць вас тут доўга не будуць... Я ведаю... У іх — іншы клопат... І капітан — нязлосны чалавек. Каб мог, адпусціў бы... Ды пад пагонам... Служба... Работа... Сям'я...

Сяржант, што быў спачатку разгубіўся, тузануў дзяўчыну за локаць: пайшлі!

— Сяржант! — Голас капітана, як стрэл...

— Я зараз! Зараз, — кінула сяржанту, і зноў да Базана: — Вось ключы, — таропка дастала з сумачкі звязку ключоў, шматок паперчыны. — Вось адрас... — стала нешта пісаць, — Вось... Вас адпусцяць... Вас не будуць доўга трымаць. А там дачушка дома адна... Вечарам суседка прыйдзе...

— Дык і вас адпусцяць, — Базан крыху ачомаўся ад неспадзеўкі, паспрабаваў супакоіць дзяўчыну.

Тая нервова-рэзка крутанула галавой:

— Не! Я ведаю: не адпусцяць! Тут хутка не бывае... Не першы раз я... Ведаю... А вы не зманіце, — як спатыкнулася, змоўкла. Блакітна-шэрымі вачыма, поўнымі надзеі і даверу паглядзела на яго. — Вазьміце ключы, калі ласка, адрас... — гэта сказала прыцішаным, але цвёрдым голасам. — Вазьміце. Я веру вам. Калі ласка... Не трымайце яго, таварыш начальнік. Адпусціце. Ён тут ні пры чым, — і ўжо з дзвярэй дадала. — Яе Аленкай завуць.

Базан стаяў пасярод кабінета, няўцямна глядзеў на чужыя ключы, на паперчыну, дзе няроўнымі таропкімі словамі быў запісаны адрас. Ніяк не мог зразумець. Ён жа сам, як ні круці, пад арыштам. Зусім незнаёмы для яе чалавек, а ключы аддала, адрас... Відаць, напраўду ведае, што яе хутка не адпусцяць. А там дзіця адно... Даверылася незнаёмцу. Урэшце, ці быў у яе іншы выбар? Сам не разумеючы, што робіць, папрасіў:

— Таварыш капітан, сказалі б, хай бы доўга не трымалі...

— Не твая справа! Сядзь!

Рэзкі тэлефонны званок, нечаканы, недарэчны ў гэты момант, абарваў цішу. Капітан борздка павярнуўся да стала.

— Капітан Герчык... Добры дзень, — трубка ў яго руцэ прыкметна дрыжэла. — Я зараз заняты. Перазваніце хвілін праз пятнаццаць... Так, праз пятнаццаць, — голас стрыманы, бадай спакойны. — Што за дзень сёння...

Паклаў трубку. На момант заплюшчыў вочы, як спрабаваў адагнаць нейкія непрыемныя думкі, ці нешта вырашаў для сябе:

— Ладна-а... Зоймемся табой.

Базан устаў, зрабіў крок наперад.

— Сядзі! Прозвішча?

— Базан.

— Гэта што, мянушка?

— Не. Прозвішча.

— Завуць?

— Іван... Іван Іванавіч.

— Дзе жывеш, працуеш?

Базан адказаў, што часова не працуе. Капітан згодна кіўнуў галавой: сёння працу знайсці не так ужо і проста. Скарачэнні. Банкруцтва.

— Штраф з цябе не возьмеш, шлында бяздомная. А за напад на супрацоўнікаў міліцыі пры выкананні варта ўляпіць табе сутак гэтак пятнаццаць.

— Дык жа ж дзіця... — спалохаўся. Не за сябе: яму што? Адзін. — Папрасіла ж. Паверыла. Ключы, во, ад кватэры дала...

— Ладна-а... — гэта было ці не любімае капітанава слова. — Едзь. Дзяўчо і сапраўды малое. Пяці няма. Без бацькі расце. Як такую малечу адну пакідаць? Эх, бацькі-маткі... Бл-лін!..

— Можа, пільна трэба было куды...

— З сабою ўзяла б! У мяне таксама дачка. У бальніцы зараз. Запаленне... Таксама адна... — і як засароме́ўся шчырасці, груба, нібы загадаў — Едзь!

Базан ужо ўзяўся за ручку дзвярэй, хацеў ісці, ды голас капітана спыніў:

— Хаця... Сядзь. Пачакай. — ён шчоўкнуў рычажком на апараце — Дзяжурны?.. Капітан Герчык. Лабко на выездзе?.. Не. Хай зойдзе да мяне...

Калі Лабко зайшоў у кабінет, суха загадаў, кіўнуўшы на Базана — Адвязеш на вуліцу Адзінцова. Ён адрас скажа, — ціха, мусіць, сам сабе дадаў — Так хутчэй будзе...

Ужо ў дзвярах Базан азірнуўся, хацеў падзякаваць. Капітан стаяў тварам да закратаванага акна. У пальцах дымілася цыгарка.

 ЧАСАПІС

МУЗЫКА

## Артыстка яркіх вобразаў

7 лютага споўнілася 100 гадоў з дня нараджэння народнай артысткі Беларусі Веры Мікалаеўны Пола, жыццёвы і творчы шлях якой непарыўна звязаны з Нацыянальным Акадэмічным тэатрам імя Янкі Купалы. Вера Мікалаеўна была актрысай яркага таленту. На сцэне яна стварала псіхалагічна дакладныя вобразы, шматгранныя характары, якія, у той жа час, былі прасякнуты народным гумарам, багаццем інтанацый. Шмат адметных вобразаў В. Пола стварыла як у беларускім, так і ў сусветным класічным рэпертуары. Гэта ролі Агаты (спектакль "Паўлінка" Янкі Купалы), Кацярыны ("Партызаны" Кандрата Крапівы), Карміцелькі ("Рамэо і Джульета" Шэкспіра), Дуэнні ("Дзень цудоўных падманаў" Шэрыдана) і іншыя.

Дзяржаўны музей гісторыі тэатральнай і музычнай культуры РБ традыцыйна ўшаноўвае імёны славутых дзеячаў мастацтва, да якіх належыць і Вера Мікалаеўна. Таму невыпадкова 15 лютага ў гасцёўні У. Галубка адкрылася выстаўка "Артыстка яркіх вобразаў", прымеркаваная да 100-гадовага юбілею актрысы. Ушанаваць памяць Веры Полы прыйшлі акцёры, мастакі, сябры, паплечнікі, тыя, хто ведаў і быў знаёмы з ёй: народная артыстка Г. Арлова, заслужаны работнік вышэйшай школы В. Казлова, народны мастак У. Стальмашонак, нявестка актрысы А. Пола, унучка В. Пола, пляменніца Н. Аляксеева.

На выстаўцы прадстаўлены фотаздымкі, афішы, дакументы, макет да спектакля "Паўлінка", асабістыя рэчы актрысы з фондаў Дзяржаўнага музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры РБ, Музея-архіва літаратуры і мастацтва, архіва сваякоў актрысы, якія перададзены ў фонды музея.

Л. КАМАРОЎСКАЯ, загадчыца гасцёўні У. Галубка

## Дарога на Віфлеем

У Беларускім рэспубліканскім тэатры юнага гледача адбылася прэм'ера — "Дарога на Віфлеем" па п'есе Сяргея Кавалёва. Калядная казка С. Кавалёва "Братка Асёл" у свой час (у 1997 годзе) была адзначана прэміяй на рэспубліканскім конкурсе па драматургіі. У красавіку 1999 г. пад такой назвай яна і была пастаўлена ў Тэатры юнага гледача рэжысёрам Юрыем Бярозам (дарэчы, добра вядомым па пастаноўцы казкі "Шукай ветру ў полі" У. Ліўшыца, якую і зараз можна ўбачыць на сцэне тэатра), аднак у рэпертуары не затрымалася.

І вось у тэатры адбылося другое нараджэнне спектакля пад назвай "Дарога на Віфлеем". Гэта зусім новая пастаноўка — з новай рэжысёрскай задумай, музычным афармленнем, выканаўцамі. Рэжысёр Наталля Башава і мастак Ларыса Рулёва стварылі на сцэне тэатра яркае казачнае святочнае прадстаўленне. Удала падабрана музычнае суправаджэнне.

С. Кавалёў па-свойму асэнсаваў вядомы біблейскі сюжэт аб нараджэнні Ісуса Хрыста. У цэнтры яго каляднай казкі — Асёл, які кідае свайго злога Гаспадара і ідзе ў Віфлеем, каб ураtaваць нованароджанага Ісуса ад воінаў цара Ірада і адвезці святое сямейства ў Егіпет. У спектаклі два склады выканаўцаў. Ролю Асла выконваюць актрысы Вера Кавалерава і Алена Шабад. У іншых ролях занятыя акцёры: А. Кізіно і І. Шрубейка (Гаспадар), Ю. Палубінская і А. Паплаўская (Зорка), І. Ушакевіч і М. Рулёў (Парсюк), М. Лявонцьеў і Л. Улашчанка (Леў), А. Каламіец і М. Лявончык (Крот), Я. Жуковіч і Т. Ражаўская (Малпа), Ю. Мельнічэнка, В. Ніцко, М. Рулёў, І. Ушакевіч (жаўнеры), А. Палазкоў і С. Савянкоў (Язэп), Н. Гарбаценка і Г. Кухальская (Марыя), маленькія мінчане Аня Жынкевіч, Саша Кавалерава, Насця Ладуцька, Аня Лешчанка, Антон Разанаў, Ева Яроменка (анёлы).

Дзіяна СТЭЛЬМАХ

## Прэміі часопіса "Полымя"

Рэдакцыйнай калегіяй часопіса "Полымя" прысуджаны прэміі за лепшыя творы, апублікаваныя на яго старонках у 2000 годзе. Па раздзеле "Проза" лаўрэатамі сталі: В. Казько — за раман "Бунт незапатрабаванага праху" і С. Рублеўскі — за апавяданне "Бальнічка ў Хахлаўцах"; "Паэзія": В. Зуёнак — за вершы, Н. Мацяш — за вянок санетаў "Бабіна лета ў Белаазёрску"; "Публіцыстыка": С. Шаўцоў — за нататкі "Пункціpам" і "Еўклідавы паралелі"; "Старонкі нашай гісторыі": Л. Лыч — за артыкул "Ідэя дзяржаўнай незалежнасці ў славянскім свеце"; "Крытыка і літаратуразнаўства": У. Конан — за артыкул "Беларуская літаратура ў кантэксце хрысціянскіх ідэалаў"; "Сярод кніг" — Т. Грамадчанка — за рэцэнзію "Служэнне праўдзе адзінай".

# "Які сэнс у мастацтве, калі ты не імкнешся сказаць сваё слова?"

***Жыццё, кажуць філосафы, — гэта чарада падзей і рашэнняў. Яны пераплятаюцца, узаемадзейнічаюць, перайначваюцца. Чалавек рэагуе на падзеі, прымае адпаведныя рашэнні — жыве. А само паняцце "падзея" кожны раз набывае іншы сэнс пад уплывам ці то часу, ці то месца дзеяння, ці то людзей, якія маюць дачыненне да гэтай самай падзеі. Юбілей у жыцці кожнага чалавека — вядома ж, падзея, з уласцівымі ёй радасцю і сумам, хваляваннем і роздумам, успамінамі і надзеяй. У гэты момант кожны з нас, а тым больш творца, раптам адчувае патрэбу азірнуцца на тое, што зроблена, і суаднесці з тым, што хацеў зрабіць, пра што марыў.***

***Вось у такі момант мне выпала шчасце размаўляць з лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Беларусі, кампазітарам, дацэнтам кафедры кампазіцыі Беларускай акадэміі музыкі Галінай Гарэлавай. Яна прыгожа і годна сустракае пару творчай сталасці. "Лірычная кантата", кантаты "Тысяча гадоў надзеі" і "У год сусветнага пажару", канцэрты для скрыпкі, балалайкі, гітары, трубы, шматлікія камерныя вакальныя і інструментальныя творы, музыка для дзяцей, музыка да тэатральных спектакляў...***

***Аднак наша гутарка з Галінай Гарэлавай вялася не пра канкрэтныя творы, а пра ўзаемадзеянне падзей і рашэнняў, іншым словам — пра жыццё, якое заўсёды ёсць крыніца творчасці.***



**— Ці змяніў час ваша ўяўленне пра жыццёвыя каштоўнасці?**

— Не, не змяніў. На жаль, цяпер іншая шкала каштоўнасцей, але на маім уяўленні пра тое, што добра і што дрэнна, гэта ніяк не адбілася. Прыкра, але даводзіцца цяпер тлумачыць студэнтам, што сапраўдныя каштоўнасці нікуды не знікаюць і не мяняюцца, не бываюць новымі ці старымі. І калі чую, што ўсё тое, што я лічу жыццёвымі *каштоўнасцямі* — дабрыня, высакароднасць, велікадушнасць, пачуццё ўласнай годнасці і няздольнасць да агрэсіі, — сёння непатрэбна, упэўнена: тыя, хто так гаворыць, усё ж цэняць гэтыя каштоўнасці на ўзроўні падсвядомасці.

Людзі майго пакалення засвоілі простую ісціну: часы не вінаватыя, "часы не выбіраюць, у іх жывуць і паміраюць". Збольшага, часы не мяняюцца. Дастаткова прыгадаць 66-ы санет Шэкспіра, каб знайсці ў нашым сённяшнім жыцці пацвярджэнне кожнаму яго радку пра недасканаласць чалавека і светабудовы. А ў гэтым недасканалым свеце бывае цяжка захаваць свае прынцыпы.

У мастацтве і ў жыцці законы выбару чалавекам свайго шляху аднолькавыя. Заўсёды існуе выбар паміж вечным і злабадзённым, паміж тым, што збіраешся пакінуць пасля сябе, і тым, што хочаш мець тут і цяпер.

**— Адсюль вынікае пытанне пра кампраміс у мастацтве. Як вы яго разумееце?**

— Гады два таму да мяне звярнулася журналістка, якая збіралася пісаць артыкул на гэтую тэму. А "падштурхнуў" яе даведнік нашага Саюза кампазітараў: у спісах твораў некаторых аўтараў да 1985 года былі опусы пэўнага кірунку — пра партыю, Леніна, камунізм, партбілет. Але пасля 85-га, як па камандзе, у творчасці тых самых аўтараў з'явілася новая тэма — паводле Святога пісання біблейскіх легенд, апокрыфаў. Тэмы змяніліся, але музыка — не. Я нікога не асуджаю і нават дапускаю, што калегі былі шчырыя і ў тым, і ў другім выпадку. Я разумею, што ёсць людзі, якія плывуць па цячэнні, гэта зручна. Тая журналістка звярнулася да мяне, бо я была адной з тых, у чыіх пераліках твораў не было ніякіх зігзагаў.

Мне вельмі пашанцавала ў жыцці. Ад мяне *ніхто не патрабаваў пісаць "слава партыі"* ці "лічыце мяне камуністам". Я заўсёды аддавала перавагу рэчам, якія існуюць па-за гэтым. І калі ёсць сімвал Прыгажосці, этычны і эстэтычны эталон, якія выпрацавала чалавецтва за ўсю гісторыю свайго існавання, то ён такім застаецца, колькі б часу ні прайшло.

**— У вашым жыцці вялікае месца займае паэзія, вы ведаеце на памяць шмат вершаў. Якую паэзію вы любіце?**

— Гэта паэзія старажытнага Егіпта, сярэднявечнага Кітая. Чытаеш любы верш Бо Дзюі, Лі Цынджао, Лі Бо, або Ван Вэя і разумееш, што гэта сапраўднае мастацтва, яно ўвогуле па-над часам, як і паэзія Пушкіна і "срэбнага веку", паэзія Ахматавай. Але самае вялікае адкрыццё для мяне — Уладзімір Набокаў, які так прыцягнуў-зачараваў, што спачатку я страшэнна перажывала, што столькі часу прайшло без Набокава.

Кажуць, у маім узросце ўжо трэба не чытаць, а перачытваць. Але столькі ёсць яшчэ ўсяго, што хочацца прачытаць, што перачытваць давядзецца, пэўна, не хутка.

**— А жывапіс уплывае на вашу музыку?**

— Музыка і жывапіс для мяне — рэчы абсалютна звязаныя, мабыць, таму мне вельмі блізкае мастацтва Чурлёніса. Я нав зайздрошчу яму, бо чалавек здолеў так шмь сказаць і фарбамі, і гукамі. Мне бліжэй за ўсё пейзажны жывапіс. Любімыя карціны мастакоў аб'яднання "Свет мастацтва", "Блакітная капліца" Бялыніцкага-Бірулі, пейзажы імпрэсіяністаў, карціны Васільева, Левітана, Саўрасава. Вобраз жывапісна-прасторавы заўсёды дапамагае ўзнікненню вобраза музычнага, які існуе ў часе. Так узаемадзейнічаюць у творчасці прастора і час.

**— Знакаміты французскі кампазітар XX ст. Арцюр Анегер казаў, што кампазіцыя — гэта не прафесія, а манія, ціхае вар'яцтва. Яго суразмоўца, крытык Гавоці не згаджаўся: "Стварэнне музыкі — самая ўзвышаная прафесія". У чым жа, на вашу думку, прызначэнне кампазітара?**

— Я лічу, што прызначэнне кожнага мастака — стварыць свой стыль. Канечне, стварыць сваю мову могуць толькі геніі. Я

НОВАЕ

# Запрашаюць "Славутыя майстры"

Адкрыццё новай галерэі — заўжды свята, асабліва калі яна мае намер прадставіць гледачам народную творчасць. Галерэя "Славутыя майстры" заснавана творчым прадпрыемствам "Славутасць" пры дапамозе Беларускага фонду культуры. Прадпрыемства "Славутасць" ужо даўно і плённа працуе з народнымі майстрамі, і мае свае памяшканні на Кастрычніцкай вуліцы. Менавіта таму да гэтага прадпрыемства за вопытам і супрацоўніцтвам звярнуўся БФК. Сумесная галерэя "Славутыя майстры" адкрылася і штодзённа працуе ўжо ў Траецкім прадмесці. Яна займае першы паверх будынка БФК, а гэта тры немалыя залы. Яны адмыслова аформлены ў сялянскім стылі з каларытнай "інсталяцыяй" на ўваходзе. Пры гэтым яна мае сучаснае абсталяванне, якасныя вітрыны, якія адразу настройваюць на сур'ёзнае ўспрыманне новай галерэі. Адкрыццё прайшло ва ўрачыстай атмасферы з прамовамі старшыні БФК У. Гілепа, дырэктара ТП "Славутасць" А. Спірыдонавай і старшыні Саюза народных майстроў Я. Сахуты. Хатняй утульнасці галерэі паспрыялі піражкі, якія напяклі гаспадыні памяшкання, і музычныя творы, што выконваў новы калектыў БФК "Мінскі струнны квартэт".



"Калі Беларускі фонд культуры атрымаў памяшканне ў прадмесці з рук тагачаснага мэра У. Ярмошына, я яму сказаў, што маю дзве мары: наладзіць "Траецкі кірмаш" і адкрыць краму, дзе б прадаваліся вырабы народных майстроў. Вось ужо трэці год мы будзем ладзіць "Кірмаш". А цяпер адкрываем і галерэю, — зазначыў у сваім выступленні У. Гілеп, — якая прывязана ідэяй не толькі да Траецкага прадмесця, але і да мінскага замчышча, што знаходзіцца ў пяцідзесяці метрах адсюль. Нам хацелася паказаць тут, чым было багата менавіта мінскае замчышча. У першую чаргу гэта — ганчарства. Таму наша галерэя мае прыярытэт на гліняны посуд, шамот, любыя керамічныя вырабы, якія датычаць беларускай гісторыі і культуры. Невыпадкова мы выставілі ў экспазіцыі гліняны гаршчочак XI стагоддзя з мінскага замчышча (з калекцыі Нацыянальнага мастацкага музея), а побач з ім стаіць сасуд даінкскай эпохі з Перу (з прыватнай калекцыі), як згадка пра нашу спалучанасць з сусветам".

Першая выстава новай галерэі сабрала і традыцыйныя формы посуду, гліняных цацак, званочкаў, і керамічныя вырабы мастакоў дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва (пано, насценныя талеркі, шахматы і г. д.). "Я рады, што прадпрыемства "Славутасць" і Беларускі фонд культуры ўзяліся за вельмі важную справу, дапамагаць народным майстрам рэалізоўваць свае творы, — зазначыў Я. Сахута. — Народныя вырабы павінны прадавацца не побач з бялізнай, а ў сваім асяродку". Адзіная, але вельмі важная небяспека для новай галерэі можа хавацца ў яе залішняй "камерцыялізацыі". І няхай выстаўленыя цяпер у вітрыне фігуркі сучасных расійскіх палітыкаў, Пятра І ці Екацярыны ІІ, магчыма, маюць попыт, але яны, як бы там ні было, не адпавядаюць ані беларускім традыцыям, ані гісторыі нашай краіны. "Справа галерэі, падказаць, распавесці народным майстрам, што Беларусь мае свае славутасці і сваіх вядомых асобаў, якія варта прапагандаваць", — дадаў у сваім выступленні Я. Сахута.

Наталля ШАРАНГОВІЧ

згодна з Э. Ансэрмэ, які лічыў геніем толькі таго кампазітара, які стварыў уласную мову, як Дэбюсі, Шонберг, Пракоф'еў, Шастаковіч. Стыль — гэта больш агульнае паняцце. Кампазітар павінен імкнуцца стварыць такі стыль ці почырк, каб пазнавалі яго вобразы, мову, нават калі яна і не зусім новая і *арыгінальная. Але тое, што сказана на гэтай мове*, павінна быць новым і арыгінальным. Інакш, які сэнс у мастацтве, калі ты нават не імкнешся сказаць сваё слова, каб тыя, няхай і нешматлікія аматары музыкі, *якія слухаюць твае творы*, адчулі імкненне аўтара "ўзяць высокую ноту", узнесціся на вышыні чалавечага духу. Не ўсе з нас дасягаюць гэтых вышынь, але большасць да гэтага імкнецца.

**— А якая музыка вам падабаецца?**

— Тая, што можа мяне ўсхваляваць. А гэта дабахаўскія італьянцы і англійскія вірджыналісты, Бах, французскія клавесіністы, Бетховен, Моцарт, кампазітары-рамантыкі. Я люблю джаз за яго свабоду, фантазію, непрадказальнасць. Люблю і класічны джаз (Гершвін, Армстранг, Элінгтан, Гудмен, Гілеспі, Брубек), і авангардны. Апошні дасягнуў такіх галавакружных вышынь, што гэта хвалюе, захапляе і радуе.

**— Ці заўсёды вы задаволены вынікамі сваёй творчай працы? Не ўзнікае жадання штосьці выправіць і перарабіць у творы, які вы ўжо аддалі на суд слухачоў?**

— З цягам часу працаваць усё цяжэй. Юнацкая ілюзія, што чым далей, тым будзе лягчэй, так і засталася ілюзіяй. З гадамі робішся больш патрабавальнай да сябе, таму і працаваць цяжэй. А на тое, што напісана раней, гляджу іншымі вачамі, слухаю іншымі вушамі. І таму засталося зусім няшмат твораў, у якіх цяпер я не выправіла б ніводнай ноты. Жах у тым, што я сама для сябе найгалоўнейшы рэцэнзент. Для супакою можна чытаць хвалебныя рэцэнзіі, але яны не маюць асаблівага значэння, бо толькі аўтар ведае ўсе свае пралікі. І калі пачынаеш ацэньваць вынікі ўласнай працы, бывае вельмі цяжка. Кожны, пэўна, уяўляе сабе той узровень дасканаласці, тую планку, якую трэба ўзяць. А мінаюць гады, і ты бачыш, што не дасягнула, не "ўзяла планку". Ці, можа, планка стала вышэйшай? Гэта, як лінія гарызонту... А дасканаласць, урэшце, рэч недасягальная. І, канечне, бываюць горкія, непрыемныя хвіліны, але, відаць, інакш і быць не можа. Калі ты гэтым займаешся, то мусіш нечым плаціць: за свабоду — галечай, за славалюбства — хваробай, за фанатызм — *адзінотай*.

**— У каго вы вучыліся прафесіі і як вы адчуваеце сябе ў ролі настаўніка?**

— У мяне было шмат настаўнікаў. Я пачала займацца кампазіцыяй у музычным вучылішчы, дзе гурток кампазіцыі вёў А. П. Зайцаў-Сумской. Год я ў яго займалася. Потым настаўнікамі былі Р. П. Бутвілоўскі, К. Д. Цесакоў. У кансерваторыі я трапіла ў клас Д. Б. Смольскага. Усім, што я ўмею ў творчасці, я абавязана яму. Ён — цудоўны, найвыдатнейшы педагог. У асістэнтуры я займалася ў А. В. Багатырова, ездзіла ў Маскву на майстар-класы да Ю. А. Фартунатава. *Гэта настаўнікі, так бы мовіць, па прафесіі*. Але пра многіх людзей, з якімі я сустракалася ў жыцці, магу сказаць, што яны таксама мае настаўнікі. Я вучылася ў іх адносінам да мастацтва, да працы, У кагосьці *вучылася душэўным вартасцям*. Таму сярод настаўнікаў магу назваць Л. С. Мухарынскую, Э. М. Тырманд, Л. Д. Гарэліка... Яны так ці інакш пераканалі мяне, што творчасць — гэта далучэнне да сферы высокіх энергій, і самая вялікая асалода ў жыцці — гэта пошук новых музычных матэрый. Хацелася б і для сваіх вучняў быць добрым настаўнікам. Прачытала у Яна Каменскага: "Дрэнны той настаўнік, якога не пераўзышоў яго вучань". Самае галоўнае, мне здаецца, вучыць так, каб твой вучань пераўзышоў цябе, выхаваць у ім душу мастака. Я да гэтага імкнуся.

**— Ці паўстаюць перад вамі пытанні: для каго вы пішаце сваю музыку, дзеля чаго гэта робіце?**

— Кожны кампазітар хоча, каб яго пачулі, часам нават уяўляе сваю аўдыторыю. Яркі і таленавіты фальклярыст Д. Пакроўскі на абвінавачванні з боку рок-музыкантаў у тым, *што ён спявае толькі для сябе, а не для* стадыёнаў і вялікіх залаў, з пачуццём уласнай годнасці адказаў, што спяваць для сябе і ёсць самае галоўнае ў жыцці. Здаецца, дакладней і не скажаш. Калі ты гаворыш, спяваеш пра блізкае, хвалюючае для цябе і пры гэтым ты яшчэ цікавая асоба, дык гэта прывабіць і іншых. Тады цябе абавязкова хтосьці пачуе, зразумее і захоча паслухаць тваю музыку яшчэ раз. Калі ў Святым пісанні сказана: "Палюбі іншага, як самога сябе", то можна працягнуць гэтую думку: спявай для іншага, як для сябе самога. Мне хацелася, каб мая музыка не мучыла (бо ёсць музыка, якая выклікае пакуты), а каб яна вызваляла чалавека ад усяго, што нябачнымі ніцінамі прывязвае яго да побыту, мітусні, уздымала б чалавека на такія вышыні, дзе ён вольна і спакойна дыхаў бы іншым паветрам...

**— Адзіная прывілея творцы, якую ў яго ніхто не адбярэ, — радаваць сваёй працай сяброў, сучаснікаў. Няхай радасць і любоў, а таксама ўпэўненасць, што ўсё самае лепшае яшчэ наперадзе, будуць вернымі спадарожнікамі кампазітара Галіны Гарэлавай і надалей, няхай у яе творах уладараць Спакой і Мудрасць, а ў цудоўным Садзе Музыкі, які яна гэтак клапатліва даглядае, ніколі не адцвітаюць кветкі і заўсёды спяваюць птушкі. З Днём нараджэння!**

**Таццяна ПЕСНЯКЕВІЧ**

*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА*





*На здымках: старшыня БФК У. Гілеп дае інтэрв'ю; іграе "Мінскі струнны аркестр"; адна з экспазіцый галерэі.*

*Фота М. ПРУПАСА*

ЮБІЛЕЙ

# Тэатр пачаўся з паэзіі



З чаго пачынаецца тэатр?

Не варта згадваць банальнае — "з вешалкі"...

Таму што на самай справе тэатр пачынаецца...

З першай прэм'еры?

З творчай задумы рэжысёра, які адчуў у сабе сілы і пакліканне?

З таго, што рэжысёр сустрэў аднадумцаў, якія падтрымалі ідэю: тэатру — быць?

Ці з першага глядацкага ўдзячнага водгуку, са з'яўлення "свайго" гледача?

А можа быць, тэатр пачынаецца... з паэзіі? Асабліва, калі гэта — беларускі паэтычны тэатр аднаго акцёра са старадаўняй беларускай назвай "Зьніч".

А можа быць... У 1989 годзе на тэатральным фестывалі "Студыйныя каляды" лаўрэатам за лепшую жаночую ролю стала актрыса Галіна Дзягілева, выканаўца ролі Рагнеды ў монаспектаклі "Выгнанне ў рай", пастаўленым рэжысёрам Віргініяй Тарнаўскайтэ. Тады тэатразнаўца Вячаслаў Ракіцкі адзначыў у сваёй рэцэнзіі: "Актрыса Галіна Дзягілева на працягу шэрагу гадоў упарта стварае беларускі паэтычны тэатр аднаго акцёра".

*І гэты тэатр быў створаны. Унікальны*, непаўторны. Таму што Галіна Дзягілева была і яго мастацкім кіраўніком, і выканаўцай асноўных спектакляў, душой і сэрцам тэатра. Так застаецца і цяпер, праз дзесяць гадоў пасля прэм'еры, якая лічыцца афіцыйнай "кропкай адліку" гісторыі "Зьніча". За гэтыя дзесяць гадоў у тэатр прыйшло шмат таленавітых людзей — вядучыя акцёры розных тэатраў прыходзілі ў "Зьніч", каб здзейсніць свае запаветныя творчыя мары, і гэта ў іх атрымлівалася. Спектакль за спектаклем папаўнялі рэпертуар тэатра, прызы тэатральных фестываляў і паспяховыя гастролі стваралі міжнароднае рэнамэ... Сёння ў тэатры спектаклі трох накірункаў — паэтычныя, драматычныя і спектаклі-сустрэчы з пісьменнікамі. Напэўна, ніводны тэатр не зрабіў столькі для папулярызацыі беларускай літаратуры, вобразаў беларускай гісторыі... І якіх вобразаў! Рагнеда, Ларыса Геніюш, Юльяна Мэнке — галерэя жаночых партрэтаў, створаных Галінай Дзягілевай. Творы Янкі Купалы, Максіма Багдановіча, Уладзіміра Караткевіча, Ніла Гілевіча, Анатоля Вярцінскага, Сяргея Законнікава, Надзеі Артымовіч знаходзяць сваё непаўторнае сцэнічнае ўвасабленне. А як радуюцца юныя гледачы сустрэчам з панам Кубліцкім і панам Заблоцкім, з Маленькім Анёлкам! І як ператвараюцца ў сапраўдныя спектаклі сустрэчы з пісьменнікамі — Рыгорам Барадуліным, Нілам Гілевічам, Уладзімірам Арловым, Артурам Вольскім, Вольгай Іпатавай, Сяргеем Законнікавым ды іншымі. У спектаклях тэатра было задзейнічана цэлае сузор'е таленавітых акцёраў — Аляксандра Клімава, Аляксандр Ткачонак, Валерый Шушкевіч, Леанід Сідарэвіч, Уладзімір Шэлестаў, Раіса Астрадзінава, Вячаслаў Шакаліда, Мікалай Лявончык... З тэатрам супрацоўнічалі такія рэжысёры, як Вольга Клебановіч, Віргінія Тэрнаўскайтэ, Уладзімір Забэла, Уладзімір Матросаў, Галіна Карбаўнічая ды іншыя, таленавітыя мастакі, сярод якіх Барыс Герлаван, Веніямін Маршак, Канстанцін Хацяноўскі, Таццяна Лісавенка, кампазітары Алег Залётнеў і Павел Кандрусевіч, Аляксей Шалыгін і Усевалад Грыцкевіч...

...Як і для многіх пісьменнікаў, беларускі паэтычны тэатр аднаго акцёра стаўся мне блізкім. Неяк нават Галіна Дзягілева запрасіла папрацаваць загадчыкам літаратурнай часткі. Мне выпала хоць у невялікай ступені спазнаць жыццё тэатра знутры. Жыццё далёка не бязвоблачнае. Бачыць, як падчас выязных спектакляў "выкладваюцца" акцёры на дрэнна прыстасаваных сцэнах школьных актавых залаў, як выканаўца галоўнай ролі, які за дзесяць хвілін да спектакля — зусім хворы, стомлены чалавек выходзіць на сцэну і пераўтвараецца, і заражае сваёй энергіяй усю залу. У якой такія розныя гледачы...

І тут варта казаць пра адметнасць тэатра "Зьніч", адметнасць, закладзеную ў саму яго прыроду ягоным стваральнікам і мастацкім кіраўніком. Бо гледачы, якія звыклі да бурлівай камерцыялізацыі тэатральнага мастацтва, якія ідуць паглядзець на "прыколы" і "хохмы" камедыянтаў, на спектаклях тэатра "Зьніч" расчароўваюцца. Таму што для гэтага тэатра галоўнае — не камерцыйны поспех, не "бабкі", а — духоўнасць, служэнне беларускай культуры. Галоўнае — дасягнуць вяршыні майстэрства у спалучэнні з высокай духоўнасцю і беларушчынай... Бо "Зьніч" — гэта духоўны тэатр. І беларускі тэатр. Бо ў ім Рагнеда, сышоўшы са сцэны, дзе яна гаварыла па-беларуску, не пераходзіць у прыватных гутарках на рускую мову. Бо беларускае паэтычнае слова гучыць на сцэне таму, што найперш гучыць у сэрцы акцёра...

Нездарма ж пасля доўгіх блуканняў у пошуку сцэнічнай пляцоўкі тэатр "Зьніч" цяпер мае сваю залу ў Чырвоным Касцёле на плошчы Незалежнасці.

...Вечарына памяці Сяргея Новіка-Пеюна... Першыя гукі яго славутых "Зорачак" сталіся пазыўнымі тэатра. Вечарыны памяці гэтага паэта, які "сядзеў за беларушчыну" пры трох уладах, зрабіліся традыцыйнымі.

...Гастролі ў Вільні... Спектакль па ўспамінах Юльяны Вітан-Дубейкаўскай, паплечніцы і нявесты Івана Луцкевіча, паказаны для віленскіх беларусаў. Наведванне пляменніка, героя спектакля, нястомнага змагара за беларушчыну, Лявона Луцкевіча, які перадаў Галіне Дзягілевай рукапіс Юльяны Вітан-Дубейкаўскай, па якім і быў пастаўлены спектакль...

...Данчык у Чырвоным Касцёле, на спектаклі "Віленскія мроі"...

..."Белы сон" *па "Споведзі"* Ларысы Геніюш — у Зэльве, мястэчку, дзе доўгія гады жыла паэтка, дзе яе магіла... Дзе многія зэльвянцы даведаліся пра тое, побач з імі доўгія гады жыла вялікая паэтка, толькі дзякуючы тэатру "Зьніч"...

Усяго не пералічыць. У гэтыя юбілейныя для тэатра дні многія будуць успамінаць, згадваць, захапляцца і дзякаваць. Дзесяць гадоў — і многа, і мала. Можна сказаць адно — калі такі тэатр, як "Зьніч", існуе, значыць, яшчэ "жыва душа ў гэтым народзе".

А з чаго тэатр пачаўся — няхай вызначаць яго летапісцы. Галоўнае, што ён жыве і яму сёлета споўнілася 10 гадоў.

**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ**

**Рыгор БАРАДУЛІН,**
**народны паэт Беларусі:**

"У такі моцны юбілей доўга гаварыць не трэба, можна пажадаць тэатру сталець, але не старэць. Я вельмі ўдзячны чароўнай кіраўніцы Галіне Дзягілевай, што яна звязала мяне з Алесем Камоцкім, маім вельмі дарагім і добрым сябрам.

***Я пажадаць хачу ЗЬНІЧУ***
***так азараць паляны залаў,***
***Каб у замшэлых цемрашалаў***
***аж зелянелася ўваччу,***
***Галіна радасці ўзышла***
***на беларускім небасхіле,***
***І дзягілавай натхнёнай сіле***
***Пашаны зычу і святла!"***

**Раіса АСТРАДЗІНАВА,**
**актрыса ЦЮГа:**

"Для мяне праца ў тэатры "Зьніч" цікавая перш за ўсё таму, што дае магчымасць прамога кантакту з гледачом, а гэта ўласцівасць менавіта монаспектакляў. У спектаклі "Маленькі Анё*лак" па п'есе* Сяргея Кавалёва, які я іграю ў тэатры "Зьніч", я за кароткі сцэнічны адрэзак пражываю дзесяць жыццяў.

Калектыў тэатра — гэта цудоўныя людзі, простыя і інтэлігентныя, што прысвяцілі жыццё служэнню тэатра, нягледзячы на сённяшні "нетэатральны" час".

**Сяргей ПАНІЗНІК,**
**паэт:**

"Я вельмі рады супрацоўніцтву з тэатрам, і мне хацелася б сказаць пра яго словамі верша, які я прысвяціў Галіне Дзягілевай.

## *А зязюля кукавала*

***Вас муза Званара сустрэла,***
***Дала вам дужасці.***
***У кожнага народа Дрэва***
***З галінак мужнасці.***

***Для нашай нацыі Купала —***
***Стазвоннай кронаю:***
***Галінка кожная гучала***
***Зязюляй роднаю.***

***Цяпер праз вас Прарока чуе***
***Юнак усцешаны.***
***Купалаў кліч вясну вяшчуе:***
***Шлях не завершаны!***

***Дні вымяраць мы будзем з вамі***
***я г о хвілінкамі, —***
***Каб на жыццёвым дрэве звалі***
***І нас — галінкамі.***

# Даследчык беларускай думкі і культуры

СЯМЁНУ ПАДОКШЫНУ — 70



**Сямён Падокшын нарадзіўся 8 сакавіка 1931 года ў Гомелі. Вайна, дзіцячы дом, Брэсцкае педвучылішча. Менавіта ў апошнім адбылася яго сустрэча з беларускай літаратурай. Вобразы паэм Янкі Купалы, Якуба Коласа, чароўныя гукі паэзіі Паўлюка Труса трывала ўвайшлі ў яго свядомасць і сэрца. Як успамінае юбіляр, галоўную ролю ў гэтым адыграў выдатны настаўнік і цудоўны чалавек Міхаіл Цярэнцьевіч Марчанка. Пасля заканчэння Мінскага педінстытута імя М. Горкага С. Падокшын настаўнічаў у Тураве, потым служыў у Савецкай Арміі.**

**З 1960 г. С. Падокшын працуе ў Інстытуце філасофіі НАН Беларусі. У 1965 г. абараніў кандыдацкую, а ў 1986 — доктарскую дысертацыю. Асноўныя напрамкі даследчыцкай дзейнасці доктара філасофскіх навук С. Падокшына — гісторыя беларускай філасофскай і грамадска-палітычнай думкі, культуры, рэлігійнага жыцця, праблемы айчыннага Адраджэння і Рэфармацыі, самасвядомасці, філасофіі гісторыі, станаўлення нацыянальнай дзяржаўнасці. На гэтую тэму вучоным апублікаваны шэраг грунтоўных манаграфічных прац на рускай і беларускай мовах: "Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы" (Мн., 1970), "Скорина и Будный: Очерк философских взглядов" (Мн., 1974), "Франциск Скорина" (М., 1981), "Філасофская думка эпохі Адраджэння: Ад Францыска Скарыны да Сімяона Полацкага" (Мн., 1990), "Памятники философской мысли XVII — первой половины XVIII в." (Мн., 1991. Складальнік, рэдактар, адзін з аўтараў), "Унія. Дзяржаўнасць. Культура" (Мн., 1998), а таксама звыш 200 раздзелаў і артыкулаў у калектыўных і перыядычных выданнях, Беларускай энцыклапедыі, Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі, Энцыклапедыі гісторыі Беларусі і інш. Сямён Падокшын адзін з аўтараў такіх фундаментальных выданняў, як "Францыск Скарына і яго час. Энцыклапедычны даведнік" (Мн., 1988), "Скарына і яго эпоха" (Мн., 1990), "Статут Вялікага Княства Літоўскага. Тэксты. Даведнік. Каментары" (Мн., 1989).**

**За цыкл прац па гісторыі філасофскай і грамадска-палітычнай думкі Беларусі ("Очерки истории философской и социологической мысли Белоруссии", "Идеи гуманизма в общественно-политической и философской мысли Белоруссии" і інш.). Сямёну Падокшыну і яго калегам у 1984 г. была прысуджана Дзяржаўная прэмія БССР у галіне навукі. У 1991 г. за выдатныя навуковыя дасягненні юбіляр быў узнагароджаны медалём Францыска Скарыны. Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь за дасягненне выдатных вынікаў у галіне прафесійнай дзейнасці ў жніўні 2000 г. Сямёну Падокшыну была прызначана персанальная стыпендыя тэрмінам на адзін год.**

**Доктар філасофскіх навук, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута філасофіі НАН Беларусі Сямён Падокшын — сталы аўтар тыднёвіка "Літаратура і мастацтва". На яго старонках ён апублікаваў шэраг змястоўных навукова-публіцыстычных артыкулаў: "Абэцэдаршчына" (Развагі пра манапалізм у навуцы), "Сымон Будны і беларускі менталітэт", "Беларуская Рэфармацыя і дзяржаўны суверэнітэт", "Шлях народа да сапраўднага быцця", "Уладар адзін — закон (выток ліберальна-дэмакратычнай традыцыі на Беларусі)", "Гісторыя ад Мацея" (спроба "палітычнай рэабілітацыі" гісторыка М. Стрыйкоўскага), "Падмурак дзяржаўнасці" (Беларускае Адраджэнне XVI — пачатку XVII ст. і сучаснасць), "Суцяшэнне гісторыяй" і інш.**

**Шчыра віншуем нашага дарагога калегу, таленавітага вучонага Сямёна Аляксандравіча Падокшына з 70-гадовым юбілеем, 40-годдзем плённай навуковай дзейнасці. Жадаем яму добрага здароўя, новых творчых поспехаў у даследаванні думкі, культуры, гісторыі Беларусі.**

**Таццяна КАРОТКАЯ,**
**доктар філасофскіх навук,**

**Таццяна МІЛОВА,**
**кандыдат філасофскіх навук**

*"ЛіМ"-ФОТА*



***Яму баянаў было мала,***
***Жалеек, дудак і цымбалаў:***
***Пульт сімфанічнага аркестра***
***Сніў Казінец. Віват Маэстра!***

**Народны артыст, мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага народнага аркестра імя І. Жыновіча прафесар Міхал КАЗІНЕЦ за дырыжорскім пультам Акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі.**

*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА*

# "Каб будзіць у беларусе чалавека..."

ПРЭЗЕНТУЕ "ТЭХНАЛОГІЯ"

У Нацыянальным выставачным цэнтры "Белэкспа" на кніжнай выставе-кірмашы, які адбыўся 13—16 лютага, сярод іншых выдаўцоў прэзентавала свае кнігі, выпушчаныя ў 2000 годзе, і выдавецтва "Тэхналогія". Яно пачало сваю дзейнасць ужо больш за дзесяць гадоў назад і набыло добрую вядомасць у краіне і за яе межамі. "Тэхналогія" выдае навуковую, навукова-папулярную, даведачную, рэкламную, вучэбную, вытворча-практычную і мастацкую літаратуру на розных мовах свету. Апошнім часам усё большую ўвагу аддае выпуску навуковай і навучальнай літаратуры — па філасофіі, эканоміцы, сацыялогіі, медыцынскіх навуках, гісторыі культуры, музыказнаўстве, пытаннях экалогіі і аховы навакольнага асяроддзя...

На згаданай выстаўцы-кірмашы "тэхнолагі" прадставілі чытачам і пакупнікам дзве свае леташнія кнігі — факсімільнае выданне "Наша Ніва" за 1910 год і манаграфію Віктара Шматава "Мастацтва беларускіх старадрукаў XVI—XVIII стст." Кароткім уступным словам імпрэзу адкрыў галоўны рэдактар "Тэхналогіі" Зміцер Санько. Ён запрасіў прысутных звярнуць увагу акурат на гэтыя дзве кнігі, асабліва — на другую, падкрэсліўшы, што гэта найбольш фундаментальная, глыбокая і цэльная праца В. Шматава, даўняга даследчыка беларускай старажытнай культуры і мастацтва, аднаго са старэйшых і загадчыка Музея старабеларускай культуры ў НАН рэспублікі, а таксама тое, што і сама гэтая кніга — сапраўдны твор мастацтва кнігі, што яна адзначана спецыяльным дыпломам выстаўкі-кірмашу.

Сам В. Шматаў не змог, на жаль, прыняць удзел у прэзентацыі — быў на той час у ад'ездзе, і пра ягоную кнігу гаварыла каляжанка — кандыдат мастацтвазнаўства, супрацоўніца Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук Беларусі Алена Пікулік:

— З'яўленне гэтай навуковай манаграфіі — сапраўды неардынарная з'ява ў нашым мастацтвазнаўстве. Гэтая кніга — адно з самых грунтоўных даследаванняў вельмі складанай тэмы "Мастацтва беларускай кнігі". Гэты бок працы беларускіх кніжнікаў доўгі час заставаўся па-за ўвагай нашых вучоных-даследчыкаў. І тут В. Шматаву належыць, безумоўна, пальма першынства. Ягоная кніга — плён, вынік карпатлівай і зацікаўленай працы цягам дзесяцігоддзяў. У ёй прааналізавана, разгледжана мастацтва беларускіх кніжнікаў трох стагоддзяў, мастацтва аздаблення кніг, што выходзілі з беларускіх друкарняў, пачынаючы з друкарні Ф. Скарыны і канчаючы друкарнямі XVIII стагоддзя. Каб адшукаць патрэбныя старадрукі, В. Шматаў вывучыў не толькі нашы архівы і кнігазборы, але і кнігазборы расійскіх бібліятэк, неадноычы пабываў на Украіне, у Літве і Польшчы. Таму і вылучаецца кніга навуковай добрасумленнасцю, шырынёй ахопу матэрыялаў. Мастацтва афармлення кніг аўтар разглядае, так бы мовіць, па друкарнях, і тут вось такі факт: калі паасобныя друкарні нам былі вядомы па тых ці іншых ранейшых публікацыях, то некалькі беларускіх друкарняў даследчык згадвае ўпершыню. Кніга ягоная будзе цікавая не толькім вузкім спецыялістам, але і ўсім, хто неабыякавы да беларускага мастацтва, нашай культуры наогул. Услед за спадаром Санько не магу не звярнуць увагі прысутных на тое, як выдадзена гэтае навуковае даследаванне. Тут усё радуе вока: выбар фармату, паперы, шрыфтоў, кампазіцыйная будова кніжных старонак... Безумоўна, гэта творчае дасягненне не толькі аўтара, але і ўсіх тых людзей, што спрычыніліся да падрыхтоўкі і друкавання кнігі.

— Перад намі — кніжны цуд, выданне, з якім можна смела ісці ў свет, якім можна ганарыцца, — былым працягваючы думку папярэдняга выступоўца, гаварыў доктар філалагічных навук, знакаміты наш навуковец Арсень Ліс. — Аднак жа куды важней іншае. Удумайцеся толькі: ужо ў XVI стагоддзі ў многіх нашых беларускіх мястэчках былі і працавалі друкарні, выдавалі кнігі "людзям паспалітым к добраму навучанню" — пачынаючы ад Заблудава, якое зараз на Беласточчыне, на польскім баку, да Куцейна пад Оршаю. Сёння гэта малыя, нават маленькія вёскі, а ў свой час там былі друкарні, выходзілі ў свет кнігі. Наш выдатны асветнік Васіль Цяпінскі меў нават перасоўную друкарню, якую вазіў на санях. І ў іх не проста друкаваліся кнігі — яны па-мастацку афармляліся, аздабляліся малюнкамі-гравюрамі, застаўкамі, каляровымі заглаўнымі літарамі... Вялікі дзякуй выдавецтву, усім ягоным супрацоўнікам, якія зрабілі такі цудоўны падарунак нашай творчай, мастацкай інтэлігенцыі, нашай культуры, усёй нашай грамадскасці.

Але большую частку свайго выступлення на прэзентацыі А. Ліс прысвяціў факсімільнаму







выданню "Нашай Нівы" за 1910 год. Том гадавога камплекта "першай беларускай газеты з рысункамі" выйшаў нашмат раней за кнігу В. Шматава, хоць і таксама летась. "ЛіМ" паведамляў пра яго выхад, сцісла анатаваў, падказваў, дзе кнігу можна набыць. На жаль, як і многія іншыя беларускамоўныя выданні, сёння выхад і такой надзённай і цікавай кнігі не выклікаў асаблівага розгаласу, не спарадзіў вакол яе ажыятажу. А між тым...

Паслухаем А. Ліса:

— Факсімільнае выданне "Нашай Нівы" было задумана даўно. І задумаў яго наш выдатны сучасны выдавец, галоўны рэдактар "Тэхналогіі" Зміцер Санько. Гэта стратэгічнае выданне. Кніга надзвычай актуальная і сёння, бо праблемы, задачы, пытанні, якія рашаліся на старонках "Нашай Нівы" на пачатку стагоддзя, на жаль, не адышлі ў нябыт, многія з іх так і не вырашаны і сёння, не зняты з парадку дня. "Наша Ніва" пачала выходзіць у 1906 годзе, і з першых нумароў яна вельмі шмат гаварыла душы беларуса. Задача яе была ў тым, каб будзіць у беларусе чалавека і грамадзяніна, будаваць, ствараць нашу беларускую грамадскую, дэмакратычную супольнасць. "Наша Ніва" выконвала гэтую задачу бліскуча. Яе рэдактарам быў надзвычай сімпатычны, сумленны чалавек Аляксандр Уласаў. Рабіць газету ў той час было вельмі складана. За надрукаванне артыкула "Дума і народ" рэдактар адседзеў месяц у крэпасці, яму пагражалі годам турмы, і выратаваў яго выдатны на той час адвакат Урублеўскі, які бараніў, дарэчы, лейтэнанта Шміта. А ў 1912 годзе газету ўзначаліў Янка Купала. "Наша Ніва" пасеяла ў народзе нямала смелых перспектыўных думак, згрупавала вакол рэдакцыі вялікае кола аўтараў, мела сваіх карэспандэнтаў ва ўсіх кутоčках Беларусі. "Наша Ніва" — цэлы этап у развіцці нашай грамадскай думкі, яна арганічна выказала менталітэт беларусаў, іх дух, настрой, памкненні. Сёння чытаеш газету і адчуваеш многа душэўнага цяпла, якое з гадамі не астыла. Я хачу зачытаць адну цытату з рэдакцыйнага артыкула "Нашай Нівы" за 3 лютага 1911 года: "Нашу Ніву" і рэдакцыю яе знаюць тысячы людзей і ў Беларусі, і ў Расіі. У 1910 годзе было надрукавана 666 карэспандэнцый, гэта быццам 666 каранёў, якімі "Наша Ніва" ўрасла ў родную зямлю, звязала нас з краем беларускім у адно цэлае. Газета ўзрасла, беручы сілу з глухіх беларускіх вёсак і мястэчак, а каб збудаваць такі аграмадны будынак, як адраджэнне беларускага народа, трэба было нялічаных ахвяр і доўгай цяжкай працы грамады людзей. І гэтыя людзі смела могуць глядзець у вочы і не баяцца суду гісторыі"...

Нам і сёння вельмі патрэбна цяпло, якое зберагося праз гады на старонках "Нашай Нівы". І вось гэтае цяпло прыходзіць да нас, сённяшніх чытачоў нашай першай газеты, праз кнігу, якую склаў факсімільны камплект "Нашай Нівы" за 1910 год...

Прэзентацыя — акцыя грамадская. Грамадскасці ж, на жаль, тым днём у НВА "Белэкспа" было небагата. Зрэшты, як заўсёды. Любая акцыя становіцца вядомай праз друк, тэлебачанне, радыё. І шкада, што на прэзентацыі той жа "Нашай Нівы" і карэспандэнтаў СМІ таксама было няшмат. Кніжны кірмаш закрыўся, а ці даводзілася чытаць што-небудзь пра гэтую прэзентацыю ў нашым друку? На жаль, не прыгадваецца...

А кнігі выдавецтва "Тэхналогія" можна набыць у краме "Тэхна" па адрасе: Мінск, праспект Ф. Скарыны, 81 (Акадэмія мастацтваў) без гандлёвай нацэнкі.

**М. МІХАЙЛАВА**

Алесь ЖУК



# ВОДСВЕТЫ

З КНІГІ ПРОЗЫ "ПА ДАРОЗЕ ДАДОМУ"

## Лаянка

Дзед Васіль абрэзвае кавалак сырамяці, вымяркоўвае так, каб і гуж атрымаўся і на пасак выйшлася. Малыя рояцца вакол дзеда і ўважліва назіраюць дзедаву работу. Дзеду падабаецца гэта ўвага.

— Го, ты, Андрэй, гэтак вылупіўся добра. А я дрэнна бачу. Бяры, рэж.

Той, што гэтак добра вылупіўся на дзедаву работу, аж чырванее ад задавальнення, бярэ нож, наточаны на брытву. Ад засяроджанасці аж язык на ніжнюю губу лёг. Рэжа. Ці то ад залішняй напругі, ці рука яшчэ слабаватая для такой работы, але нож крутнуўся — і да паўгужа.

— А каб ты галавою ў жыта! — дзед круціць у руках сапсаваны гуж. — Гэта ж трэба, гэтак вылупіўся, я думаў — ён і ўмее. А каб ты галавою ў жыта!

Дзед пачынае супакойвацца, меркаваць.

— Тут гуж на вузел можна будзе пусціць... Паска не выйдзе. З двух кавалкаў пуга можа быць. Гэта ж трэба — старому чалавеку гэтак абмануцца! Бадай ты галавою ў жыта!

Дзед супакоіўся, смяецца. І прымаўка яго гучыць не як ушчуванне, а як пахвала ці ласка.

## Дуля

З тым жа дзедам Васілём пасём кароў. Яшчэ і травы тае кот наплакаў, але кароў выгналі на пашу, бо не ва ўсіх ёсць чым карміць. Як і тады, калі ўсё ад тае ж нястачы, дзед вымяркоўваў, каб з сырамяці не толькі гуж, але і пасак выйшаў, ён зараз марыць.

— Ну, гэтага году то ў мяне груш будзе. Пудоў шаснаццаць. Мая дуля гэтак цвіла, гэтак цвіла! От папаядаем зімою!

Дзедава груша знакамітая на вёсцы. Увосень яна прадмет павышанае ўвагі і ў нас, дзятвы.

Памятаю, як я тады зайздросціў дзеду. Але восенню таго года не было ні дзеду шаснаццаці пудоў, ні нам хоць па грушцы. Адбыла той год дзедава дуля пустацветам.

## Мерка жорсткасці

Жнівеньскі цёплы надвячорак. З поля павявае пахам спелае збажыны. Дзядзька пасля работы стомлена прысеў на лаўцы пры плоце — чакае карову з пашы. Паўз яго ласкава трэцца пярэсценькі каток.

— Жыве коцік. Я і яго, яшчэ сляпога, разам з астатнімі ў торбу ўкінуў, каб утапіць. Адвярнуўся на хвіліну, а ён выкараскаўся. Лічы, з таго свету, хоць і гэтага яшчэ не пабачыў. Такую жывую душу смерцю хіба толькі немец глуміў.

## Юбілейная непахіснасць

Поўная святла зала, запоўненая, каб не траплялі ў тэлекамеры пустыя крэслы, школьнікамі і студэнтамі. На сцэне таксама поўны прэзідыум. У першым радзе яго, у цэнтры, побач з кіраўніком Саюза сам юбіляр, сівавалосы, годны. Уважліва слухае доўгі, счытаны з паперы даклад пра яго самога і ягоную творчасць. Апладзіруе дакладчыку. Потым выслухоўвае віншаванні, атрымоўвае адрасы, кветкі, падарункі. Выходзіць з-за стала прэзідыума, прымае ад землякоў каравай на ручніку. І незразумела, ці пот з ілба змахвае ад гарачыні тэлевізійных юпітэраў, ці слёзы ад замілавання сваёй асобай. Не заўважае, што зала стамілася. Выходзіць падзякаваць, і сам пачынае расказваць пра сябе, далікатна ўдакладняе дакладчыка.

Для начальства і блізкіх яшчэ падрыхтавана і другая частка, ужо за сталамі, устаўленымі пачосткаю. Там ужо запрошаныя не будуць пазіраць на гадзіннікі, спяшацца, а будуць гаварыць такія пранікнёныя тосты, што слязу ўдзячнасці хаваць нельга. І міжволі забудзешся, колькі намаганняў каштавала "прабіць" і прэстыжную залу, і сабраць не абы-які прэзідыум, і ў якую капейку ўсё гэта вылілася...

Чытаючы гэты, больш чым дваццацігадовае даўнасці запіс у дзённіку, міжволі ўспомніўся і нядаўні юбілейны вечар. Усё адзін да аднаго. Хіба толькі што няма на сцэне "манументальнага" прэзідыума, на сцэне за столікам сам юбіляр і вядучы. Ганаровыя госці сядзяць на першым радзе ў зале. І модна не прысутнасць хаця б намесніка міністра ўнутраных спраў, а каго-небудзь з замежных пасольстваў. Ды няма, каб не надта сумавала зала, паміж віншавальнымі выступленнямі — выхады артыстаў з чытаннем твораў юбіляра. А потым і другая частка, там усё, як і раней.

Розніца відавочная яшчэ і ў тым, што юбіляры памаладзелі — юбілейны марафон пачынаюць з "пяцідзесяткі". Ды і арганізоўваць ушанаванне цяжэй стала: трэба не толькі перад чыноўнікамі кланяцца за дазвол на правядзенне вечара, але і спонсараў шукаць, якія б заплацілі за абедзве часткі. Затое, калі спонсары шчодрыя знойдуцца, размах не раўня ранейшаму...

## Дзяржаўны клопат

На гарадской гароднінай базе, на квашпункце, дзе пануе пах гнілых кавуноў, свежая — толькі што прывезеная з поля хрумсткая капуста. Бабы трамбуюць яе ў цэментаваных ямах, абутыя ў звычайныя гумавыя боты, якія, аказваецца, прыгодны і для такой работы, не толькі ў кароўніках па гнаі хадзіць. Гаворка сур'ёзная: пра перамены ў Кітаі, пра арышт удавы Мао.

— Слава Богу. Можа, Кітай зноў стане нашым.

## Хоць маленькага царка

Усталяванне савецкай улады дайшло і да нашай вёскі. Прыехалі камісары са Слуцка на былой панскай брычцы. Мужчына ў скуранцы, з партупеяй і пры нагане. Штаны галіфэ са скуранымі леямі. Поўны камісар. Але больш за ўсё вяскоўцаў уразіла камісарша. Нязвыкла коратка астрыжаная, таксама ў скуранцы, падпярэзаная рамянём, на якім кабура з наганам. Народ сабраўся на выгане ўвесь. Камісар доўга і цярпліва расказваў пра тое, што адбылася рэвалюцыя, што цара болей няма, што цяпер усе людзі роўныя, няма болей паноў і парабкаў, не будзе болей ні бедных ні багатых, што з гэтага часу чалавек чалавеку таварыш, сябра і брат. Пасля выступіла жалудавокая камісарша. Яна паўтарала амаль што ўсё сказанае мужчынам, але чамусьці з нейкім крыкам, узмахваючы маленькім кулачком, што нават глухаваты дзед Аляксей, які слухаў мужчыну, прыкладушы руку да вуха, мусіў апусціць яе. Сівабароды, у палатнянай кашулі і штанах, ён стаяў, абапёршыся на лёгенькі арэхавы кіёк, і ківаў галавою — быццам у знак згоды. Маладзейшыя мужчыны дымілі самасадам і на ўсякі выпадак лічылі лепей маўчаць, не лезлі з пытаннямі — Бог яго ведае, што там надалей будзе, яшчэ за тое, што палезеш на падзеленую панскую зямлю, і галаву потым скруцяць. Пад канец мітынга камісар спытаўся — можа, якія просьбы да новае ўлады ў мужыкоў будуць? І тут наперад прасунуўся дзед Аляксей:

— Яно, пан-камісар, няхай і саветы будуць. Маладым гэта, можа, і лепей будзе, ніхто нічога не кажа. А як жа нам, старым, быць? Вы б ужо, пантаварышок, нам бы хоць якога царка, хоць маленькага пакінулі, бо як жа мы — без царка? Нам без царка ніяк нельга, народ мы такі, што царок нам патрэбен...

Смяяўся з дзеда камісар, ваяўнічая камісарша смяялася, смяяліся мужчыны. Падобна, дарэмна смяяліся.

## Насланнё ад чорта

Найважнейшае з усіх мастацтваў — кіно прыйшло да вяскоўцаў у самым большым з усіх Стаханавым гумне, улетку. Паглядзець на дзіва дзіўнае прыйшла і баба Сымоніха.

Паказвалі "Чапаева", у якім лава коннікаў з шаблямі нагола з дзікім гіканнем ляцела з экрана проста на гледачоў, а тыя не маглі ўстрымацца ад крыку з перапалоху.

Назаўтра бабе Сымонісе была чарга пасвіць кароў. Пасвіла яна з суседскаю дзяўчынкаю Жэняю. Сонца ўжо добра прыгрэла, пакуль каровы наскубліся травы, і чарада прылегла жаваць жвачку. Баба Сымоніха не ўпусціла моманту, таксама прылегла адпачыць і задрамала. Дзяўчынцы ж драмаць не хацелася, і пакуль баба пухкала губамі ў смачным сне, Жэня гуляла з маленькай шэрай яшчаркаю. Ні з таго ні з сяго баба раптам закрычала "Авой-авой!", падхапілася і спалохана агледзелася навокал. Нарэшце з палёгкаю ўздыхнула і пачала тлумачыць дзяўчынцы:

— Ты ж, мая Жэнечка, болей не хадзі на гэтае кіно, бо яно ад чорта нейкага. Гэта ж толькі вочы я звяла, а каровы нашы як уздрочыліся, хвасты пазадзіралі — і ўсе ў неба, усе ў неба, аж след прастыў!

Баба Сымоніха зноў прылегла, але болей не заснула, ляжала, пазірала на мірна жвакуючую чараду, — мабыць, на ўсякі выпадак пільнавала, каб каровы на неба не паляцелі.

## Людскасць

Выкладчык інстытута, цяжка паранены, кантужаны, з гадамі пачаў няўмольна слепнуць. Але амаль вобмацкам прыходзіў на працу, чытаў студэнтам лекцыі. Расказваў ім, як, ідучы на лекцыі, найшоў на жанчыну і высыпаў долу цэлую карзінку купленых ёю клубніц.

— Што, вочы павылазілі? — раззлавана крыкнула жанчына. І мужчына разгублена сказаў першае, што навярнулася на язык:

— Не, мая даражэнькая, павыцякалі...

— Вой! — нібы спалохана ўсклікнула жанчына. — Пачакайце, тут трамвайныя пуці. Я перавяду вас цераз вуліцу.

Узяла пад руку і перавяла на другі бок вуліцы.

## Кожнаму сваё

Марыя Мікалаеўна выцягнула ў тэатр оперы і балета сваю былую аднакурсніцу, таксама настаўніцу, таксама Марыю, толькі Іванаўну, якая пастаянна па тэлефоне скардзілася, што з-за работы, з-за кухні, з-за прыборак у хаце свету божага не бачыць, нідзе не бывае.

Калі выйшлі пасля спектакля на вуліцу са святочнага ад свята будынка тэатра, пасля стракатага, напоўненага колерамі, музыкаю, танцам дзеяння пра стварэнне свету, Марыя Мікалаеўна не ўстрымалася, спыталася:

— Ну як?

Марыя Іванаўна азірнулася навокал, на свежы, багаты, марозны снег, якога насыпала за вечар у тэатральным скверыку, і адказала:

— Вось каб на такі снег дываны — і выбіць!

## Дэфіцыты

Гаворка ля прылаўка ў дэфіцытныя сямідзесятыя. У вітрыне магазіна ляжаць аж два гатункі каўбасы. Варанай за рубель восемдзесят і сталовай за два дваццаць. Людзей у чарзе яшчэ назбіралася няшмат. Кабета за прылаўкам сярэдняга веку, таўсматая, белы халат на ёй, зашпілены на пажаўцелыя гузікі, напяты роўненька, як на бочачцы.

З ёю гаворыць маладзіца стройная, у светлым жаўтлявым плашчыку, на які спадаюць светлыя валасы, быццам знарок пафарбаваная пад колер адзежыны.

— Вы знаеце, ну проста пашанцавала. Іду — бачу насустрач хлопец з сетачкаю. А зверху томік Булгакава, у белакроні. Пытаюся, дзе дастаў? А ён: калі вам патрэбны, плаціце грошы і бярыце.

— Гэта ж трэба, цяпер кнігу не проста дастаць.

— Што вы! Калі ў нас кнігалюбы прынясуць, я вам куплю. Прыязджайце ў госці.

— Прыеду.

Прадаўшчыца бярэцца за доўгі нож і паварочвае галаву да чарговага пакупніка, каб адпусціць таму кавалак каўбаснага дэфіцыту.

Цяпер, калі на прылаўках хапае, абы грошы, і каўбас, і на выбар любых кніг, усё тое здаецца і даўнім, і нерэальным.

## Жартачкі

Яшчэ сцэнка з тых сямідзесятых, калі не толькі прадаўшчыца, але і грузчык у магазіне лічыўся патрэбным чалавекам. І мог паказаць свой нораў...

Ваня ў той дзень з'явіўся на работу крышку пазней. У чыстым сінім халаце, чыста паголены, з прыпудранаю драпінаю на шчацэ, што сведчыла аб учарашнім бурным вечары ў Ваневай сям'і. Хударлявы, стройны, Ваня ветрам насіўся па магазіне, шчыраваў ля мяснога аддзела, а дакладней — ля прадаўшчыцы Клані, ужо двойчы развядзёнкі. Прадаўшчыцы ведалі, што сёння Ваня будзе прасіць грошы на апахмелку ў Клані, што яна выбрана ахвяраю.

Падзеі разгорталіся, як і часта, але, мабыць, Кланя крыху перайграла, залішне абнадзеіла, а потым адмовіла.

Ваня вырашыў адпомсціць. Перагаворваючыся з грузчыкам Федзем, які круціўся побач з Ванем, бо разлічваў на чарку "чарніла" ад яго, Ваня "ўспомніў" пра свініну, якая яшчэ ўчора завезена ў магазін. І сказаў так, каб пачула цётка з сівымі буклямі, абутая ў разбітыя боцікі-румынкі, з выліналаю чорнаю брызентаваю сумкаю ў руках. Цётка зранку абходзіла ўсе магазіны ў наваколлі і люта ваявала супроць тых, хто хаваў дэфіцыт пад прылаўкам, таму добра далася ў знакі прадаўцам.

Праз некалькі хвілін бабы на чале з цёткаю пачалі штурмам браць Кланін аддзел. Праз паўгадзіны Кланя, ад якое збеглі два мужы, з ровам вылецела з-за прылаўка ў кабінет да загадчыцы. Той давялося весці "народную інспектарку" на склад і паказваць пустую халадзільную камеру.

Потым доўга шукалі Ваню, якога Федзя схаваў на складзе за скрынкамі з запалкамі і ўлучыў момант выпусціць з магазіна.

Ваня два дні не паказваўся на рабоце, пакуль не адышла ад гневу загадчыца і не сабралася работы, што хоць ты сама бярыся скрынкі цягаць. А неправеранага чалавека браць з вуліцы было небяспечна.

## Адсланіся

Жанчына ў гародніным магазіне. Паліто шэрае, з каракулевым каўняром, дабротнае. Глядзелася і тады пачальніцкай, і цяпер не па-пенсіянерску. Сама выбрала з кантэйнера качанчык капусты, стала ў чаргу да касы, і калі тая падышла, не чакаючы, пакуль касірка змахне з вагаў бруд, нагнулася і дзьмухнула на вагі гэтак, што пыл і пясок на тых, хто стаяў за ёй, — хлапчуку ў вочы, жанчыне на футра.

— Цётка, што вы робіце!

— Падумаеш, адсланіся...

І ад касы адышла нават з пагардаю і крыўдаю, прывыкшая ні на кога і ні на што не зважаць, ведаць толькі сябе.

## Рэўнасць

Жанчына пасля выхаду з бальніцы расказвае пра тое, што там пачула ад суседак па палаце. Час ёсць, і жанчыны гавораць і расказваюць пра ўсё, што ведалі і ведаюць, і пра яе Івана таксама расказалі, як да Райкі хадзіў, якую ў мястэчку ўсе ведаюць, і як у камандзіроўках па раёне падначоўваў у маладых настаўніц...

Ужо пяць гадоў па смерці таго Івана, а жанчына не проста плача, а ровам раве:

— Не, вясною я яму не прыбіраць магілу прыйду, вазьму малаток і паб'ю той помнік, які сама ставіла, калі ты б... такая была!

## Расказ пра бяду

— Што ты, Міша, нейкі як у ваду апушчаны ходзіш?

— Вуй, а чаго мне вясёлым быць? Дачка курыць пачала.

— Падумаеш, цяпер гэта не дзіва.

— Дык закурвае ж, як вып'е.

— Ну і што?

— А дзе выпіўка, там і бл-дкі. А пры бл-дках якая вучоба? З трэцяга курса і вытурылі!

## Дыялогі

Малы прывык спаць з лялькаю і перад тым, як легчы спаць, шукае яе:

— Дзе мая дзеўка? Дзіма пачь хоча.

Знайшоў, улёгся, адну руку на "дзеўку", заснуў і нават пальчык забыў у рот узяць.

Яго ж прэтэнзіі да бацькі:

— Ты нейкі дзікі свінння?

— Чаму?

— Ты Дзіму не любіш?

— Адкуль ты ўзяў гэта?

— Ты яго ў садку пакідаеш, а сам на работу ўцякаеш.

*(Працяг на стар. 14-15)*

## *Беларусы перамаглі...*

**Сярод канцэртна-музычных мерапрыемстваў беларуска-польскага памежжа ёсць адно вельмі значнае як для жыхароў Беларусі,так і для тых беларусаў, якія складаюць нацыянальную меншасць у суседняй Польшчы, бо яго вынікі — безумоўнае сведчанне таленавітасці і высокай духоўнай адоранасці нашага народа.**

**Вось ужо некалькі гадоў царква святой Тройцы ў польскім горадзе Гайнаўка гасцінна збірае ў сваіх сценах пеўчыя калектывы з краін не толькі Еўропы, але і Азіі.**

**Мінулы год не стаў выключэннем. З 21 па 28 траўня тут праходзіў XIX Міжнародны фестываль царкоўнай музыкі "Гайнаўка-2000".**

**У ліку 33-х удзельнікаў фестывалю быў запрошаны і канцэртны хор Мінскай Духоўнай Акадэміі і Семінарыі пад кіраўніцтвам дыякана Андрэя Скробата.**

**Беларускі хор выступаў у намінацыі "прыходскія хоры". Трэба адзначыць, што ў нашых канкурсантаў былі даволі сур'ёзныя і добра падрыхтаваныя замежныя канкурэнты, ужо досыць вядомыя калектывы: хор са Славакіі, з Пачаеўскай і Варшаўскай семінарый, хор прыхода святога Мікалая з Сеула (Карэя), хор "Zumoro" праваслаўнай семінарыі Катаям-Керала (Індыя) і хор праваслаўнага Ардынарыята Войска Польскага з Варшавы.**

**Нашым хлопцам выпала выступаць другімі. І ўдача іх не абмінула. Прадстаўнік конкурснага журы Дзмітрый Дзімітраў з непадробным захапленнем выказаўся наконт выступлення беларускага калектыву: "Хор Мінскай Духоўнай Семінарыі пры Жыровіцкім манастыры — проста надзвычайны, бліскучы. Усё было дасканала: і рэпертуар, і выканаўцы, і рэгент. Той факт, што харысты спявалі без выкарыстання нот і рэгент дыякан Андрэй Скробат у час канцэрта таксама не падстрахоўваўся музычным тэкстам, сведчыць аб вельмі грунтоўнай падрыхтаванасці і высокім узроўні выступлення. Важна і тое, што быў абраны ўдалы рэпертуар для дадзеных галасоў. Мне асабліва спадабалася "Мнагалецце" — кампазіцыя з твораў Бартнянскага і Грачанінава. Менавіта такая камбінацыя сустракаецца даволі рэдка, тым больш у добрым і якасным выкананні. Хоры Жыровіцкай і Варшаўскай Семінарыі мне вельмі спадабаліся: чыстае гучанне, маладыя моцныя галасы, глыбокае і пранікнёнае духоўнае выкананне".**

**Для ўрачыстага абвяшчэння вынікаў конкурсных выступленняў усіх удзельнікаў фестывалю запрасілі сабрацца ў галоўнай зале Дома культуры горада Гайнаўка.**

**Пасля прадмовы дырэктара фестывалю Мікалая Бужко на сцэну выйшаў старшыня журы кампазітар Рамуальд Твардоўскі для абвяшчэння вынікаў, якія, дарэчы, нікога не здзівілі, бо ўсе добра памяталі найвышэйшы ўзровень нашых суайчыннікаў. Хор Мінскай Духоўнай Семінарыі пад кіраўніцтвам дыякана Андрэя Скробата заняў першае ганаровае месца. Брава!**

**І нарэшце, пасля ўрачыстай цырымоніі абвяшчэння вынікаў усе калектывы выправіліся на агульнае святочнае вогнішча ў Белавежскую пушчу — прыродную святыню беларусаў, — дзе ў сяброўскім асяроддзі маладыя выканаўцы лепш пазналі адзін аднаго, даведаліся пра творчыя планы на будучыню.**

**Акрамя выключна фестывальных выступленняў, наш хор прыняў удзел у двух гала-канцэртах у Гайнаўцы і ў Беластоку.**

**Арцём КАВАЛЕЎСКІ**

## *Заззялі "Зоркі" на небасхіле*

**У лютым 1921 года ў Мінску выйшаў першы нумар першага за ўсю гісторыю Беларусі часопіса на беларускай мове для дашкольнікаў і малодшых школьнікаў "Зоркі". Ён выдаваўся да чэрвеня 1922-га, усяго пабачыла свет 10 нумароў. Рэдактарам з'яўляўся Змітрок Бядуля. У "Зорках" упершыню былі апублікаваны вершы Янкі Купалы "Песня і казка", "Бай", "Сын і маці", "А зязюлька кукавала", "Мароз" і іншыя. Друкаваліся Якуб Колас, Міхайла Грамыка, Янка Журба, сам Бядуля. З апавяданнем "Гузкі" і вершам "К дзеткам" выступіў Кузьма Чорны. Змяшчаліся загадкі, песні, падавалася апісанне гульняў, мелася падборка "Дзіцячая творчасць". Міхась Чарот прапанаваў п'есу "Пастушкі".**

# ВОДСВЕТЫ

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 13)*

### Пра паэтаў і празаікаў

Малы ў мяне: "А хто ты? Паэт ці празайка?" Калі "празайка", то ўсё зразумела, тлумачэнні непатрэбны, а то што такое той "празаік".

У сувязі з гэтаю згадкаю ўспомніў пра вяльможны прыезд у Мінск у 1977 годзе Расула Гамзатава. Вядома ж, са світаю, у суправаджэнні дырэктара саўгаса, які аплачваў усе яго рахункі. Выступаючы ў вялікай зале, ці не філармоніі, умудрыўся павіншаваць прысутных з 60-годдзем Беларусі. Зблытаў з Украінаю, яе юбілеем. Пакрыўдзіўся, што недастаткова яму ўдзялялі ўвагі, у Саюзе пісьменнікаў сустракалі не Танк, не Шамякін, а Чыгрынаў. Аб гэтым не раз паўтараў пасля:

— Перенимал меня в Союзе какой-то перезаик з болшим животом...

— Чыгрынаў?

— Не знаю, какой-то перезаик с болшим животом. Нэ читал.

На вечары пры Кузьміну пачаў хваліць Дом літаратара, клопаты партыі і ўрада, потым перавярнуў на сваё:

— Но ведь это же дом сидящей забастовки! Там писателей нэту, там поэтов нэту, там поговорить нэ с кем. Там одни чиновники по кабинетам. Мой хороший друг Танк. Я пять дней ему звоню — нэт на работе. Зачем такой болшой кабинет?

А тым часам у рэстаране з кампаніяй устройваў загулы, арлы з яго світы раскідалі ва ўсе бакі пяцёркі цэлымі пачкамі і пацяшаліся, як іх хапалі.

Скончылася тым, што вышэйшае кіраўніцтва дало дабро на тое, каб член Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ціха, непрыкметна пакінуў стольны Мінск.

### Расправа

У двары, павешаныя за калашыны, сохнуць памытыя мужчынскія штаны. Суседка суседцы:

— Верка, бачыш, Ленка свайго Віцьку за ўчарашнюю замочку ўверх нагамі павесіла.

### "Апенькі"

Познавячэрні міжгародні аўтобус, набіты бітком, заінелы і цяжкі. Усім хочацца хутчэй даехаць дадому, вадзіцелю — да начлегу. Даволі немаладога ўжо веку цётка, якая прасілася ў шафёра, каб узяў хоць да Валяр'ян, якой уступілі месца на заднім сядзенні, на "самавары", меле з суседкаю, не сціхаючы ні на хвіліну. Спынілася толькі тады, калі аўтобус пачаў зварочваць з шашы, даўно праехаўшы і тыя Валяр'яны, і Шышчыцы.

— Куды ж гэта мы ўжо прыехалі?

— А куды вам трэба, бабка?

— У Шышчыцы.

— Дык гэта ж ужо Ленькі!

— Якія Ленькі? Самі вы апенькі! Мне ў Шышчыцы трэба. Вязі мяне назад.

Аднадушныя мацюкі цётцы і ад пасажыраў, і ад шафёра. Але за вокнамі аўтобуса — ноч, зіма, мароз. І вымушаны быў аўтобус завярнуцца і везці балбатлівыя "апенькі" назад, да яе Шышчыц.

### Жаночая логіка

Жанчына слухае радыёспектакль, перажывае за гераіню, не можа ўстрымацца ад каментарыяў:

— І чаго ж яна, дурніца, раве? Яе ж любяць!

### Пяльменшчыкі

Следам ідуць два падпітыя мужчыны і жанчына. Гавораць моцна, што каб і не хацеў слухаць, дык пачуеш. Першы пахваляецца, што атрымаў кватэру на адной пляцоўцы з самім генералам. Другі, каб не адстаць у самапахвалянках, расказвае, як з сябрам хадзіў запрашаць пісьменніка, каб выступіў у іх на будоўлі. Думалі, што той пачастуе іх і чарку добрую паставіць, а той ім:

— Цэлую міску, вялізную, як таз, пельменяў на стол паставіў. Есці запрашае, і болей нічога. Во чорт! Шапчу Віцьку: "Хоць лопнем, а пельмені ўтрубім!"

Глядзеў той пісацель на нас і ўзмаліўся:

— Браткі, хоць жонцы трохі пакіньце!

Вот табе і пісацель, вот мы з Віцькам і выпілі на дурніцу. А да нас выступаць прыходзіў, казалі, добра і гладка гаварыў. Мы з Віцькам слухаць не хадзілі пасля тых пельменяў, тым больш Толік вяленых ляшчоў прынёс, пайшлі піва ў шалман піць. Нахрэн нам той пяльменшчык!



### "Цаніцель"

Сустрэў былога аднакласніка, пагаварыць са мной хоча — "за жыццё", "сур'ёзна".

— Чытаў, брат, тваю стаццю. Добра ты раскрытыкаваў, брат, п'яніц, добра. Але, брат, так і не разабраўся, пра што ты там напісаў...

Гэта пра апавяданне "Міш".

### Дакладней нельга

Чалавеку хопіць на век і адной падушкі.

Ёсць хлеб — пакуль цэп.

### Клапан

Возяць гной з канюшні. Мужчыны прыселі пакурыць, а жанчыны пры іх — пагаварыць.

— Ванька, ты, мабыць, сёння многа вазоў вывез, што кабыла мокрая.

— Да не, гэта я забыў матор выключыць і пару спусціць.

— А як жа ты тую пару спускаеш?

— А во!

Ванька спаважна падыходзіць да кабылы, падымае ўгору хвост і трымае.

Рогат.

### Чаканне

Вясковая хата, дагледжаная, пафарбаваная. Адмысловыя, таксама пафарбаваныя платы. Усё даведзена да ладу. У хаце і чыста пафарбаваная столь, і падлога, і дываны і дыванчыкі на ёй. Акуратна, прыгожа засланыя ложкі. І цішыня. Цётка Надзя сядзіць з клубочкамі нітак. Пытаюся — вязаць пачалі?

— А трэба ж нечым заняць сябе. Гаспадаркі ж ужо няма. Ну куды выйдзеш? Паўвёскі пустых хат стаіць на зіму. Дзень яшчэ нічога, туды-сюды варушышся. Але ж дні яшчэ кароценькія, а ночы такія даўжэзныя. Колькі старому чалавеку таго сну патрэбна. Адна капялютка. Не будзеш жа святло паліць, па хаце блытацца. Ляжыш, успамінаеш, думаеш. Усё пераўспамінаеш, усё перадумаеш, каторы ўжо раз, па катораму кругу. Аж не верыцца, што ўсё тут гудзела ад галасоў, ад людзей. Колькі папераўспамінаеш! І ўсіх ужо няма. На лета яшчэ то дзеці, то ўнукі з'едуцца, дзень большы, часам і паверыш, што жыццё вярнулася ў нашу вымершую вёску. А цяпер сядзіш, радуешся сама сабе, што дагледзішся, што і есці зварыш, і прыбярэшся. А далей што? Вот і сёння ўзяла і снег перад варотамі раскідала, каб адчыняліся, і на дварэ снег прыбрала, каб, як прыедуць дзеці, магла машына на двор заехаць...

Выходжу на вуліцу, у цішыню, ад якой пасля горада з непрывычкі тоненька звініць увушшу. Снег чысты, крыху адліжны, таму быццам тоненька падсінены. Думаю, што і ў бацькі перад варотамі заўсёды раскіданы ў бакі снег, і насупраць іншых варот. І калі едзеш па вёсках, колькі такіх пад'ездаў заўважаеш.

Спіць, дасынае сваё вёска, хоць на дзень дзяцей сваіх у адведкі чакае.

### Гаспадарка

Доктар у кабінеце аглядае хворага, ужо старэнькага, худзенькага, але яшчэ даволі рухавага дзядка-ветэрана.

— На вашы гады, Аляксандр Сцяпанавіч, здароўя яшчэ асталося, грашыць на Бога няма чаго.

— А я і не грашу. Вось толькі што галава ні з таго ні з сяго балець пачынае. І ногі не тыя сталі.

— Што ж вы хочаце, пара і склерозу быць ужо. Трэба было б, на добры лад, легчы вам у бальніцу пад кропельніцу, пракапаць крыху вашы сасуды — лягчэй бы было на нейкі час.

— Не магу, доктар, у мяне гаспадарка.

— Во, дык вы яшчэ і хазяйства трымаеце!

— А як жа! Адзін певень, дзве куры, кошка і сабака. Хто іх без мяне пакорміць?

### Пытанне

Пасля выстаўкі ідзе спрэчка пра карціны мастакоў. І тут голас:

— Можна мне задаць пытанне?

— Пачакайце, дайце мне дагаварыць.

— Не, я хачу зараз.

— Запішыце, калі баіцеся, што забудзеце.

На запытальніка зашыкалі і ён прымоўк. Нарэшце выступоўца скончыў.

— Калі ласка, ваша пытанне.

— Скажыце, а чаму на вашым малюнку хлопчык у кашульцы і без штаноў?

У адказ дружны рогат залы. А запытальнік з годнасцю чалавека, які зрабіў вялікую справу, сядае на крэсла. Мастакі і не здагадваюцца, што гэта пачынаючы літаратурны крытык, які надрукаваў ужо некалькі рэцэнзій у газетах.

### Смякуха

Дзяўчынка ў чарзе балабоніць і балабоніць да сяброўкі. А змест "х" вымаўляе "к".

— Такая смякуха, такая смякуха была...

### "Хаджаін"

Райкомаўскага конюха празвалі "чацвёртым сакратаром". Чалавек дабрадушны, ціхі і кульгавы, ходзіць з палкаю. Упаў дзіцем з бярэзіны і скалечыў нагу. Але калі падап'е, дома становіцца грозным, крычыць на жонку:

— Ганна, падсадзі на палок! Ну, як узлезу, дам палкі! Хто ў хаце хаджаін? Я хаджаін!

### Адным сказам

Пра чалавека, які зазнаўся:

— Босых цукерак купляць не хоча, а каб у паперках!

### Маладосць і старасць

Дзея адбывалася ля "тоненькага" — гэтак у размове называлі Дом культуры тонкасуконнага камбіната. У дзяўчатак, якія на другім паверсе ў зале рэпеціравалі танцы, быў перапынак. Адна з дзяўчынак у адным гімнастычным трыко знарок села на падваконнік, склаўшы свае прыгожыя ногі па-турэцку. Сяброўкі стаяць побач, пасмейваюцца, бо мужчыны, якія праходзяць па тратуары, дзяруць галовы ўгору. Хто ідзе з жонкаю, атрымоўвае ад яе кухталя пад бок. А тут і дзядок паказаўся, акуратна паголены, хударлявы, у касцюмчыку, з лёгкім, да бляску адпаліраваным рукамі кіёчкам. Следам за астатнімі і ён зірнуў угору і аж рот адкрыў, поўны залатых зубоў, і гэтак з адкрытым ротам і задранаю ўгору галавою збавіў хаду, пра кіёк свой забыўся, а той яму паміж ног трапіў. Дзядок потырч на тратуар, дзяўчаткам і прахожым — рогат, а старому — поўны канфуз.

### Перачытваючы вялікіх

Перагортваў запісныя кніжкі яшчэ студэнцкіх гадоў і спатыкнуўся на выпісках, зробленых з Льва Талстога.

"Всякая власть чует, что она существует только благодаря невежеству народа, и потому инстинктивно и верно боится просвещения и ненавидит его".

"Видел во сне: один сидит на столбе и люди любуются им и хвалят, другой, чтобы победить, превзойти его, пляшет на гвоздях. Третий просто добрый".

"Попробуйте стать совершенно на уровень с народом, он станет презирать вас". Сказана ў дачыненні да літаратараў.

"Жить надо, а жить нечем".

"Во многом я возвращаюсь к детскому взгляду на вещи".

Вось у якім накірунку бачыў свой жыццёвы шлях вялікі Леў Мікалаевіч. Міжволі падумалася пра некаторых нашых творцаў, якія самі сябе ўзвялі ў ранг класікаў. І ўжо не ходзяць па зямлі, а па-царску плывуць над ёй, несучы свае ўяўныя німбы, лічаць абавязкам па ўсіх жыццёвых пытаннях выказваць свае безапеляцыйныя меркаванні, налева і направа раздаваць няпрошаныя парады і павучанні... і няўмольна ўсё болей і болей зграфаманьваюцца.

# Іван НОВІКАЎ



22 лютага пасля цяжкай хваробы на восемдзесят трэцім годзе жыцця памёр вядомы беларускі пісьменнік, заслужаны дзеяч культуры Беларускай ССР, лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Якуба Коласа, Дзяржаўнай прэміі БССР імя П. М. Лепяшынскага і Дзяржаўнай прэміі БССР Іван Новікаў.

Беларуская літаратура страціла аднаго з яркіх, таленавітых летапісцаў Вялікай Айчыннай вайны, пісьменніка-патрыёта, чулага, выключна добрага і шчырага чалавека.

Нарадзіўся Іван Рыгоравіч Новікаў 26 студзеня 1918 года ў вёсцы Нязнань Клімавіцкага раёна Магілёўскай вобласці ў сялянскай сям'і. Скончыў Магілёўскі газетны тэхнікум (1935), вучыўся ў Аршанскім настаўніцкім інстытуце (1938) і ў Ленінградскім інстытуце журналістыкі імя В. В. Вароўскага (1939—1941). Завочна скончыў аддзяленне журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна (1955). Працаваў у клімавіцкай раённай газеце "Камуна" (1935—1938). У Вялікую Айчынную вайну ўдзельнічаў у абароне Сталінграда, у вызваленні Украіны, Малдавіі, Балгарыі, Югаславіі, Аўстрыі. У 1944 годзе быў паранены ў баях за венгерскі горад Секешфехервар. Ганаровы грамадзянін балгарскага горада Слівена. З 1946 года працаваў у рэдакцыі газеты "Советская Белоруссия", з 1957 года — карэспандэнт, а потым загадчык карэспандэнцкага пункта газеты "Правда" па Беларускай ССР.

Літаратурную дзейнасць Іван Новікаў пачынаў з нарысаў. Пісаў на рускай і беларускай мовах. Вядомыя яго нарысы "Дзесяць тыдняў у Злучаных Штатах" (1959), "Бессмертие Минска" (1977), "Минск — город-герой" (1986) і іншых. Ён — аўтар зборніка фельетонаў "Уласны іншаземец", дакументальных аповесцей "Руіны страляюць ва ўпор" (1962), "Дарогі скрыжаваліся ў Мінску" (1964), "Да світання блізка" (1975), якія склалі трылогію "Мінскі фронт" (1977), аповесці "Тварам да небяспекі" (1968), рамана "Ачышчэнне" (1987), кнігі аповесцей і апавяданняў "Параненая памяць" (1990). Напісаў з Іванам Чыгрынавым сцэнарый шматсерыйнага тэлефільма "Руіны страляюць", які пастаўлены ў 1973 годзе.

Кнігі Івана Новікава, прысвечаныя мінскаму падполлю, сталі поруч з такімі выдатнымі творамі, як "Брэсцкая крэпасць" С. Смірнова, "Я з вогненнай вёскі..." А. Адамовіча, Я. Брыля і У. Калесніка. Яны вылучаюцца праўдзівасцю, эмацыянальнай сілай, высокім мастацка-эстэтычным уздзеяннем на чытача і даказваюць, што сапраўдны чалавек застаецца патрыётам Радзімы нават у самых складаных абставінах жыцця. Іван Новікаў, як літаратар, па сутнасці здзейсніў свой высокі грамадзянскі абавязак, расказаўшы аб вялікім подзвігу народа ў барацьбе з нямецкім фашызмам, аб героях-патрыётах мінскага падполля.

Самаадданая творчая праца пісьменніка, удзельніка Вялікай Айчыннай вайны была ўшанавана ордэнамі Айчыннай вайны І ступені, Працоўнага Чырвонага Сцяга, Чырвонай зоркі, "Знак Пашаны", шматлікімі медалямі, Граматай Вярхоўнага Савета БССР.

З жыцця пайшоў чалавек, якім з поўным правам можа ганарыцца родная зямля. Яго жыццёвы шлях — прыклад высакароднага служэння Айчыне. Усе, хто ведаў Івана Рыгоравіча Новікава, назаўсёды захаваюць аб ім самую светлую памяць.

**Саюз беларускіх пісьменнікаў**

# Паменела дабра і справядлівасці

Не стала Івана Рыгоравіча Новікава.

Не стала аднаго з тых, хто на сваіх плячах вынес цяжар барацьбы з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, ратаваў чалавецтва ад страшнай чумы дваццатага стагоддзя.

Не стала журналіста і пісьменніка, які на працягу свайго жыцця ніколі не здраджваў тым ідэалам, у якія верыў і якія абараняў. І не толькі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, але і ў паўсядзённым жыцці. У жыцці мірным яму часам даводзілася не нашмат лягчэй, чым на пярэднім краі барацьбы з фашызмам. Там Іван Рыгоравіч добра ведаў, хто вораг, а хто свой. Пасля вайны ж нярэдка пачыналі здраджваць тыя, каму верыў. У вочы гаварылі адно, а рабілі другое. Што гэта і сапраўды так, ён асабліва пераканаўся, калі працаваў над аповесцямі "Руіны страляюць ва ўпор", "Дарогі скрыжаваліся ў Мінску", "Да світання блізка", што склалі трылогію "Мінскі фронт". Знайшлося нямала тых, каму не трэба была аб'ектыўная праўда пра мінскае падполле. Для іх галоўным заставаўся асабісты спакой. Калі афіцыйна ўсталявалася думка, што яно было створана самімі гітлераўцамі ў правакацыйных мэтах, няхай так і будзе. Яны думалі пра свой спакой, пра сваю жыццёвую ўладкаванасць, трымаліся за высокія крэслы і ганаровыя пасады.

Іван Новікаў належаў да тых, каму спакой толькі сніўся. Так было яшчэ тады, калі ён працаваў над кнігай пра Веру Харужую, узнаўляючы праўду пра гэтую слаўную дачку беларускага народа. Далучыўшыся да матэрыялаў пра мінскае падполле, ён зноў адчуў сябе на пярэднім краі барацьбы. Няхай і ў мірны час, але вострай, бескампраміснай. Не пра сябе думаў, а пра тых, хто незаслужана забыты, а некаторыя абылганы.

У тым, што сёння ёсць у Мінску вуліцы, якія носяць імёны Казінца, Кедышкі, іншых герояў мінскага падполля, — і яго заслуга. Як заслуга і ў тым, што з'явіўся шэраг мемарыяльных дошак, якія таксама нагадваюць пра мінчан мужных і няскораных. А яшчэ дзякуючы і Івану Рыгоравічу Новікаву сталіца нашай рэспублікі стала горадам-героем. Адбылося гэта пасля таго, як з вялікім поспехам прайшоў на экранах шматсерыйны тэлевізійны фільм "Руіны страляюць..."

Ужо гэтага дастаткова, каб памятаць Івана Новікава заўсёды. Але ж засталіся і іншыя, надзва цікавыя і па-мастакоўску дасканалыя кнігі, напісаныя ім, — раман "Ачышчэнне", зборнік аповесцяў і апавяданняў "Параненая памяць". Колькі б часу ні мінулася, а яны будуць нязменна прыцягваць да сябе ўвагу чытача, неабыякавага да нацыянальнай гісторыі; чытача, для якога мінулае — урокі, засвоіўшы якія паспяхова, можна ўпэўнена глядзець і ў дзень заўтрашні.

З адыходам Івана Рыгоравіча Новікава паменела праўды, справядлівасці, сумленнасці. Аднак, памятаючы гэтага выдатнага чалавека, пісьменніка, грамадзяніна, мы будзем спрыяць таму, каб праўда, сумленнасць, справядлівасць, так патрэбныя ў грамадстве сёння, і надалей давалі шчодрае зерне.

Бывайце, незабыўны Іван Рыгоравіч!

Няхай пухам будзе вам родная беларуская зямля!

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# Іван ЦІШЧАНКА



24 лютага раптоўна памёр вядомы беларускі навукоўвец-фалькларыст і літаратуразнаўца, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Іван Кірылавіч Цішчанка.

Іван Цішчанка нарадзіўся 22 мая 1930 года ў вёсцы Улукі Прапойскага (Слаўгарадскага) раёна Магілёўскай вобласці ў сялянскай сям'і. Скончыў Слаўгарадскую сярэднюю школу, а затым — філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта (1956). Выкладаў мову і літаратуру ў Мінскім тэхнікуме харчовай прамысловасці (1956—57). Шмат гадоў працаваў у Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук Беларусі. З 1992 года — дацэнт, прафесар, загадчык кафедры фальклору Беларускага універсітэта культуры. Узнагароджваўся Ганаровымі граматамі, медалём.

Выступіў у друку ўпершыню ў Слаўгарадскай раённай газеце. Супрацоўнічаў падчас вучобы ў студэнцкай газеце "Беларускі універсітэт". Першыя публікацыі па пытаннях фалькларыстыкі і гісторыі літаратуры датуюцца 1956-м годам. З 1965 года ўдзельнічаў у падрыхтоўцы шматтомнага акадэмічнага збору беларускага фальклору. У серыі "Беларуская народная творчасць" падрыхтаваў тамы "Жартоўныя песні", "Песні пра каханне", "Сямейна-бытавыя песні", "Прыпеўкі", "Сацыяльна-бытавыя песні" (разам з В. Скідан). Адзін са складальнікаў зборнікаў "Беларускія частушкі", "Беларускі фальклор Вялікай Айчыннай вайны", "Паэзія змагання". Выдаў манаграфіі "Беларуская частушка. Пытанні генезісу жанру", "Жыццё песні" і "Да народных вытокаў", сааўтар манаграфій "Беларуская народная вусна-паэтычная творчасць" і "Беларуская фалькларыстыка". З'яўляецца адным з аўтараў падручнікаў, дапаможнікаў, хрэстаматый і праграм па фальклоры для студэнтаў ВНУ.

Іван Цішчанка плённа выступаў і як літаратурны крытык, апублікаваў шмат рэцэнзій на кнігі беларускіх пісьменнікаў і літаратуразнаўцаў. Пісаў вершы і прозу. Прымаў таксама ўдзел у стварэнні дакументальных фільмаў, прысвечаных творчасці А. Русака, Р. Шырмы і М. Забэйды-Суміцкага. Памяць пра Івана Кірылавіча Цішчанку, нястомнага збіральніка, даследчыка і прапагандыста беларускай народнай творчасці, прызнанага навукоўца, літаратара і педагога, вернага сына Бацькаўшчыны назаўсёды застанецца ў сэрцах усіх тых, хто яго ведаў, хто разам з ім жыў, працаваў і тварыў.

**Саюз беларускіх пісьменнікаў**

## *Бывай*

Светлай памяці І. К. ЦІШЧАНКІ

*Вывозяць машыны за горад зіму,*
*Ў вясну адчыняюцца дзверы.*
*Што поціск рукі тваёй больш не прыму, —*
*Не веру, не веру, не веру!*

*Хай ты затрымаў у душы і вачах*
*Красу нашых пожняў і неба, —*
*Праводзім цябе мы ў апошні твой шлях,*
*А сэрца галосіць: "Не трэба!"*

*Заўсёды Іване Радзімаю жыў,*
*Руплівым быў роднай старонкі.*
*Студэнтам і веды,*
*і радасць дарыў*
*Твой голас разумны і звонкі.*

*Нялёгка, няпроста*
*ў жыцці ўсё было,*
*Бо подласць і сёння баль правіць,*
*А ты справядлівасці,*
*крыўдзе назло,*
*Плячо мог надзейна падставіць.*

*І зноў Беларусі па сыне рыдаць,*
*І хмары заплачуць ад стрэсу.*
*Нам будзе заўсёды цябе не ставаць,*
*Вучоны, пісьменнік, прафесар.*

*Зямля скамянела, і плача прастор,*
*І мне невыносна і горка.*
*Душа твая, дружа, ўзлятае да зор,*
*І позірк губляецца ў зорках...*

**Анатоль МАЙСЕЕНКА**

*25.2.2001*

